З найлепшымі зычэньнямі

Выданнем гэтай кнігі апекаваліся:

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Беларуская Асацыяцыя журналістаў

Касцёл святых Сымона і Алены (Мінскі Чырвоны касцёл)

Міхаіл Пастухоў,
заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь

Фонд Генадзя Грушавога

Кацярынінская царква ў Мінску

Мінскі касцёл св. Сымона і Алены (Чырвоны касцёл)

Сядзіба

УДК 087.5:947.6+882.6-4
ББК 63.3 (4Беи)
Т 19

*Старадаўняя Беларусь знаходзіцца ў мінулым часе. Трапіць туды можна толькі ў думках. Але навошта юнаму чалавеку падарожнічаць ў мінуўшчыну, калі ягонае жыццё — наперадзе? З тае прычыны, што там, у даўніне, — справы, здабыткі, страты, перамогі і паражэнні, каханне і здрады, радасць і слёзы нашых дзядоў і прадзедаў, нашы таямнічыя карані. Цікава ведаць, чаму мы нарадзіліся тут, а, прыкладам, не ў Гасконі, чаму рознімся ад суседзяў мовай і звычаямі, чаму ў нас іншыя песні, іншыя святыя і пакутнікі, іншыя героі. Будучыня прыходзіць сама, мінулае адкрываецца толькі цікаўнаму.*

*КАСТУСЬ ТАРАСАЎ*

Мастакі:
*Святлана* РЫЖЫКАВА,
*Мікалай* ЧАРКАСАЎ, *Ганна* ТАРАСАВА (паасобныя малюнкі)
Вольга БУГАЕНКА

*Аўтар выказвае шчырую пашану ўсім, хто дапамагаў выпусціць гэтую кнігу. З асаблівай прыемнасцю ён хоча падзячыць Ірыне ГІМПЕЛЬ, Раісе ЦІМАШЧУК, Марыі ШАБАЛІНСКАЙ, Маргарыце ЯКУБЧЫК, Таццяне АРХІПЕНКА, Алесю ДАЎГІЦКАМУ, Таццяне АРЛОЎСКАЙ, а таксама Алесю ГУРКОВУ, Паўлу ЖУКУ, Алесю АНЦІПЕНКУ, Вацлаву АРЭШКУ за каштоўную дапамогу, без якой гэтая кніга наўрадці пабачыла б свет. Аўтар глыбока ўдзячны супрацоўнікам выдавецтва БелЭН В. ОСІПАВУ, В. ПАЗДНЯКОВУ, А. СКАРАХОДУ за добразычлівасць і трапныя заўвагі і шкадуе, што не меў магчымасці выправіць усе заўважаныя імі недахопы.*

ISBN 985-6305-04-7

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеньнія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам;

І тое нуднае ягнят
Бляяньне-зоў на пасьбішчы,
І крык варонiных грамад
На могілкавым кладзьбішчы.

І ў белы дзень і ў чорну ноч
Я ўсьцяж раблю агледзіны.
Ці гэты скарб ня збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён ня зьедзіны.

Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны сьветач-полымя,
Што сярод цемры і глушы
Мне сьвеціць між вандоламі.

Жыве з ім дум маіх сям'я
І сьніць з ім сны нязводныя...
Завецца-ж спадчына мая
Ўсяго Старонкай Роднаю.

*19/IX—18 г.*

*Янка Купала*



## Месца ў Еўропе

Наша краіна Беларусь ляжыць у цэнтры Еўропы. Геаграфічны цэнтр кантынентальнай Еўропы знаходзіцца ў сярэдзіне трыкутніка, што ўтвараюць гарады — Чэрвень—Асіповічы—Клічаў, а больш дакладна — на паўднёвай ускраіне вёскі Крупкі Якшыцкага сельсавета Бярэзінскага раёна, за два кіламетры на захад ад правага берага Бярэзіны. Яго ўтварае перакрыжаванне паралелі 53° 31' паўночнай шыраты і мерыдыяна 28°54`30" усходняй даўгаты.



## Памеры. Насельніцтва

Беларусь займае абшар у 207 тысячаў квадратных кіламетраў, яе насельніцтва — 10 мільёнаў чалавек. Яна ўваходзіць у лік сярэдніх еўрапейскіх краінаў. Напрыклад, тэрыторыя Аўстрыі — 83 850 кв. км, Бельгіі — 28 700, Балгарыі — 110 900, Вялікабрытаніі — 244 100, Грэцыі — 131 900, Партугаліі — 92 100, Швейцарыі — 41 100, Румыніі — 217 500 кв. км. З дзяржаваў Еўропы маюць большае, чым Беларусь, насельніцтва — Вялікабрытанія (57 млн), Германія (75 млн), Іспанія (39 млн), Італія (58 млн), Нідэрланды (15 млн), Польшча (39 млн), Румынія (23 млн), Францыя (56 млн). Такое ж, як у Беларусі, ці блізкае па колькасці насельніцтва пражывае ў Бельгіі (10 млн), Балгарыі (9 млн), Венгрыі (11 млн), Грэцыі (10 млн), Партугаліі (10,5 млн), Швецыі (8,5 млн).

Шмат беларусаў жывуць за межамі Бацькаўшчыны. Каля двух мільёнаў пражывае ў розных краінах былога СССР. Больш чым мільён складае беларуская дыяспара ў Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, Аўстраліі, Германіі, Францыі, Англіі ды іншых краінах свету.

## Карані мовы

Беларуская мова адносіцца да індаеўрапейскай моўнай сям'і. Першасная прарадзіма індаеўрапейцаў, па меркаваннях вучоных, знаходзілася ў Паўднёвым Прычарнамор'і, недзе на землях сённяшніх Турцыі, Ірака, Ірана. 5000—4000 гадоў таму назад адбывалася вялікае перасяленне народаў. Большая частка індаеўрапейцаў рушыла на Балканы, другая частка міґравала ў адваротным кірунку — і дасягнула даліны Інда. Балканскія продкі славянаў паступова засвоілі прастору паміж Віслай і Лабай (Эльбай). На пачатку першага тысячагоддзя нашай эры ўжо склаліся агульнасці заходніх, паўднёвых і будучых усходніх славянаў. Індаеўрапейскія карані прасочваюцца толькі лінгвістычна (праз аналіз моваў). Напрыклад, у старэйшай мове Індыі — санскрыце, прынесенай індаарыйцамі пры перасяленні, захавалася шмат словаў, якія ёсць і ў нашай мове:

*Агні* — агонь, *веды* — веды, *ваю* — вецер, *дам* — дом, *манса* — мяса, *свакір* — свёкар, *давар* — дзверы, *гіна* — зіма, *таноці* — цягнуць, *жаці* — знаці, *братар* — брат, *матар* — маці, *ні* — ніз, *адзі* — адзін, *чатур* — чатыры, *жыраці* — глатаць, жэрці, *прыя* — прыемная, *тада* — тады, *праці* — процi, супроціў, *бхага* — бог, *крышна* — чорны, карычневы.


Скроневае ўпрыгожанне






## З'яўленне славянаў

Засяленне тэрыторыі Беларусі славянамі адбывалася на працягу некалькіх стагоддзяў падчас Вялікага перасялення народаў (II – VI стст. н. э.).

Галоўную ролю ва ўтварэнні беларускага народа адыгралі **дрыгавічы**. Гэтае племя прыйшло з Дуная і Прыкарпацця. Частка племені не знялася ў пераход, а засталася на радзіме – у Македоніі, у Фракіі на рацэ Драгавіц. Нейкая частка дрыгавічоў рушыла ў іншым кірунку і апынулася сярод палабскіх славянаў. У Беларусі дрыгавічы пасяліліся паміж Прыпяццю і Дзвіной, яны займалі землі на Дняпры, басейн вярхоўя Нёмана, іхная паўночная мяжа праходзіла па лініі гарадоў Заслаўе, Лагойск, Барысаў.

Засяленне тэрыторыі Беларусі пачалося 35 тысячаў гадоў назад. Адна з адкапаных тагачасных стаянак знаходзіцца каля вёскі Юравічы Гомельскай вобласці. Уся тэрыторыя Беларусі была заселеная ўжо 10 тысячаў гадоў назад. Адкрыта больш як 100 паселішчаў гэтай эпохі. Сляды прабалтаў (продкаў балтаў) на Беларусі датуюцца XV – XII стагоддзямі да н. э. З VIII стагоддзя да н. э. насельніцтва Беларусі ўжо ўзводзіла ўмацаваныя гарадзішчы. Захавалася больш за 1000 такіх гарадзішчаў.

Гарадзішчы будавалі на ўзвышаных месцах каля берагоў рэчак. Гарадзішчы звычайна займалі плошчу ад 5 да 20 сотак. Буйныя гарадзішчы мелі плошчу да 10 тысячаў кв. м (100 сотак). Вакол гарадзішча выкопвалі равы, насыпалі валы. На валах рабілі сцены з бярвёнаў. Сярэдзіну гарадзішча займалі жытло і гаспадарчыя пабудовы.




**Крывічы** (пачатковая назва племені – *крэвы, скрэвы*) занялі вялікую прастору – ад Верхняга Панямоння да Паволжа, ад Пскоўскага возера да Верхняга Пасожжа. Мяркуюць, што крывічы прыйшлі з басейна ракі Лабы (Эльбы), дзе адзначана багата крывіцкіх тапонімаў. Пазначаны імі і шлях перасялення крывічоў на ўсход у тых месцах, дзе яны на працяглы час спыняліся. Многа іх у Верхнім Панямонні. Пра сталае прыстанішча крывічоў на гэтых землях сведчаць назвы старажытных паселішчаў – Крэва, Крэвагорад (пачатковая назва Вільні). Тая частка крывічоў, што мела цэнтрам Полацак, атрымала асобную назву – *палачанаў*.



Полацк быў іхным дзяржаваўтваральным асяродкам.

Раней чым крывічы прыйшлі на тэрыторыю Беларусі **славены**. Племя рухалася з Захаду і прасоўвалася па Нёмане. Тут, на нёманскіх прытоках засталося шмат паказальных тапонімаў — Славенск, Славагошч, Славянцішкі. Потым, выціснутыя крывічамі, славены мусілі адступаць да Ільменя, дзе і стварылі сваё новае княжанне. Але, безумоўна, з абжытых мясцінаў пайшлі не ўсе.




Племя **радзімічаў** прыйшло на Беларусь з Павісілення. Мяркуюць, што новыя перасяленцы выцеснілі з Пасожжа севяранаў. Галоўным асяродкам радзімічаў стала гарадзішча Гомій (цяперашні Гомель).

На этнагенез беларускага народа істотна паўплывалі плямёны **літвы** і **яцвягаў**. Літва займала абшар ад Слоніма да Крэва і ад Маладзечна да Навагрудка. Яцвягі займалі землі па рэках Нараў, Мухавец, Груда, Ясельда, Зэльва, Зэльвянка, Сегда, Кшна, Цэжма, Сакольда, левабярэжжа Нёмана. Літва і яцвягі традыцыйна лічацца балцкімі плямёнамі. Некаторыя даследнікі, і сучасныя і мінулага часу, адносяць літву да славянскага кораня, лічачы, што літва родная племені люцічаў. Перанос назвы Літвы на землі, дзе жылі балцкія плямёны аўкштотаў і жамойтаў, адбыўся вельмі позна, у часы Вялікага Княства Літоўскага.

начае развіццё вобраза Бога ад агульнага ўсім індаеўрапейскім народам вытоку да розніцы славянскіх пляменных уяўленняў пра яго. Далей ідуць народжаныя старэйшым боствам : *Дажбог*, *Каляда*, *Купала*, *Ярыла*, *Хорс* — усё гэта Сонца пад рознымі назвамі; *Пярун* — бог грому і маланкі; *Вярба* — багіня вясны, абуджэння прыроды; *Тур* — бажаство дзікіх звяроў; *Лада* — багіня кахання; *Цёця* — багіня ўраджаю; *Парадзіха* — жаночы пачатак жыцця; *Жыжаль* — бог агню; *Мара* — бажаства смерці, *Кава* — бог вайны і магіі зброі (адсюль — каваць, каваль). Яшчэ богам вайны, богам бязлітаснага знішчэння быў *Кара* (адсюль — карнікі). У глыбокай старажытнасці існавалі аддзелы найбольш лютых ваяроў, якія называліся «кара». Сваім татэмам яны лічылі ваўка.

## Дахрысціянскія багі

Славянская язычніцкая сістэма багоў выглядае так. Найвышэйшыя: **Род**, **Сварог**, **Стрыбог**, **Святавіт**. Гэты шэраг імёнаў аз-

Свяцілішча

Душы ўяўляліся маленькімі копіямі людзей і называліся *дзядамі* ці *людкамі*.

**Хорс** паходзіць ад «хора», «хароса», праіндаеўрапейскай формы, што замацавалася ў славянаў і азначала «кола», «круг», «акруглы». У слове «карагод» («харавод») добра [illegible] люстраваны гэты сэнс. Дар[illegible] чы, карагод з'яўляецца старэйшым рытуальным танцам.

**Ярыла** — [illegible] ура[illegible] лівасці — уяўляўся малайцом у белай вопратцы на белым кані;

Ахвярнік каля святога дуба

у адной ягонай руцэ чалавечы чэрап, у другой — пук каласоў. Ярыла ездзіць па нівах, глядзіць жыта; ён апладняе зямлю, ад яго ярыцца зямля, ён дае жыццё хлебу, ураджаю. Яшчэ адзін з яго клопатаў — прыносіць дзяцей. У беларусаў на гэтае свята самую прыгожую дзяўчыну апраналі Ярылам, садзілі на каня, вадзілі па вёсцы, вакол яе гулялі і пелі. **Яр**ыла мае адпаведнікі ва ўсіх індаеўрапейскіх міфалогіях: **Ар**'юна — у індаарыяў, **Ар**эй — у грэкаў, **Гер**авіт — у заходніх славянаў, **Ар**'яман — у авестыйцаў.

**Пярун** уяўляўся сівавалосым волатам, які трымае ў адной руцэ лук (вясёлку), у другой — стрэлы ( маланкі). Пярун пануе над зямлёй, тут усё падпарадкавана яго неабмежаванай сіле; той, каго ён пазначае для пакарання, не можа схавацца, забівае ж ён імгненна і страшна. Перуна страшыліся і стараліся ўлагодзіць. Для гэтага выпрацаваўся спецыяльны сімвал — грамавы знак — круг з пазнакаю шасці радыусаў. У беларускіх вёсках яго ставілі на дзвярных шалёўках для захавання хаты ад удару маланкі.

Валодаючы забойнымі стрэламі, Пярун ваяваў з іншымі багамі. Згодна беларускаму павер'ю, ён імкнуўся знішчыць **Жыжаля** — падземнага бога агню, што высушвае зямлю, падпальвае лясы і балоты. Пярун меў сваё свята, якое адзначалася 20 ліпеня. (Пазней на язычніцкае свята царква наклала сваё — Ільлі.)

Боствам сонца ў беларусаў выступала таксама **Каляда**. Свята гэтае (звалася яшчэ *Божык*, *Божыч*) прыходзілася на зімовае сонцастаянне. Старыя калядныя песні даносяць да нас мелодыі тысячагадовай даўніны.

На каляды па дварах хадзілі **калядоўнікі**, вадзілі з сабой «казла» ці «казу», «бусла», «мядзведзя». Апраналіся калядоўнікі і ў воўчыя скуры, што азначала **ваўкалакаў**. Вобраз гэты вельмі старажытны, ён узнік, пэўна, яшчэ 30—35 тысячаў гадоў назад. Ваўкалак прысутнічае ў беларускіх вераваннях і казках.

Ярыла – бог урадлівасці

Пярун – валадар маланкі

Жыжаль – бог падземнага агню

Калядоўнікамі ў старажытнасці былі вешчуны. Згодна з абрадамі, «казёл», «каза» паміралі і адраджаліся, што ў язычніцкім разуменні адпавядала смерці бажаства сонца і яго аднаўленню, наогул аднаўленню жывароднай сілы. *Казёл, каза* ў гэтым рытуале выступалі духам ураджаю, жыта, уваскрэсенне яго абяцала ўраджай у новым сонечным годзе. У беларускіх калядках так і пяецца:

Дзе казёл ходзіць,
Там жыта родзіць.
Дзе казёл хвастом,
Там жыта кустом.

Ці:

Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
Дзе каза не ходзіць,
Там жыта не родзіць.

Казёл прысутнічае і ў абраднасці *дажынак*, калі з апошняга пука каласоў «завівалі бараду» духу жыта Жыценю — казлападобнай істоце: некалькі каласоў перавязвалі чырвонай стужкай, побач клалі хлеб-соль, пелі жніўныя песні.

**Вялікдзень** — вясеннее свята, прысвечанае сонцу, ажыванню прыроды пасля смерці — зімовага сну. Хрысціянства перакрыла яго пасхай, але на Беларусі ў адрозненне ад іншых славянскіх народаў захаваліся старажытныя абрады, што называюцца *валачобнымі*. Валачобнікі апраналіся пад «багоў», хадзілі па дварах, пеючы рытуальныя песні. Дарункі, якімі гаспадары адплочвалі іх дружыне, у старажытнасці лічыліся ахвяраю, якую ўручалі валачобнікам-вешчунам, што здзяйснялі сувязь з багамі.

Любімая гульня на Вялікдзень — біткі.


Дружына калядоўшчыкаў

мавы знак

Купальскае кола

Громавы знак

знак сонца

Старажытны знак сонца

Знак урадлівасці

Стукаліся святочнымі яйкамі, і пераможцам аказваўся той, у каго яно заставалася цэлае («мацак»). На Вялікдзень забаранялася біцца, за бойку страшылі градабоем на ўсю вёску.

Сімвалічным відарысам сонца былі круг, крыж, круг з кропкай, круг з крыжам, круг з шасцю спіцамі, кола. Невыпадкова ў беларускіх вёсках, запрашаючы на жыхарства каля хаты бусла — святую птушку, на дрэва, вызначанае пад гняздо, прымацоўвалі кола. Яно, як і грамавы знак, абяцала сядзібе ўдачу.

**Купалу** (купалле) святкавалі на летняе сонцастаянне, дзень у дзень праз паўгода. Напярэдадні свята збіралі кветкі на вянкі, назапашвалі лекавыя расліны. Асаблівую ўрачыстасць святу надавала купальскае вогнішча. Агонь для вогнішча здабывалі ад трэння драўляных брускоў. Як сімвал сонца ўздымалі на шасце запаленае кола. Полымя купальскага вогнішча надзялялася ачышчальнай сілай, хлопцы і дзяўчаты скакалі праз яго.

Нашы продкі верылі, што ў купальскую ноч на папараць сыходзіць агонь Перуна і яна ўспыхвае яркай кветкай, цвіце апоўначы некалькі імгненняў, і трэба паспець ухапіць яе. «Хто гэтую кветку здабудзе, будзе мець усё, чаго толькі яго душа пажадае».

На купальскае свята варажылі. Дзяўчаты і хлопцы загадвалі, што чакае іх у будучыні. Па кінутых на ваду папарна вянках сачылі, сыдуцца яны ці, наадварот, разыдуцца; можа, чый вянок не будзе падхоплены плынню, а прыстане да берага ці нават патоне. Сабраныя на Купалу галінкі купалкі з нераспушчанымі кветкамі прыносілі ў хату, утыкалі ў шчыліны між бярвёнамі ці за бэлькі. Калі кветкі распускаліся, гэта значыла, што дзяўчына выйдзе замуж альбо задуманае ёю збудзецца.

Купальскія вянкі для гадання

**Вялес** (Волас) — лічыўся богам-апекуном хатняй жывёлы. Але гэта самая позняя яго функцыя. Раней Вялес быў гаспадаром лесу, мядзведзем, зжыральнікам скаціны, больш небяспечным, чым ваўкі і рысі. Нават імя гэтага гаспадара — *мядзведзь* — узнікла з жадання задобрыць яго — *мёд ведае*. Волас мае адпаведнік у ведыйскай міфалогіі, дзе Валу — зжыральнік скаціны. Нашы далёкія продкі над забітым мядзведзем-воласам разыгрывалі рытуальныя відовішчы. Водгукі тых рытуалаў захаваліся ў беларускім старадаўнім свяце — *Камаедзіца*. Яго спраўлялі ў пачатку вясны, калі заканчвалася спячка мядзведзя і ён вылазіў з берлагу. На камаедзіцу гатавалі і елі гарохавую кашу, так званыя камы, аўсяны кісель. Лічылася, што гэтыя стравы любіць мядзведзь. Пасля абеду клаліся на палаці і пераварочваліся з боку на бок, імітуючы звычкі звера. Відаць, меліся і спецыяльныя капішчы, прысвечаныя Воласу, пра што сведчаць тапанімічныя назвы — возера Валос, вёскі Воласава, Воласа і да т. п.

**Зніч** — бог пахавальнага агню. У беларускай мове ёсць дзеяслоў — *знікаць; знічамі* называюцца памінальныя свечкі на магілах, гэта значыць, магільны агеньчык; зорка, якая падае, мае найменне *знічка*. У нашага народа зберагаецца вераванне, што зоркі на небе — знакі жывых душаў: дзіця нараджаецца — і бог запальвае зорку; чалавек памірае — знічка нясецца па небе ў адвечны змрок. Зніч загасіў агонь жыцця.

Святкаванні ў гонар продкаў адбываліся некалькі разоў на год. Найбольш значнымі з іх былі восеньскія **Дзяды**. Так называліся душы продкаў, незалежна ад узросту, у якім чалавек пакінуў гэты свет; і стогадовы стары, і немаўлятка станавіліся для жывых Дзядамі.



Дванцаць шостага кастрычніка дзяды прыходзілі ў хату да сваіх родных, дзе іх ужо чакалі — дзверы ці вокны былі адчыненыя, на святочным стале стаяў для дзядоў пачастунак. Пра з'яўленне іх падказвалі розныя прыкметы — уляцела восеньская мушка, пачуўся ў цішыні скрып — значыць, дзяды прыйшлі, чакаюць успамінаў пра сябе. Увечары людзі ішлі на могілкі, запальвалі на магілках агні.

Нітку чалавечага жыцця абрывала бажаство таго свету — **Яга**, ці ў казачнай назве — Баба-Яга. Паказальна, што аднакарэннае слова «ягла» азначае мярцвячыну. Яга выступала ў абліччы агіднай старой, якая насіцца ў драўлянай ступе і памялом замятае сляды. У яе пачварна тырчаць косці, нос — крукам, валасы вісяць патламі; хто яе ўбачыць — знямее, да каго яна дакранецца — памрэ.

Меліся капішчы Ягі; абраднасць, прысвечаная ёй, уключала спаленне чучала смерці, прынясенне ахвяраў, каб улашчыць Кашчавую, накарміць яе ахвярным мясам, адаслаць у іншую мясцовасць. Такое старажытнае капішча вядомае на ўскраіне Полацка.

Русалкам — **добрым духам**, звязаным са стыхіяй вады і з раслiннасцю, прысвячаліся вясёлыя святы ў чэрвені.

Нячысцікі

Яга – баства смерці

Лесавік – баства лесу

Русалкі

Вадзянік – баства азёраў і рэк

Абарачэнне ў ваўкалака

Добрымі духамі былі *ражаніцы*, якія апякалі роды. Да добрых належаў і *Жыцень* (інакш — *Багач*, *Спарыш*, *Рай*) — дух урадлівасці, які адорваў за клопат пра поле. Не злымі ўяўляліся духі дома, лесу, лугоў. *Дамавік* генетычна паходзіў ад старадаўняга радавога бога Шчура (Прашчура). Ён бачыўся маленькім дзедам, што ахоўвае хату і маёмасць, сочыць за дабрабытам сям'і, усё пра кожнага ведае. Дамавік — абавязковы ўдзельнік усіх хатніх падзеяў і святаў, на якія, адпаведна абраду, запрашаўся. Гаспадар лесу — *Лесавік* — уяўляўся істотай вялікага росту і сілы. Ён — жартаўнік і штукар — пужае людзей рогатам, прымушае блукаць. Лесавіка задобрывалі пачастункамі, якія пакідалі на лясных ростанях.

**Злыя духі** мелі назву нежыць. Сярод іх былі стварэнні асаблівай сілы і ўніверсальных здольнасцяў да ліха — *крывасмокі*, што ўвасаблялі самае старажытнае разуменне злога пачатку, *чорт, ведзьмы, злыдні*. Існавалі злыя духі абмежаванага дзеяння: *Трасца* (Хунда) наводзіла ліхаманку, *Начніцы* даймалі дзяцей хваробамі.

Паводле старых вераванняў, разгул ведзьмаў, ваўкалакаў прыпадаў на Купальскую ноч, тады ж аддавалася штукарскаму свайму занятку і ўся нежыць — вадзянікі, лесавікі, дамавікі, палявікі. У Заходняй Еўропе верылі, што ведзьмы спраўлялі свой шабас на Вальпургіеву ноч (ноч на 1 мая). Гэты час лічыўся найлепшым для выгнання вядзьмарак, а яшчэ на калядныя тыдні — з 25 снежня па 7 студзеня. Тады ж была і самая слушная пара для варажбы пра лёс.

Карагод на гуканне вясны

У беларускіх старадаўніх паданнях значнае месца займае вобраз **ваўкалака** – пярэваратня, чалавека, які дзівосным чынам набывае на нейкі час аблічча ваўка. У ваўкалакаў ператворвалі людзей *чараўнікі*, але і самому можна было гэтага дасягнуць: трэба было пайсці ў лес, уваткнуць у стары пень нож лязом уверх і ў скоку перавярнуцца над гэтым нажом.

Сярод заходніх славянаў лічылі ваўка татэмам *люцічы* (меркаваныя перасяленцы на Беларусь). Сярод перадславянскіх насельнікаў Беларусі вобраз ваўкалака звязаны з племенем *неўраў*. У беларускіх паданнях лічаць, што ваўкі маюць свайго гаспадара – уладара лясоў **Палесуна**.

Старажытным беларускім абрадавым святам было **гуканне вясны**. Яно адзначалася на вясновы сонцаварот. Для святкавання абіралі высокае месца – горку, бераг ракі, возера, раскладалі вогнішчы, пускалі па рацэ запаленае кола, вадзілі карагоды, спявалі вяснянкі. Моладзь гушкалася на арэлях. На гэтае свята пяклі *галёпы* – печыва ў выглядзе буслоў. Быў звычай закопваць у зямлю гаршчок кашы – ахвяра зямлі, каб была ўрадлівая.

Гушканне на арэлях

Сваім шматлікім багам нашыя продкі пакланяліся ў *свяцілішчах* ды на *капішчах*. Сярод даследаваных свяцілішчаў вядомае знаходзіцца каля вёскі Гудавічы ў Чэрвеньскім раёне. Яно размяшчалася на невысокім узгорку, які называюць Святой ці Мар'інай горкай. Па меркаваннях знаўцаў славянскай міфалогіі хрысціянскае імя Мар'я перакрывала імя багіні Мары – бостава смерці, жахлівых сноў, мрояў. Свяцілішча ўяўляла сабой пляцоўку памерамі 50 на 50 метраў, абкружаную невысокім валам і ровам. Яно мела адзіны ўваход з Захаду. У цэнтры ляжаў камень з адбіткам, падобным на след чалавечай ступні. Ля каменя захаваліся сляды вогнішчаў. Тут раней запальвалі ахвярны агонь.

Галёпы – печыва ў выглядзе буслоў

## Полацкае княства

Першым магутным феадальным княствам на Беларусі было Полацкае княства, якое існавала ў IX – XIV стст. Найстарэйшы летапіс узгадвае Полацк на 862 год разам з Кіевам і Ноўгарадам як галоўныя асяродкі палачанаў, палянаў і ільменскіх славенаў.

Першым вядомым полацкім князем быў **князь Рагвалод**. Летапісы засведчылі, што ён меў брата **Тура**, які заснаваў горад Тураў і княства Тураўскае на землях дрыгавічоў. Жыццяпісу нашых першых князёў няма. Рагвалод загінуў у 980 годзе падчас вайны Ноўгарада з Полацкам. Князь Тур склаў галаву пры абароне Турава ад кіеўскага войска, якое забяспечвала гвалтоўную хрысціянізацыю, распачатую Уладзімірам Святаславічам.


Полацкі дзяцінец на беразе Палаты, X стагоддзе

Сям'я князя Рагвалода:

Рагвалод

Княгіня

Рагнеда

Князь Тур – брат Рагвалода

Княжыч

Княжыч

## Легенда пра Рагнеду

У кіеўскага князя Святаслава было тры сыны. У 972 годзе князь загінуў у бітве з печанегамі на дняпроўскіх парогах.

Сыны Святаслава пачалі княжыць: старэйшы, Яраполк, у Кіеве, як вялікі князь, сярэдні, **Уладзімір**, у Ноўгарадзе, малодшы, Алег, стаў князем драўлянаў. І адразу малодшыя браты захацелі выйсці з-пад улады Кіева. Яраполк пайшоў на братоў з мечам. У той вайне загінуў Алег, а Уладзімір мусіў збегчы з Ноўгарада. Два гады ён пражыў уцекачом у варагаў, дзе ажаніўся. Жонка нарадзіла яму сына Вышаслава. З дапамогай варагаў Уладзімір вярнуўся ў Ноўгарад і забіў братавага намесніка. Галоўным дарадцам Уладзіміра быў ягоны дзядзька Дабрыня. Паміж Кіевам і Ноўгарадам зноўку ўзнікла вайна.

Полацкі князь Рагвалод меў дачку **Рагнеду** – ёй ужо споўнілася дванаццаць гадоў, па славянскіх звычаях яна лічылася нявестай. Аднаго дня з'явіліся ў Полацку сваты ад

Яраполка. Літаральна ўслед заслаў сватоў Уладзімір. Тое, што абодва браты былі на той дзень жанатыя, не мела значэння — язычніцтва нашых продкаў дазваляла мець многа жонак.

Па загаду бацькі Рагнеда дала сваю згоду сватам Яраполка. Адпаведна Уладзімір атрымаў адмову. Лаўрэнцеўскі летапіс паведамляе пра наступныя падзеі так: *... і пайшлі на Полацк і перамаглі Рагвалода. Рагвалод закрыўся ў горадзе. Горад узялі, і ўзялі самога князя, і жонку яго, і дачку. І Дабрыня зняважаў яго і дачку яго. Назваў яе рабычыцай і загадаў Уладзіміру быць з ёю на вачах бацькі і маці. Потым бацьку яе забіў, а яе ўзяў у жонкі і даў ёй імя Гарыслава.*

Паводле іншых летапісаў, адначасна з бацькам забілі на вачах Рагнеды яшчэ і маці і двух братоў.

Уладзімір узяў Рагнеду жонкаю, яна нарадзіла чатырох сыноў і дзвюх дачок. Але памяць пра бацькоў і братоў заклікала яе да помсты. Аднойчы, калі Уладзімір прыехаў у наведкі, яна ноччу ўзяла нож.

Спроба Рагнеды адпомсціць князю Уладзіміру за смерць бацькоў і братоў

Нож слізгануў па рабрыне, Уладзімір застаўся жывы. Раз'юшаны князь загадаў жонцы па-святочнаму адзецца і дастаў меч. На лямант прачнуўся сямігадовы сын Рагнеды, Ізяслаў, і стаў на абарону маці з такімі словамі: «Забі спачатку мяне, тата!». Секчы жонку пры сыне Уладзімір не адважыўся, а праз колькі дзён Рагнедзе абвясцілі, што яна больш ніколі не ўбачыць сваіх дзяцей, апроч Ізяслава, разам з якім ссылаецца на жыхарства ў глухмень да вытокаў Свіслачы. Так у 987 годзе Рагнеда з'явілася ў паселішчы, якое атрымала назву Ізяслаўль (сённяшняе Заслаўе).

У 987 годзе Уладзімір ажаніўся з візантыйскай прынцэсай Ганнай, хрысціўся і правёў хрышчэнне Кіева.

Ізяслаў

Яраслаў

Засталося толькі разабрацца з Рагнедай, якая ў адрозненне ад іншых ягоных сямі жонак, была княгіняй па паходжанню і якую хрысціянскі шлюб былога мужа вызваляў ад пакоры.

Узначаленая Дабрыняй хрысціянская місія, у складзе якой былі грэчаскія ці балгарскія святары, з'явілася ў Заслаўі. Рагнеду гвалтам пастрыглі, абвясцілі манашкай і назвалі Анастасіяй. Ізяслава павезлі ў Полацк. Адзінаццаць гадоў Рагнеда пражыла манашкай. Без дзяцей, без будучыні, у адзіноце дачакалася Рагнеда тысячнага года, пад канец якога адзначылі летапісы яе смерць. Старэйшы сын Рагнеды, князь полацкі **Ізяслаў**, перажыў маці на некалькі месяцаў. Другі сын Рагнеды, **Яраслаў Мудры**, стаў князем кіеўскім.

Заслаўскае замчышча ў сярэднявеччы

Сыны Рагнеды:

## Узнікненне Наваградка

У Полацку па смерці Ізяслава княжыў яго малодшы сын **Брачыслаў**. Летам 1021 года Брачыслаў здзейсніў паход на Ноўгарад. Палачаны захапілі сталіцу ільменскіх славенаў, часткова спалілі яе. Брачыслаў пакінуў там намеснікаў, а вялікі палон і багатыя лупы павёз у Полацк. Князь Яраслаў кінуўся наўздагон і нагнаў Брачыслава на рацэ Судамір. Тут паміж дзядзькам і пляменнікам здарылася бітва, якую Брачыслаў не здолеў выйграць. Ён кінуў здабычу і ўцёк у Полацк.

Яраслаў вырашыў за лепшае скончыць канфлікт мірам. Ён аддаў Брачыславу гарады Усвят і Віцебск.



Брачыслаў, унук Рагнеды

Брачыслаў памёр у 1044 годзе, якраз напярэдадні чарговага паходу на Літву. Гэты паход завяршыўся ўзнікненнем Новагарадка, сённяшняга *Наваградка*. Будавалі яго на месцы літоўска-дрыгавіцкага паселішча, якое мела назву *Жоўны*.

Пераправа князя Усяслава Чарадзея цераз Днепр



## Чарадзей

Сын Брачыслава князь **Усяслаў Чарадзей** распачаў сваё княжанне з будаўніцтва Полацкай Сафіі, што павінна было засведчыць роўнасць Полацка з Кіевам і Ноўгарадам і незалежнасць княства.

Трое сыноў Яраслава – Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад – злучыліся ў саюз, нацэлены супроць незалежнасці Полацкага княства.

Пашыраючы самастойнасць Полацкага княства, Усяслаў правёў тры паходы запар. У 1065 годзе рушыў на Пскоў, які патрымаў у аблозе. На дапамогу пскавічам прыйшоў наўгародскі князь Мсціслаў. У бітве на рацэ Чарэсе палачане разбілі наўгародцаў. Мсціслаў уцёк у Кіеў. Наступным годам Усяслаў выправіўся на Ноўгарад. Горад напалову быў спалены, Усяслаў захапіў вялікі палон і зняў з Наўгародскай Сафіі званы. Нарэшце, на пачатку 1067 года, ён накіраваўся да Наваградка, адкуль выбіў атрад кіяўлянаў і падначаліў горад сабе.

У гэты час Ізяслаў кіеўскі, Святаслаў чарнігаўскі і Усевалад пераяслаўскі аб'ядналі войскі і рушылі на Полаччы-

Бітва на Нямізе ў сакавіку 1067 года

ну. Першай іхняй ахвярай стаў Менск. Усіх менскіх абаронцаў Яраслававічы перабілі, а жанчын, па звычаю, узялі ў палон. Напярэймы захопнікам выступіў ад Наваградка Усяслаў, і 3 сакавіка адбылася бітва, якая набыла сусветную вядомасць, дзякуючы генію аўтара «Слова пра паход Ігаравы». Вось што ён занатаваў: ***«На Нямізе снапы сцелюць з галоў, малоцяць цапамі булатнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром засеяны, засеяны касцямі рускіх сыноў»***.

Рэчка Няміга была невялікая. На месцы ўпадзення яе ў Свіслач быў у IX – XI стагоддзях горад Няміга. Горад упамінаўся ў спісе старажытных гарадоў. Вось на берагах гэтай рэчкі адбылася знакамітая крывавая сеча.

У 1076 годзе Усяслаў вытрымаў тры напады Уладзіміра Манамаха, якому дапамагалі наўгародцы і кіяўляне, палавецкія пасілкі. Гэта быў першы выпадак выкарыстання стэпчакоў для рабунку Полацкай зямлі.



Умацаванні першапачатковага Менска ля вусця ракі Менкі (за 20 км ад сучаснага Мінска)

Восенню 1086 года Манамах правёў паход на Менск. Потым, пішучы «Павучанне» сынам, ён узгадваў: ***«...на ту восень идохом с черниговцы и с половци, с читеевичи к Менску; изъехахом город, и не оставихом у него ни челядина, ни скотины»***.

Пачатковы Менск, той Менск, які знішчала кааліцыя Яраславічаў і які зруйнаваў Манамах, месціўся на рацэ Менцы (адсюль і назва) за дзве вярсты да ўпадзення яе ў Пціч (за 20 кіламетраў ад сённяшняга Мінска). Назва Менск перайшла на Нямігу, як новы адроджаны цэнтр, бо сюды перайшоў *менскі князь* **Глеб**.



Замкавая брама горада Нямігі
(з XII ст. горад Менск)

Усяслаў Чарадзей княжыў 57 гадоў. Нашчадкамі яго былі шасцёра сыноў: Барыс-Рагвалод, Давыд, Глеб, Раман, Святаслаў, Расціслаў.

## Полацкая Сафія



Полацкі летапісец

Полацкі Сафійскі сабор – вялікі пяцінефавы храм. Сцены яго былі складзены ў змешанай тэхніцы: цэгла з неапрацаванымі валуннымі камянямі сярэдняй велічыні. Над саборам узвышаліся барабаны цэнтральнага купала і чатырох меншых. Нутраныя сцены атынкаваныя і распісаныя фрэскамі. Падлога была выкладзена паліванымі пліткамі розных колераў, якія выглядалі як дзівосны маёлікавы кілім. Дах зроблены са свінцовых лістоў.

Сафія Полацкая стала галоўным грамадскім будынкам горада. Тут прымалі паслоў, абвяшчаліся вайна і мір, захоўваліся княжацкія скарб і бібліятэка.

## Першая святая

Асветніца **Ефрасіння Полацкая**, унучка Усяслава, пераняла ад дзеда вялікі духоўны запал. Пачатак свайго манаскага жыцця Ефрасіння правяла ў келлі Сафійскага сабора, дзе займалася перапісваннем царкоўных кніг. З ініцыятывы Ефрасінні была пабудаваная царква Спаса — унікальны помнік мураванага дойлідства Беларусі. На хорах яе знаходзіліся невялічкія



Сафія Канстанцінопальская



Магчымая выява Ефрасінні Полацкай

келлі — *галубніцы*; паводле падання, яны служылі прытулкам для Ефрасінні і яе сястры.

Пад канец жыцця Ефрасіння Полацкая выправілася ў паломніцтва да гроба Гасподня ў Іерусалім. Было гэта ў 1172 годзе. Суправаджалі яе брат Давыд і стрыечная сястра Еўпраксія. У красавіку наступнага года Ефрасіння скапала ў Багародзічным манастыры. У 1187 годзе, калі Іерусалім быў захоплены егіпецкім султанам Салахаддзінам, кіеўскія манахі, пакідаючы Палесціну, забралі мошчы Ефрасінні ў Кіеўскія Пячоры, а ў пачатку нашага стагоддзя іх перавезлі ў Полацк у царкву Спаса.



Абразок з выявамі святых Канстанціна і Алены (Полацк, XII стагоддзе)

## Высылка ў Візантыю

Незалежніцкія намаганні Усяславічаў, іх нежаданне выконваць загады кіеўскіх князёў, адмова ў 1127 годзе ісці ў агульны паход на полаўцаў выклікалі знішчальны наступ на Полаччыну Мсціслава кіеўскага, сына Манамаха. Праз год сам Манамах кінуў на Полацкае княства аб'яднаныя сілы кіеўскіх, пераяслаўскіх, чарнігаўскіх зямель. Усіх князёў полацкай дынастыі, сыноў і ўнукаў Усяслава — Давыда, Расціслава, Георгія-Святаслава, Івана і Васіля Барысавічаў — разам з жонкамі і дзецьмі арыштавалі, выслалі ў Канстанцінопаль, дзе швагер Мсціслава, імператар Іаан, накіраваў іх у войска, якое білася з арабамі. Беларускія князіператварыліся ў крыжакоў. Незадоўга перад тым



Царква Спаса ў Полацку

адбыўся першы крыжовы паход еўрапейскага рыцарства.

Толькі праз адзінаццаць гадоў з гэтай небяспечнай ссылкі вярнуліся князі Васіль-Рагвалод і Іван, астатнія прадстаўнікі дынастыі загінулі ў бітвах. Васіль-Рагвалод стаў князем Полацка.



Сафія Полацкая (рэканструкцыя)

### Крыж-святыня

З імем Ефрасінні злучаны крыж, зроблены па яе заказу ў 1161 годзе полацкім майстрам Лазарам Богшам. Крыж паўметровы, з кіпарысавага дрэва, абодва бакі яго абкладзены залатымі пласцінамі, аздобленымі перагародкавымі эмалямі з выявамі Хрыста, Іаана Прадцечы, Маці Божай, апосталаў Пятра і Паўла, архангелаў Гаўрыіла і Міхаіла. Унізе крыжа — выявы святых Ефрасінні, Сафіі, Георгія. Пад залатымі пласцінамі (у «целе» крыжа) захаваны першазначныя хрысціянскія рэліквіі — кроў Хрыста, што засталася на распяцці, частка ад каменнай труны Багародзіцы, кавалачак ад каменя з труны Ісуса, мошчы св. Стэфана, св. Панцеляймона, кроў св. Дзімітрыя. Вось гэтыя рэліквіі надавалі крыжу, па разуменню вернікаў, тую цудадзейную сілу, якая прыводзіла да яго з малітвай і просьбамі сотні тысячаў людзей.



Крыж Ефрасінні Полацкай, створаны майстрам Лазарам Богшам

Розныя віды крыжоў



Старажытнаегіпецкі крыж



Грэцкі



Лацінскі



Т-падобны



Бургундскі



Мальтыйскі



Ларэнскі



Трылістнікападобны крыж



Сімвал крыжа з чатырох Т



Якарападобны сімвал крыжа



Папскі


Князь Міндоўг – заснавальнік Беларуска-літоўскай дзяржавы

## Наваградскае княства

У 1239 годзе наваградскае баярства запрасіла на княжанне выдатнага ваяра, **князя Міндоўга**, радавое гняздо якога было ў Літве на Ашмяншчыне.

З Наваградка, абапіраючыся на сілы Наваградскага княства, Міндоўг распачаў аб'яднанне земляў Чорнай Русі – Гродна, Слоніма, Ваўкавыска, Нясвіжа, Здзітава, Турыйска. З дапамогай чарнарускіх палкоў здолеў падпарадкаваць сабе Дзяволтву і Нальшаны.

Узмацненне Наваградскага Гаспадарства выклікала стварэнне ваеннай кааліцыі, якую ўзначаліў галіцкі князь Данііл Раманавіч. Наступ на Міндоўга задумваўся ў саюзе з яцвягамі, палякамі, Жмуддзю і той часткай Аўкштоты, што працівілася Міндоўгу. У змову былі ўцягнутыя і крыжакі, зацікаўленыя ў любым аслабленні славянскіх суседзяў.

Міндоўг, аднак, спісаўся з магістрам ордэна мечаносцаў і дамовіўся з ім аб сваім абарачэнні ў каталіцтва і каранацыі. У 1250 годзе ў Наваградку магістр Ордэна каранаваў Міндоўга спецыяльна вырабленай каронай. Немцы вылучылі Міндоўгу ваенную дапамогу, што ў той сітуацыі стала для яго выратаваннем. Ён здолеў абараніць свае землі. У 1253 годзе праціўнікі замацавалі мір шлюбам дачкі Міндоўга з сынам Данііла Раманавіча Шварнам. Атрыманая Міндоўгам карона хрысціянскага валадара патрабавала мераў на хрысціянізацыі язычніцкага жыхарства дзяржавы, будаўніцтву каталіцкіх храмаў.

З'яўленне нямецкіх святароў выклікала ў насельніцтва незадаволенне Міндоўгам. Але ён і сам не збіраўся трываць тое становішча, што яму навязвалі крыжакі.

Паўстанне пачалося ў 1260 годзе з разгрому ордэнскага войска каля возера Дурбэ. Паўстанне ахапіла ўсё Прусію і працягвалася амаль чвэрць стагоддзя. Міндоўг павёў супраць нямецкіх рыцараў 30-тысячнае беларуска-літоўскае войска.


Наваградскі замак часоў князя Міндоўга



## Міндоўг і Даўмонт

У 1262 годзе памерла княгіня Марта, ад якой у Міндоўга было двое сыноў — Рэнік і Рукля, яшчэ падлеткі. Ганец з лістом ад Міндоўга наімчаў да яе сястры, каб ехала плакаць па нябожчыцы. Сястра была замужам за Даўмонтам — князем Нальшанскім, ён меў сваім цэнтрам Крэва, таму сястра Марты прыехала хутка. На памінках Міндоўг абвясціў ёй, што Марта, паміраючы, загадала яму ажаніцца з сястрою, бо толькі яна будзе добра прыглядаць за Рэнікам і Руклем. А паколькі апошняя воля — закон, дык Міндоўг пакінуў жонку Даўмонта пры сабе.

Адказаць сілай на такую абразу Даўмонт не мог і таму, робячы выгляд, быццам скарыўся, чакаў зручнага моманту для помсты. Праз год, калі войска Вялікага княства рушыла ў паход на чарнігаўскія землі, Даўмонт са сваім палком пакінуў яго і разам з князем Трайнатам, пляменнікам Міндоўга, ударыў на Міндоўга, які з сям'ёй і невялікай дружынай бавіў летні час у Налібоцкай пушчы.

Даўмонт забіў двух сыноў Міндоўга, а самога князя пасек, як капусту. Загінула пры гэтым нападзе і былая жонка Даўмонта. Было Міндоўгу каля сямідзесяці гадоў; Даўмонту — сама больш трыццаць, жонцы яго, згвалчанай Міндоўгам, наўрад ці прамінула дваццаць пяць.



Забойства Міндоўга князем Даўмонтам



Хрышчэнне і каранацыя Наваградскага князя Міндоўга

### Дворныя ўрады

Сярод бліжэйшых дружыннікаў князя, што жылі пры яго двары, размяркоўваліся пэўныя абавязкі, якія паступова ўсталяваліся і ператварыліся ў службы (урады).

*Канюшы* — службовец вялікага князя, які адказваў за княжацкія табуны і стайні. Урад існаваў да 1548 года. Пазней назва канюшага захоўвалася як ганаровы тытул.

*Падканюшы* — намеснік канюшага. З канца XVI стагоддзя — ганаровы тытул.

*Крайчы* — ураднік пры двары вялікага князя, які наразаў і адказваў за закусь да стала. З XVI стагоддзя — ганаровы тытул.

*Лоўчы* — ураднік пры двары вялікага князя, які прызначаўся са знатнага роду. Наглядаў за паляўнічымі ўгоддзямі, распараджаўся паляваннем. З цягам часу ўрад лоўчага стаў ганаровым.

*Харунжы* — хавальнік сцяга пры вялікім князю, камандаваў аддзелам, што быў пры вялікім князю.

*Харунжы* павятовы — хавальнік павятовага сцяга, вёў улік ваеннаабавязанай шляхты, у час вайны збіраў шляхецкае апалчэнне.

*Піўнічы* (чашнік) — загадваў вінным склепам вялікакняжацкага двара.

*Абозны* — пасада ў войску. Займаўся разбіўкай ваеннага лагера, яго побытам і аховай.

*Вайсковы* (войскі) — даглядаў за парадкам у павеце, калі шляхту клікалі ў войска.

## Віленскі ўдзел

Сярод удзелаў Полацкай зямлі было і **Віленскае княства**, якое ўтварылася ў другой палове XI стагоддзя. У 1070 годзе тут княжыў полацкі князь Расціслаў. Пасля высылкі полацкіх князёў у Візантыю віленцы запрасілі на княжанне сыноў Расціслава – Давыда і Маўкольда, ад якіх і пайшла віленская галіна полацкай дынастыі. З яе выйшлі ўсе вялікія князі Вялікага Княства Літоўскага, пачынаючы з Міндоўга. Віленскае княства цалкам увайшло ў склад Наваградскай дзяржавы ў 1264 годзе, пасля заваёвы сынам Міндоўга князем Войшалкам земляў Нальшчаны і Дзяволтвы. Большыню насельніцтва Віленскага княства складалі крывічы, якія жылі цераспалосна з аўкштотамі. Галоўнымі гарадамі Віленскага княства былі Вільня, Ашмяны, Браслаў, Вількамір.



Віленская
Вострая брама святая
(святая – бо ў ёй бажніца)

Збройная майстэрня

## Збройная майстэрня

Гомель належыць да найбольш старажытных гарадоў Беларусі. Яго гісторыя налічвае больш за 1000 гадоў. Ён быў заснаваны летапіснымі радзімічамі і стаў іх ваенным, гандлёва-эканамічным і рэлігійным асяродкам. Падчас раскопак былі знойдзены рэшткі збройнай майстэрні. Майстэрня загінула ў пачатку XIII ст., аднак захавалася больш за 1500 дэталяў наступальнай і абарончай зброі. Гэта перакрыжаванні і навершы мечаў і шабляў з бронзы і жалеза, наканечнікі ножнаў, кавалкі жалезнага *наруча*. Такая частка экіпіроўкі цяжкаўзброеных ратнікаў ва ўсходнеславянскіх землях да XIV ст. сустракаецца надзвычай рэдка. Былі знойдзены фрагменты кальчужных палотнаў, складзеныя з сотняў колцаў. Самая каштоўная знаходка – пласціны да баявых *панцыраў* («броні»). Па самых прыблізных падліках, іх колькасць больш за 1000 адзінак. Тут гомельскі комплекс не мае сабе роўных на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Панцыры перыяду сярэднявечча складаліся прыблізна з 600 пласцінаў.

Вырабы гомельскіх збраяроў:



Рыцар-манах Тэўтонскага ордэна

## Полацк і мечаносцы

У 1186 годзе полацкі князь **Валодша** дазволіў каталіцкаму місіянеру Мейнарду (з немцаў) праводзіць хрысціянізацыю ліваў, на землях, якія здаўна былі даннікамі Полацка. Мейнарда змяніў біскуп Бэртольд. Апошняга лівы забілі. Тады тут з'явіўся біскуп Альберт, чыімі намаганнямі ў вусці Заходняй Дзвіны ўзнялася нямецкая крэпасць Рыга і ўзнік **ордэн мечаносцаў**. Гэта здарылася ў 1201 годзе, і князю Валодшу прыйшлося распачынаць адпор тэўтонскаму націску.

Полацкае княства да XIII стагоддзя падрабілася, стварыўся шэраг самастойных удзелаў — Віцебскі, Менскі, Заслаўскі, Лагожскі, Друцкі; удзеламі княства сталі і яго прыбалтыйскія прыгарады — Кукейнос і Герцыке, дзе ўладарылі князі полацкага дому. Яны ахоўвалі гандлёвыя інтарэсы Полацка, для якога Дзвіна з'яўлялася шляхам у Еўропу. Мечаносцы, збудаваўшы на Дзвіне свае замкі, закрылі палачанам свабоднае выйсце ў мора.




## Чорная і Белая Русь

На гістарычных картах, дзе нанесены ўсходнеславянскія княствы і землі XII—XV стагоддзяў, тэрыторыя сённяшняй Гродзенскай вобласці пазначана назвай **Чорная Русь**.

Займала яна вялікі абшар, акрэслены гарадамі Гродна, Слонімам, Ваўкавыскам, Турыйскам, Зэльвай, Лідай, Наваградкам. Цяпер мы называем гэтыя землі беларускімі. Аднак назва Белая Русь у дачыненні да цяперашняй тэрыторыі рэспублікі ўзнікла толькі ў мінулым стагоддзі, а раней дапасоўвалася выключна да Полацкай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мсціслаўскай і Смаленскай земляў.

Чорная Русь — назва, нададзеная крыжакамі ў апраўданне сваіх «місіянерскіх» паходаў. Невыпадкова яна ўпершыню з'явілася на заходнееўрапейскіх картах. Але чым кіраваліся крыжакі? Тым, што на гэтых землях жылі праваслаўныя і «язычнікі». З пункту гледжання крыжакоў, як першых, так і другіх, патрабавалася «асвятліць» «рымскай» верай. Чорная Русь інакш называлася *Русь Літоўская*, а часцей — **Літва**, як было спрадвеку.

Назва **Белая Русь** стала ўжывацца ў дачыненні Полацкай, Віцебскай, Магілёўскай земляў пад канец XIII стагоддзя з наступных абставінаў. У 1169 годзе князь Уладзіміра-Суздальскай зямлі Андрэй Багалюбскі ўвёў у свой тытул паказальную прыбаўку — «князь беларускі», гэта значыць князь Белай Русі — земляў з адзінай праваслаўнай верай.

У 1236—1240 гадах рускія землі трапілі пад уладу татара-манголаў. І назва Белая Русь, разам з уцекачамі, перайшла на смаленскія землі, яшчэ не кранутыя ардынскай заваёвай. Але ў 1276 годзе Смаленск захапілі татары. Тады Белай Руссю пачалі называць Полацкую, Віцебскую, Магілёўскую землі, якіх мангольскае нашэсце падпарадкаваць сабе не здолела. Тут найменне і замацавалася. Заходнія беларускія землі Белай Руссю ніколі не называліся.


Рыцар ордэна мечаносцаў



Пячатка князя Міндоўга

## Герб Пагоня

Наваградская дзяржава — аб'яднанне Русі Літоўскай і часткі літоўскіх земляў — абрала ў якасці сімвала дзяржавы герб «Пагоня» — на чырвоным полі залаты вершнік з узнятым мечам. Гэта адбылося ў 1250 годзе пры каранацыі Міндоўга. Гэты герб быў і на пячатцы князя Міндоўга.

На беларускіх землях таго часу *Пагоняй* называлася таксама і скліканне баярства на вайну ці ў наезд; Пагоня азначала ўсеагульнае апалчэнне. Толькі пры Гедыміне, ужо ў наступным, XIV стагоддзі, з'яўляецца і другі герб, так званыя «Слупы», «Калоны», што ўтварыўся з радавога знака Гедыміна, з кляйма, якім пазначалі княжацкія табуны. Да роду Калонаў належаў і Міндоўг.

## Герб Слупы

Такім жа радавым знакам карысталіся і першыя Рурыкавічы. Розныя выявы гэтага знака атрымалі на Украіне назву «Двузубец», «Трызубец». Аднак навуковыя даследаванні пра згаданы старажытны знак расшыфроўваюць яго як сімвалічную выяву сокала ў хвіліну атакі. Гэта пераканаўча дэманструюць рэверсы манет Яраслава Мудрага — сына полацкай князёўны Рагнеды і кіеўскага князя Уладзіміра. Знак «Сокал» з аздобай меў на пячатцы другі сын Рагнеды — Ізяслаў полацкі, а таксама ягоны бацька — Уладзімір Святаславіч — і дзед па бацьку — Святаслаў Ігаравіч, хоць яго «Сокал» быў крыху прасцейшага малюнка.



Племянны знак абадрытаў (варагаў) "Сокал"

## Варагі

Сокал быў племенным — татэмным — знакам бодрычаў, ці інакш — рарэгаў, заходніх славянаў, што насялялі ўзбярэжжа Мекленбургскай затокі на Балтыцы і якія пэўны час узначальвалі саюз славянскіх плямёнаў на ніжняй Лабе. Гэта рарэгам належалі гарады Рацібор, Зверын, Рарог, Стараград. Дружыны рарэгаў увайшлі ў нашую гісторыю пад назвай варагаў. У IX—X стагоддзях варагі з'явіліся ў Панямонні, на Дзвіне, Кіеўшчыне і паклалі пачатак тым княжацкім родам, што потым набылі гістарычную вядомасць.

Шмат якія беларуска-літоўскія летапісы і хронікі занатавалі старадаўняе паданне аб прыбыцці з-за

Перасяленне абадрыцкіх князёў на Нёманшчыну



Герб "Слупы"

мора 500 сем'яў шляхты на чале з князем Палямонам. На працягу стагоддзяў паданне пра сваё заморскае паходжанне перадавалася ад бацькі сыну. Паданне ўтрымоўвае імёны 12 княжацкіх пакаленняў, што адпавядае таму прамежку гісторыі, які працёк ад хвіліны, калі рарэгскія аддзелы на чале з Палямонам увайшлі ў вусце Нёмана, да абвяшчэння Міндоўга князем Наваградскім.



Князь Войшлак у манастве, каля заснаванага ім на Нёмане манастыра

## Міжусобіца

Вялікакняскі пасад у Наваградку заняў Трайнат, ды нядоўга давялося яму ўладарыць. Верныя канюшыя Міндоўга забілі Трайната, калі ён без вялікай аховы быў у лазні.

Пасля гэтага старэйшы сын Міндоўга **князь Войшалк** сілаю пінскіх палкоў вярнуў сабе Наваградак і разам з наваградцамі вырушыў караць непаслухмяных князёў Нальшанаў і Дзяволтвы. Усё варожае Міндоўгу і Войшалку баярства і князі ў Аўкштоце былі пасечаныя.

Даўмонт з дружынай у 300 ваяроў уцёк у Пскоў, дзе яго абралі баявым князем. Тут ён хрысціўся ў праваслаўе, пражыў да 1299 года, ратаваў горад ад немцаў, хадзіў паходамі



Знак Ізяслава

на літоўцаў і ўвайшоў у гісторыю Пскова як адзін з найлепшых пскоўскіх князёў. Пры ім пачалося будаўніцтва муроў, што назаўсёды захавалі назву Даўмонтавых. Пасля смерці Даўмонт (хрысціянскае імя Цімафей) быў кананізаваны як пскоўскі святы, у царкве захоўваўся ягоны меч, якім апярэзвалі кожнага новага князя. У Пскове Даўмонт ажаніўся, і тут нарадзіўся ў яго сын, названы пры хрышчэнні Давыдам, якому лёс наканаваў вярнуцца на радзіму і ўславіць яе ваенным талентам.

У 1267 годзе Войшалк паехаў ва Уладзімір-Валынскі на з'езд князёў. Тут, у манастыры, недалёка ад горада, пачаў высвятляць за півам дачыненні з Львом Данілавічам. Віно зрабіла сваю справу — раз'юшаны Леў Данілавіч выхапіў меч і забіў Войшалка.



Князь Даўмонт развітаецца з Крэўшчынай перад уцёкамі ў Пскоў

## Знікненне яцвягаў

Крывавая барацьба за ўладу ў Наваградскім княстве, войны з галіцкімі князямі не дазволілі аказаць значную дапамогу прусам і яцвягам, якія працягвалі паўстанне супраць крыжакоў. Тэўтонскі ордэн здолеў задушыць паўстанцаў. Гэта адбылося ў 1283 годзе. Гэты год з'яўляецца апошнім у гістарычным існаванні плямёнаў прусаў і яцвягаў. Хоць старажытная назва Прусы і захавалася, аднак землі сталі нямецкімі, а насельніцтва ці было выціснута адтуль, ці анямечана.

Большасць яцвягаў загінула ў баях з немцамі, некаторыя былі перaселены з родных мясцін у заходнюю вобласць Прусіі. Канчаткова яны германізаваныя ў XVI стагоддзі. Паасобныя роды яцвягаў знайшлі выратаванне на Русі Літоўскай, на землях Гродзеншчыны. Сюды прыйшоў з дружынай і людзьмі апошні яцвяжскі князь Скурдо. Вёскі яцвягаў адзначаны на Скідзельшчыне, каля Дзятлава. Яцвяжскія імёны — *Дзіркот*, *Галт*, *Коман*, *Павіла*, *Рыкала*, *Скамант*, *Скурдо*, *Тапейка*, *Скуржо*, *Сох*, *Вазола*, *Шынейка* і другія падобныя можна прасачыць у беларускіх прозвішчах.

## Гедымін



У 1293 годзе вялікім князем прыходзіць **Віцень**; адзін яго родны брат, Васіль-Воін, княжыў у Полацку, другі, Гедымін, трымаў уладу над скаронымі Дзяволтвай і Нальшанамі. Віцень жорстка надавіў паўстанне на Жмудзі, дзе феадалы хацелі пайсці на саюз з крыжакамі, і паспяхова адбіваў наступы тэўтонцаў на Чорную Русь. У 1314 годзе ён перамог войска крыжакоў пад Наваградкам. Праз два гады Віцень сканаў, і гаспадаром Вялікага княства Літоўскага стаў **Гедымін**. У 1323 годзе ён перанёс сталіцу дзяржавы з Наваградка ў Вільню, дзе княжыў пры Віцeню. Каб узняць значэнне новай сталіцы Вялікага княства, Гедымін звярнуўся са спецыяльным лістом да заходнееўрапейскага насельніцтва, запрашаючы на жыццё ў «каралеўскі горад Вільню» цесляроў, ганчароў, дойлідаў — усіх рамеснікаў. Сярод новапрыбылых было шмат яўрэяў, якія ратаваліся ад пагромаў і ганенняў, характэрных для гарадоў Заходняй Еўропы. Гэтыя перасяленцы і склалі першую на Літве і Беларусі яўрэйскую абшчыну.

Аблога Наваградка крыжакамі

...Гедымін пражыў восемдзесят чатыры га-ды, ад двух жонак меў сем сыноў і сем дачок. Ад першай, Евы, нарадзіліся: Яўнут — князь заслаўскі, Монтвіл —князь слонімскі, Нарымут — князь пінскі, Карыят — князь наваградскі, Любарт — князь на Валыні. З другой жонкай, Вольгай, Гедымін прыдбаў двух сыноў, што сталі найбольш вядомымі князямі: Альгерд — у Крэве, Кейстут — у Троках. Дочкі Гедыміна выйшлі замуж за суседніх валадароў: Алдона стала жонкай польскага караля Казіміра, Данміла — мазавецкага князя Ванька, Марыя — мазавецкага князя Баляслава, другая Марыя — князя Дзімітрыя цвярскога, Анастасія — маскоўскага князя Сімяона, сына Каліты, Бірута — князя Давыда Гарадзенскага, і сёмая дачка, імя якой засталося невядомым, была за Юр'ем, князем галіцкім.


Дружына ваяроў з Ваўкавыска

Горад Вільня
(паводле старажытнай мініяцюры)



## Сталіца дзяржавы

Горад Вільня размешчаны каля сутокаў рэк Вілія (па-аўкштоцку Нярыс) і Вільні (Вілейка, Віленка). Крывічы з'явіліся тут у VI–VII стагоддзях і заснавалі паселішча, якое паводле славянскага звычаю атрымала назву ад меншай рэчкі – Вільня. Потым горад быў цэнтрам удзельнага княства Полацкай зямлі, а ў XIV–XVIII стагоддзях – сталіцай Вялікага княства. Сталіцай Летувы горад стаў у 1940 годзе. З XIV стагоддзя тут дзейнічалі каталіцкія і праваслаўныя храмы. Шмат стагоддзяў Вільня была галоўным культурным асяродкам на Беларусі і Літве.

## Князь Давыд

Сярод бліжэйшых паплечнікаў Гедыміна вылучаўся князь Давыд – сын Даўмонта, які вярнуўся на радзіму з Пскова. Гедымін прызначыў яго гродзенскім старастам, аддаў яму ў жонкі сваю дачку Біруту. Давыд меў выдатныя ваенныя здольнасці. З яго імем звязаны перамогі над крыжакамі над Навагрудкам, каля Гродна; у 1326 годзе ён удзельнічаў у сумесным з палякамі паходзе ў глыбіню нямецкіх зямель (даходзілі да Брандэнбурга) і ўзначальваў беларускія конныя палкі. Давыд стаў ахвярай крыжацкай змовы – падкуплены забойца ўначы працяў князя кінжалам.


Князь Давыд Гарадзенскі










## Беларускія замкі

Мураваныя замкі на Беларусі пачалі будаваць у XIII стагоддзі пры вялікім князю Міндоўгу. Паступова была створана абарончая замкавая сістэма ад Наваградка да Вільні.

Замкі мелі форму няправільнага чатырохкутніка, даўжыня сцен муроў па перыметры складала 400 – 500 метраў. Сцены ўзводзіліся з камянёў і цэглы і мелі таўшчыню да 3 метраў. Вышыня муроў была 12 – 14 метраў, вежы дасягалі 16 – 25 метраў.

Будаўніцтва Навагрудскага, Лідскага, Крэўскага, Мёдніцкага, Гарадзенскага замкаў патрабавала 10 мільёнаў цэглы, 150000 кубічных метраў валуноў.



Віленская абарончая вежа

Князь Альгерд

Князь Кейстут



Баявы шлем князя Кейстута

## Два браты

Гады панавання Альгерда і Кейстута характэрныя двоеўладдзем, і Вялікае княства падзялілася на Віленскую і Трокскую паловы. Першая належала Альгерду, другая — Кейстуту. *Трокская* ўключала: Трокскае княства, Жмудзь, Падляшша, Брэсцкую і Гродзенскую землі, большую частку Лідскай і палову Наваградскай зямель — амаль што ўвесь захад Вялікага княства. *Віленскую* палову складалі, калі лічыць па гарадах: Вільня, Полацк, Віцебск, Крэва, Ашмяны, Іўе, Ігумен, Бабруйск, Барысаў, Слуцк, Орша, Магілёў, Рэчыца, Быхаў, Капыль, Крычаў, Рагачоў, Чавусы, Мсціслаўль, Бранск, Ноўгарад-Северскі — галоўным чынам усходнія землі княства. Адпаведна браты падзялілі і сферу знешняй палітыкі і ахову дзяржаўных межаў. **Кейстут** супрацьстаяў Тэўтонскаму ордэну, палякам, венграм; **Альгерд** дзейнічаў на ўсходніх і паўднёвых рубяжах.

У 1368 і 1370 гадах Альгерд правёў паспяховыя паходы на Маскоўскае княства, разбурыў сталіцу, асаджаў Крэмль. Аднак на сур'ёзную бітву з Масквой Вялікае княства Літоўскае пайсці не магло. Працяглая вайна на ўсходніх межах садзейнічала б захопу крыжакамі Жмудзі і заходніх беларускіх зямель. Вялікаму княству кожны год прыходзілася адбіваць то два, а то і шэсць – восем рыцарскіх нашэсцяў. За 1345 – 1377 гады Беларусі і Літве надарылася стрымліваць 100 нямецкіх набегаў і нападаў і сорак два разы абвяшчаць Пагоню — у адказ на націск крыжакоў.



Пячатка Кейстута

## Вызваленне Украіны

Князь Альгерд здзейсніў некалькі пераможных паходаў супраць Арды: у 1362 годзе беларусы, літоўцы і ўкраінцы перамаглі татараў на Сіняй Вадзе, у 1365 годзе Альгерд адбіў у татараў Кіеў.

**Бітва на Сіняй Вадзе** паклала канец татара-мангольскаму ярму на ўкраінскіх землях. Вялікі князь Альгерд павёў на вызваленне Украіны ўсю ваенную сілу Вялікага княства Літоўскага — тысяч трыццаць войска, не лічачы чэлядзі і абознікаў. Да яго далучыліся і палкі ўкраінскіх зямель. У бітве на Сіняй Вадзе, як апавядае летапіс, асабліва вылучылася наваградскае апалчэнне, узначаленае князем Карыятам.

Спачатку войска Альгерда падышло да Кіева — татары, што сядзелі ў горо-



дзе, не наважыліся абараняцца і збеглі. Адтуль войска накіравалася да Канева і Черкасаў, затым на Паўднёвы Буг, да Сіняй Вады. Сюды сцягнулі свае аб'яднаныя сілы тры татарскія ханы — Катлубай, Кацібей, Дзімір. Раніцай, калі над Дзікім полем узнялося сонца, Альгерд паставіў палкі шырокай падковай. Наваградскія харугвы занялі месца на флангах — асцерагаць войска ад татарскіх наскокаў збоку. Працягвалася сеча поўны дзень і скончылася разгромам Залатой Арды. Бітва на Сіняй Вадзе ўваходзіць у лік буйнейшых у сярэднявеччы, а па сваіх выніках наўрад ці мае сабе роўных — бо татары былі выбіты з Кіева, Валыні, Падолля, з усёй стэпавай Украіны да Крыма і вусця Дона.

Менавіта вызваленне Валыні, Падолля, украінскай сталіцы Кіева паўплывала на спробу Маскоўскай Русі выйсці з-пад татарскага прыгнёту. Невыпадкова Кулікоўская бітва адбылася так хутка пасля бітвы на Сіняй Вадзе.



Пераможная бітва над татарамі на Сіняй Вадзе ў 1362 годзе. Год вызвалення Украіны ад татарскага прыгнёту

## Язычніцкая клятва

У 1351 годзе князь Кейстут падчас вайны з венграмі трапіў у акружэнне і быў вымушаны весці з праціўнікам перагаворы. Кароль Людовік Венгерскі прапанаваў яму каранаванне каралеўскай каронай і дапамогу супраць крыжакоў; узамен ад Кейстута патрабавалася зарыцца з Венгрыяй і Польшчай, не адваёўваць захопленыя імі землі. Кейстут, падпарадкоўваючыся цяжкім абставінам, згадзіўся. Ён быў язычнікам, і для сцвярджэння згоды яго вымусілі выканаць адпаведны абрад. На вачах венгерскага войска перад намётам Людовіка ўкапалі два слупы, да якіх прывязалі рудога вала. Кейстут падышоў да яго і паласнуў нажом па шыі. Хлынула кроў; князь і яго блізкія баяры мазалі гэтай крывёй рукі і твар. Потым валу адсеклі галаву; Кейстут і ягоныя людзі тройчы прайшлі па лужыне крыві паміж галавой і тулавам, што азначала: няхай вы будзеце так па нашай крыві хадзіць, калі мы парушым сваю клятву. Супакоеныя венгры аслабілі пільнасць, і, скарыстаўшыся гэтым, палкі Кейстута ў тую ж ноч зняліся і пайшлі, забыўшыся на прысягу.

## Наезд на Лысагуры

Да 1370 года галоўным рэлігійным асяродкам Польшчы быў Лысагурскі кляштар. Наплыў паломнікаў і кірмашы забяспечвалі кляштару вялікія прыбыткі. Тут назапашвалася золата і серабро ахвяраванняў, захоўваўся дзяржаўны скарб. Слава пра незлічоныя багацці Лысагурскай святыні разносілася па ўсіх суседзях.



Лысагурскі манастыр

Скарыстаўшы бескаралеўе ў Польшчы, аслабленне ўлады і войска, вялікі князь Альгерд сабраў пад Гародняй беларуска-літоўскія аддзелы і праз Люблінскую, Сандамірскую землі рушыў да Лысай гары. У паходзе ўдзельнічалі Кейстут і сыны вялікіх князёў — Ягайла і Вітаўт. Наезд быў добра падрыхтаваны, палякі не здолелі абараніцца, шляхта ратавалася па лясах. Пасля кароткай асады літвіны захапілі кляштар. Была захоплена скарбніца. Кляштар аблупілі, як ліпку. Забралі нават абразы, хоць і Альгерд і Кейстут былі язычнікамі. Пасля гэтага наезду Лысагурскі кляштар занепаў.

Клятва Кейстута па язычніцкаму звычаю

У Альгерда было 12 сыноў: ад першага шлюбу з Марыяй Віцебскай нарадзіліся: Андрэй — князь полацкі, Дзімітры Карыбут — князь бранскі, другі Дзімітры — князь трубчэўскі, Уладзімір — князь кіеўскі, Канстанцін — князь у Чартарыйску; ад другой жонкі — Юльяны Цвярской — нарадзіліся : Ягайла, Віганд, Карыгайла, Іван-Скіргайла, Сямён-Лінгвен, Баляслаў-Швідрыгайла, Міхал.

У князя Кейстута было 6 сыноў: Паціргг, Вайдат, Бутаў, Таўцівіл, Вітаўт, Жыгімонт. Першыя тры рана памерлі, затое астатнія мелі доўгі век. Вітаўт і Жыгімонт сталі вялі-кімі князямі. У адрозненне ад бацькі, князю Вітаўту бог даў толькі адно дзіця — дачку Соф'ю ад пер-шага шлюбу з князёўнай Марыяй Лукомльскай.


Медніцкі замак

## Парушэнне звычаю

У 1377 годзе памёр вялікі князь Альгерд. Перад смерцю ён перадаў галоўную ўладу і сваю палову Княства **Ягайлу,** якога найболей вылучаў з сыноў. Прызначэнне Ягайлы наступнікам абвастрыла непрыхільнасць да яго сыноў ад першага шлюбу Альгерда з Марыяй Віцебскай. Старэйшы сын Альгерда полацкі князь Андрэй, які па старажытнаму звычаю мусіў заняць месца бацькі на троне, не памірыўся з такой крыўдай і распачаў барацьбу. З Ягайлам да ўлады прыйшло і новае згуртаванне баяраў, сярод якіх асаблівую моц набраў Вайдыла, якому Ягайла аддаў у жонкі сваю сястру. Кейстут не стаў цярпець баярскую самастойнасць і загадаў павесіць Вайдылу. Што і было зроблена ў Лідзе на замкавай браме. Ягайла, не маючы сілы вырашыць канфлікт сілай, пайшоў на хітрасць: ён заключыў з Ордэнам тайную дамову, адпаведна якой крыжакі пачалі разбураць тыя землі Вялікага княства, што падпарадкоўваліся Кейстуту.

Распачатая ў Вялікім княстве міжусобіца была ўдала выкарыстана Дзімітрам Данскім для спробы скінуць татарскі прыгнёт, што і было пазначана Кулікоўскай бітвай. Ягайла хоць і выступіў саюзнікам Мамая, але не мог павесці ўсе войскі Княства, бо напружанасць паміж ім і Кейстутам не дазваляла ім аб'яднацца. Маючы за спінай дамову з крыжакамі, якая магла быць выкрыта, Ягайла не насмеліўся рызыкнуць сваімі палкамі і не павёў іх на поле сечы. Такім чынам Дзімітры ўзяў верх над татарамі ў бітве.

Рускі літаратурны помнік «Задоншчына» сярод герояў Кулікоўскай сечы ўзгадваў сыноў і пляменніка Альгерда: «*О, соловей, летня птица, чтобы ты, соловей, выщекотал земли Литовской дву братов Альгердовичей Ондрей да брат его Дмитрей Альгердовичей, да Дмитрей Волынский. Те бо суть сынове храбрни, кречати в ратном времени, ведоми полководцы, под трубами и под шеломы возлелеяны, конец копья вскормлены...*». Названыя тут людзі — гэта князі Андрэй Полацкі, Дзімітры Бранскі і яго брат Дзімітры Баброк-Валынскі. У бітве князь Андрэй камандаваў палком правай рукі, князь Дзімітры Бранскі запасным палком, а князь Дзімітры Баброк засадным палком, які выйшаў з Дубровы нечакана для Мамая і вырашыў зыход бітвы на карысць маскоўскага войска.


Андрэй Полацкі
Дзімітры Баброк
Дзімітры Бранскі

Крэўскі замак

Княская вежа

## Забойства Кейстута

У 1381 годзе Кейстут з падказкі свайго ордэнскага сябра выкрыў здраду Ягайлы і пазбавіў яго ўлады, але пакінуў яму Віцебскі і Крэўскі ўдзелы. Наступным годам за памылку высакародства прыйшлося расплачвацца. Ягайла хітрасцю захапіў Кейстута з Вітаўтам, загадаў змясціць іх у Крэўскім замку. Тут у скляпеннях вежы князь Кейстут быў задушаны чаляднікамі Ягайлы. Яго жонка, княгіня Біру-та, схопленая ў Брэсце, была ўтоплена ў Мухаўцы.



## Выратаванне Вітаўта

Смерць пагражала і **князю Вітаўту**, якога кінулі ў той жа падвал вежы, дзе забілі яго бацьку. Уцячы было немагчыма, аднак Вітаўту пашанцавала. Ён пачаў выдаваць сябе за хворага, перастаў есці і рабіў выгляд, што памірае. З дазволу Ягайлы да яго пусцілі развітацца жонку — **княгіню Ганну**. Тая прыйшла з служанкай. Вітаўт пераапрануўся ў сукенку служанкі, павязаўся хусткай і разам з жонкай пакінуў замак. Служанку звалі Аленай. Калі вартаўнікі ўгледзелі падмену, яны са злосці забілі дзяўчыну. Паданне кажа, што душа Алены засталася ў замку і часам белы прывід выходзіць з вежы і блукае па замкавым двары.



Прывід Крэўскага замка

Восеньскай ноччу князь Вітаўт, Ганна Смаленская і купка верных ваяроў несліся прэч ад змрочнага Крэўскага замка. З імі была і князёўна Соф'я. Ёй споўнілася 11 гадоў. Яна была шчаслівая, што бацька жывы, што яны імчаць па лясных глухіх сцежках у Мазовію, да бацькавай сястры. Аднак тут прыём быў халодны, і сям'я паскакала ў адзіна надзейнае месца — да крыжакоў. Вітаўту прыйшлося кланяцца магістру, падпісваць абавязацельствы, затое Ордэн з задавальненнем даў яму свае рыцарскія аддзелы.

## Вітаўт у крыжакоў

Увосень 1383 года Вітаўт разам з крыжакамі ўдзельнічае ў паходзе на Вільню. Соф'я з мачахай застаецца ў крыжацкай сталіцы Мальборку. Ордэнская дзяржава не паходзіла на іншыя. Ні вялікі магістр, ніхто з капітула, з комтураў, з ордэнскіх братоў не меў у адпаведнасці з статутам Ордэна сем'яў. Гэта была апошняя ў Еўропе тэакратычна-ваенная дзяржава.



## Крэўская вунія

Увесь 1384 год Вялікае княства было ахоплена грамадзянскай вайной, што пагражала становішчу Ягайлы. На ягонае шчасце, палякі выпрацавалі план дынастычнай вуніі — праз жаніцьбу Ягайлы з польскай каралевай Ядвігай. Умовы для Ягайлы былі жорсткія — хрышчэнне Літвы ў каталіцтва і прылучэнне Вялікага княства да Польшчы. У сярэдневяковай гісторыі няма другога выпадку такой здрады Радзіме і дзяржаве, на якую згадзіўся Ягайла. Перакрэслівалася ўся папярэдняя гісторыя. Вялізная самастойная дзяржава мусіла ператварыцца ў правінцыю. Ягайлу хацелася гэтага, і ён быў змушаны шукаць мірнага пагаднення з Вітаўтам. Паміж дваюроднымі братамі пачаліся таямнічыя перамовы, вынікам якіх стала вяртанне Вітаўта ў ВКЛ. Ягайла прапанаваў яму сталец вялікага князя. Нарэшце, Вітаўт у жніўні 1385 года зноў увайшоў у Крэўскі замак, але цяпер у якасці асобы, якая мацавала пячаткай *Крэўскую вунію*. Мала верачы братанку, ён прывёў з сабой верныя палкі, якія чакалі каля сценаў замка. Але і Ягайла меў шмат ваяроў, і кожны з братоў сцярогся, каб не паўтарыць лёс князя Кейстута ў скляпенні Княскай вежы.

Шлюб Ягайлы з польскай каралевай Ядвігай

## Шлюб Ягайлы

Калі Ягайла ў 1386 годзе ехаў у Кракаў да нявесты, дык наперадзе яго несліся чуткі, што ён крывы, нязграбны, ледзь не монстр, і Ядвіга дасылала спецыяльных ганцоў, каб разведалі і расказалі ёй пра знешнасць і паводзіны жаніха. На шлюб прыбылі з боку маладога Вітаўт і Сямён-Лінгвен. Калі Ягайла хрысціўся ў каталіцтва, дык і Вітаўт перахрысціўся ў каталіцтва, але пакінуў сабе сваё праваслаўнае імя *Аляксандр*.

## Заручыны князёўны Соф'і

Крыху раней Вітаўт сустрэў у Луцку свайго будучага зяця — Васіля Дзімітравіча. Апошнія два гады той адседзеў у татараў заложнікам і вырataваўся ўцёкамі. Тут паміж 35-гадовым Вітаўтам і 14-гадовым Васілём адбылася бяседа, вынікам якой сталі заручыны Васіля і Соф'і. Васіль абяцаў, што шлюб адбудзецца, калі ён стане вялікім князем маскоўскім.



Мальбарк – сталіца Тэўтонскага ордэна

Замак Вітаўта ў Гародні

## Хрышчэнне Чорнай Русі

Хрышчэнне язычніцкага насельніцтва Чорнай Русі і Аўкштоты ў каталіцтва адбылося на пачатку 1387 года. Пераход у каталіцтва надаваў правы распараджацца маёмасцю, жонкі і дзеці каталікоў атрымоўвалі права наследаваць зямельную маёмасць сваіх мужоў і бацькоў.

У Вільні было заснавана каталіцкае біскупства з парафіямі ў Медніках, Крэве, Гайне, Абольцах, іншых асяродках. Тут былі пабудаваны першыя на Беларусі касцёлы. Наваградчыну хрышчэнне ў той час не закранула. Толькі праз 20 гадоў тураўскі біскуп правёў тут хрышчэнне ў праваслаўе.

Выканаўшы свае абавязацельствы перад палякамі па каталізацыі Літвы, Ягайла асеў у Кракаве, аднак прызначыў вялікім князем, сваім намеснікам у Вялікім княстве, не Вітаўта, а свайго брата **Скіргайлу**. Вітаўт у 1389 годзе зноў уцякае ў Ордэн. Паходы крыжакоў і Вітаўта на Беларусь, захоп Вітаўтам Горадні, будаўніцтва немцамі новых замкаў занепакоілі Ягайлу, і ён вырашыў за лепшае зноў памірыцца з Вітаўтам.



Каталіцкія манаскія ордэны на Беларусі

## Вітаўт - вялікі князь

У жніўні 1392 года ў Вільні, у касцёле св. Станіслава, пабудаваным на месцы старадаўняга язычніцкага капішча, каля вежы *крывіцкага жраца Крыві-Крэвейта*, біскуп Андрэй Васіла ўсклаў на галаву Вітаўта карону, якую насілі Гедымін і Альгерд. Разам з каронай атрымаў Вітаўт адпаведныя рэгаліі – меч вялікага князя, дзяржаўны скіпетр і пячатку. Наперадзе ў яго было трыццаць восем гадоў уладарання.

## Бітва на Ворскле


Вялікі князь Вітаўт

Пад канец 1398 года ў Кіеў да Вітаўта з'явіўся хан Белай і Залатой Арды *Тахтамыш*. Ён прыбыў у якасці ўцекача, пазбаўленага ўлады валадаром Вялікай Арды Тамерланам. Апошні паставіў ханам Залатой Арды Цімур-Кутлага. Тахтамыш меў пры сабе немалое войска і звярнуўся да Вітаўта з прапановай аб узаемнай дапамозе. Вялікі князь вырашыў скарыстаць зручны выпадак. Ён абяцаў хану вярнуць ардынскі трон, Тахтамыш прымаў на сябе абавязак пасадзейнічаць Вітаўту ў прыяднанні да Вялікага княства ўсёй Маскоўскай Русі. У ліпені Вітаўт сабраў пад Кіеў войскі. Да яго далучыліся некалькі харугваў крыжакоў і добраахвотнікі з Польшчы. 6 жніўня на берагах Ворсклы ваяры Вялікага княства сутыкнуліся з конніцай Цімур-Кутлага. Бачачы колькасную перавагу палкоў Вітаўта, Цімур-Кутлаг прапанаваў пачаць перагаворы аб умовах міру. Вітаўт згадзіўся. Аднак Цімур-Кутлаг старанна зацягваў перагаворы. Князь, як заварожаны, чакаў ханскай згоды на пакору. Пяць дзён змарнавалі на пустыя размовы. А ранкам 12 жніўня Вітаўт убачыў побач з бунчукамі Цімур-Кутлага вялізнае войска хана *Эдыгея*. Падмануты вялікі князь за памылку мусіў плаціць крывёй. Бітва скончылася поўным разгромам харугваў Вітаўта. У сечы загінулі шэсцьдзесят беларускіх, літоўскіх, украінскіх князёў: сярод палеглых былі і героі

Кулікоўскай бітвы — Андрэй Полацкі, Дзімітры Бранскі і Дзімітры Міхайлавіч Баброк-Валынскі. Гэта *самая трагічная бітва* беларускага сярэднявечча.

### Вайна з Тэўтонскім ордэнам

У апошнія дні мая 1410 года ў Гродна пачалі сцягвацца палкі з беларускіх і літоўскіх зямель і княстваў. Адсюль рушылі яны да вытокаў ракі Нараў, дзе быў прызначаны збор усіх сіл Вялікага княства. Затым войскі Вітаўта зрабілі пераход цераз мазавецкія землі, выйшлі да Чэрвенска на Вісле і там сустрэліся з польскімі харугвамі.

Польскае войска прыйшло на бітву ў складзе 50 харугваў — з іх 7 былі ўкраінскія палкі: Львоўскі, Холмскі, Галіцкі, Перамышльскі і тры Падольскія; у дзвюх харугвах меліся наёмныя рыцары з чэхаў, мараваў, сілезцаў. Такім чынам, польскіх харугваў выступіла сорак адна.

Вялікае княства Літоўскае вывела на поле 40 харугваў: 30 з іх мелі на сцягах «Пагоню» — герб Вялікага княства; 10 — герб «Калоны» («Слупы») — стылізаваны белы «Сокал» на чырвоным фоне. Апроч іх з Вітаўтам прыбыла конніца хана Джэлаладзіна.

З 40 харугваў Вялікага княства хронікі паймянна называюць віленскую, гродзенскую, ковенскую, трокскую, лідскую, полацкую, віцебскую, пінскую, кіеўскую, ваўкавыскую, старадубскую, драгічынскую, наваградскую, мельніцкую, крамянецкую, брэсцкую, смаленскую, а яшчэ харугвы князёў Жыгімонта-Карыбута, Сямёна-Лінгвена Мсціслаўскага і Юр'я Заслаўскага.

### Войска

Харугвы мелі розную колькасць — ад 60 да 200 – 300 коп'яў, але былі і ў 500 і ў 600 коп'яў. *Кап'ём* называлася баявая адзінка з трох ваяроў: *рыцара*, *збраяносца* (у нас ён называўся *парабкам*) і *лучніка*. Бедны баярын мог выступаць і ў адзіночку ці абыходзіцца толькі лучнікам, а заможны стараўся пабольшыць лік сваіх парабкаў, бо бяспека рыцара ў баі моцна залежала ад іх колькасці і вопыту. Таму сілы Вялікага княства пад Грунвальдам можна ацаніць у 20 тысяч конніцы, некалькі тысяч пяхоты, 3 – 5 тысяч татараў і 3 – 4 тысячы чэлядзі, абознікаў, канаводаў.

Такую ж прыкладна колькасць вояў прывёў на бітву Ягайла. Больш чым з 30-тысячным войскам прыбыў на поле бою вялікі магістр Ордэна. Так што пад Грунвальдам сышліся біцца каля 80 – 90 тысяч чалавек.

Найменшая баявая адзінка войска – кап'ё



Поле бою па фронту займала дзве з паловай вярсты; улічваючы прыкладную роўнасць сіл саюзнікаў, можна лічыць, што войскі Вітаўта супрацьстаялі немцам на 1—1,25 кіламетра. На такім участку маглі змагацца з крыжакамі не больш 10—11 харугваў, калі ўзяць сто метраў на кожную, гэта значыць па 50 чалавек у шыхту, і 8—10 шыхтоў у глыбіню. Ззаду першай лініі стаялі, рыхтуючыся да бою, 11—22-я харугвы, а за імі — 23—34-я; яшчэ заставаўся рэзерв.

## Грунвальдская бітва

На золку 15 ліпеня войскі Ягайлы і Вітаўта дзвюма калонамі рушылі да возера Любень, і тут стала вядома, што недалёка, за дарогай, якая злучае вёскі Таненберг і Людвікова, стаяць нямецкія харугвы. Палякі пайшлі з левага боку возера, ваяры Вітаўта — праваруч і прама з маршу пачалі перастройвацца ў баявыя парадкі.

Нямецкія кліны раптам павярнулі і закрочылі на ўзгоркі, агаляючы бамбарды і іх прыкрыццё. Пушачная прыслуга паднесла да запалаў факелы — цішыню разарваў грукат, над полем паляцелі ядры і рэдка ўпалі на палкі. «Наперад! — крыкнуў Вітаўт. — Сячы іх!». Уся лёгкая конніца і тысяча татараў сарваліся ў галоп і, узняўшы мечы, пускаючы стрэлы, памчалі на крыжакоў.

У паветры сутыкнуліся дзве хмары стрэл. Паляцелі з коней першыя ахвяры бітвы. Лучнікаў і пушкароў татары, валынцы, падольцы пагалоўна пасеклі. У адказ цяжкая рыцарская конніца наставіла коп'і, кранулася і, набіраючы хаду, грузна паскакала на харугвы Вітаўта. Вялікі князь узмахнуў мечам, і тады Сямён Мсціслаўскі, Манівід і Пётр Гаштольд павялі гуфы ў бой. Мінуўшы ямы, дзе ржалі пабітыя каламі коні і стагна-



лі людзі, харугвы сталі разгортвацца направа і налева, і адпаведна разварочваліся кліны крыжакоў.

Нямецкія і Вітаўтавы гуфы сышліся, з абодвух бакоў паляцелі чароды стрэл, павіслі цяжкай хмарай і пасыпаліся джаліць; коп'і ўдарылі па варожых шыхтах. Разломваліся шчыты, рваліся даспехі, раздзіраліся коп'ямі грудзі, працятыя дзідамі рыцары абодвух бакоў валіліся з сёдлаў. Але хто вытрымаў гэты страшны першы ўдар, падымаў молат, тапор, меч і кідаўся плюшчыць браню, секчы наплечнікі, галовы, рукі. Стрэлы раіліся, гудзелі між закрытых латамі людзей, дзяўблі даспехі, намацвалі аголенае цела, утыкаліся ў шыі і чэравы коней. Рыцары другога шэрагу станавіліся на месца забітых. Цяжкія молаты працінскалі каваныя шлемы; сякеры, прасякаючы міланскую сталь, крышылі косці; двуручныя мечы, упаўшы на плячо, дабіраліся да сэрца. Раненыя падалі з коней — літвін на немца, немец на русіна, татарын на наёмнага швейцарца, і стогны, і перадсмяротныя крыкі людзей, і ржанне коней гаслі ў лютым звоне жалеза, у пякельным грукаце сечы. Мільгацелі мечы, узвіваліся арканы, грукалі молаты — вынішчалася тэўтонскае рыцарства.

Ордэнскія рыцары і наёмнікі, якім пашчасціла вырвацца з «катлоў», імчалі ў свае табары, што стаялі каля вёскі Грунвальд. Тут некалькі тысяч кнехтаў і крыжакі зрабілі з павозак загароджу і намагаліся абараніцца, але вал за валам, як патоп, абрушваліся на іх польская конніца, абознікі, татары, беларусы, літва і крышылі, тапілі ў крыві. Злы адчай немцаў толькі пабольшваў напор, паскараў удары мечаў, сякер, цапоў. Крыжакі і пруская пяхота рассыпаліся і пабеглі. Дарэмна рыцары скідвалі латы, вызвалялі коней ад цяжкай брані, дарэмна кнехты шукалі ямы, лезлі ў дрыгву — пагоня спатыкала, стрэлы гваздалі іх у кустах, норах і твані; аб адным прасілі Бога немцы — каб хутчэй садзілася сонца і начная цемра схавала іх ад пераможцаў.



## Гарадзельская вунія

У 1413 годзе ў мястэчку Гародле над Бугам была прынята новая вунія паміж Польшчай і Вялікім княствам. Вунія пацвярджала прывілеі каталіцкай царкве на Літве і надавала важкія прывілеі каталіцкай шляхце. Так, займаць урадавыя пасады ў Вялікім княстве дазвалялася толькі каталікам, толькі яны мелі права абіраць вялікага князя. Шляхта праваслаўнай веры фактычна пазбаўлялася палітычных правоў. У выпадку смерці бяздзетнага Ягайлы новы польскі кароль мог быць выбраны са згоды Вітаўта і каталіцкіх паноў Вялікага княства. Тое ж тычылася і абрання новага вялікага князя ў выпадку смерці бяздзетнага Вітаўта. Для ўмацавання саюза польскай і літоўскай шляхты 47 польскіх паноў прымалі ў свае гербавыя сем'і каталіцкіх паноў Вялікага княства. Менавіта з Гародля прыйшлі на Беларусь гербы *Ляліва*, *Задора*, *Рава*, *Ліс*, *Тапор*, *Тромбы*, *Копач*. Беларуская шляхта мела ўласныя гербы задоўга да Гарадзельскай вуніі. Гербы ўзнікалі са знакаў маёмасці. Імі пазначалі баявыя сцяжкі на дзідах, каб адрозніваць у бітвах свае шэрагі ад праціўніка.



Герб князёў Заслаўскіх

## Шляхецкія гербы

Сам непасрэдны герб роду (*знак, кляйно*) размяшчаўся на шчыце. У XVI стагоддзі на Беларусі прышчапіўся заходні звычай падзелу шчыта на чатыры часткі, бо так было зручна паказваць гербы родаў і з бацькавага, і з матчынага боку. Асноўная фігура ўладальніка герба магла змяшчацца ў цэнтры шчыта. Часам герб дзялілі на шэсць ці на восем частак, каб паказаць усе знакі продкаў (парodненых родаў). Тады асноўны герб памяшчаўся ў цэнтры на невялічкім шчыце. На пачацвяроных шчытах часам змяшчалі гербы мужа і жонкі: мужаў — у першай і чацвёртай частках, жончын — у другой і трэцяй.

Шчыты найчасцей былі французскага тыпу — квадратныя, з невялікім вастрыём унізе. Былі ў модзе таксама шчыты з паўкруглымі выразамі і лісцевым аздабленнем.

Старажытныя фаміліі мелі на гербе *закрыты шолам* і вянок з сунічнага лісця. Часам з-пад кароны ці вянка звісала мантыя. Вялікакняжацкую карону магла выкарыстоўваць на гербе толькі вялікакняжацкая сям'я і дзяржава. Права на ўжыванне герба «Слупы» мелі ваяводствы і гарады.


Герб Рох III роду Касьцюшкаў

Герб Калінова роду Каліноўскіх

Герб Шаліга

Для шляхты карона мела чатыры зубы ў форме сунічных лістоў ці лілеі. Звычайна карона змяшчалася над шоламам, але дапушчалася змяшчаць яе непасрэдна над шчытом ці над унутраным шчытом.

Часта шолам упрыгожваўся грэбенем. Найбольш папулярны грэбень меў тры ці пяць страусавых або павіных пёраў. Замест пёраў часам выкарыстоўваліся анёлы, рыцары ў брані, птушыныя крылы, аленевыя ці турыныя рогі.

*Мантыя* атачвала шчыт дзеля дэкаратыўнасці.

У беларускай геральдыцы адметнай рысай былі *ініцыялы*, якія звычайна малявалі вакол мантыі ці вянка. Напрыклад, літары **ЛСКВКЛ** на гербе Льва Сапегі азначаюць «Леў Сапега Канцлер Вялікага княства Літоўскага».

*Шчытатрымальнікі* – постаці людзей, міфічных жывёлаў – у беларускай геральдыцы былі з'явай рэдкай. Традыцыйна шчыт атачаў вянок з кветак ці з лісця.

На некаторых гербах змяшчаліся *знакі пасады* ўладальніка. Часцей за ўсё гэта былі Дзяржаўны меч і гетманская Булава, медалі і ўзнагароды. Апошнія памяшчаліся на адпаведнай па колерах стужцы пад гербавым шчытом.



Герб Адзінец

Герб Корсак

Герб Вага

Герб Нязгода

Герб Дубна

Герб Любіч

Герб Вужака

Герб Ляліва

Герб Тапор

## Апошні шлюб

У 1418 годзе памерла жонка князя Вітаўта — княгіня Ганна. Вітаўт, якому было 68 гадоў, хутка ажаніўся з маладой удавой па князю Карачэўскім Ульянай з Гальшанскіх.

У 1422 годзе ўдовы Ягайла з падказкі Вітаўта пасватаўся да прыгожай **Соф'і Гальшанскай**, якая была стрыечнай сястрой ягонай жонкі Ульяны. Ягайла адсвяткаваў 72 гады, Соф'я — 17. Маладыя ўзялі шлюб у Наваградскім фарным касцёле, і беларуская князёўна стала польскай каралевай. Праз два гады ў Соф'і нарадзіўся сын, якому далі імя Уладзіслаў, а праз тры гады ў яго з'явіўся брат, названы Казімірам.

Князь Вітаўт заставаўся без нашчадкаў. Не пашанцавала яму і атрымаць каралеўскую карону, чаго ён чакаў у 1429 і 1430 гадах. Асвячоную каралеўскую карону, якую везлі пасланцы Вітаўта з Рыма, не прапусцілі палякі. У кастрычніку 1430 года вялікі князь Вітаўт сканаў.


Наваградскі фарны касцёл



## Вялікі Князь Швідрыгайла

Па смерці Вітаўта ўзяць вялікакняжацкі трон на Літве і Беларусі жадаў Ягайла, але баярства і князі абралі вялікім князем ягонага брата — Швідрыгайлу.

**Швідрыгайла** неадкладна пачаў разбураць Гарадзельскую унію, асабліва тыя яе артыкулы, якія перашкаджалі праваслаўным займаць дзяржаўныя пасады, уваходзіць у раду і карыстацца прывілеямі, што мелі каталікі. Апроч таго, ён адмовіўся аддаць палякам заходнепадольскія землі, якія адышлі пасля Грунвальдскай бітвы ў пажыццёвае валоданне Вітаўту. Пасля смерці апошняга палякі выгналі намеснікаў з падольскіх замкаў і занялі іх. Швідрыгайла — чалавек крутога нораву — у адказ затрымаў свайго брата, польскага караля Уладзіслава Ягайлу, у Віленскім замку, абвясціўшы яму, што выпусціць на волю толькі пасля таго, як польскія гарнізоны пакінуць Падолле. Ягайла мусіў даслаць на Падолле такі загад.

## Вялікі князь Жыгімонт

Самастойная палітыка Швідрыгайлы прывяла да таго, што Польшча арганізавала незадаволеных ім каталіцкіх паноў і князёў і тыя прапанавалі паставіць вялікім князем брата Вітаўта Жыгімонта Кейстутавіча. Пад канец жніўня 1432 года **Жыгімонт** напаў на Швідрыгайлу ў Ашмянах і ледзь не паланіў; Швідрыгайла ўцёк у Полацк, а пераможца адразу ж быў каранаваны. Так у Вялікім княстве сталіся *два вялікія князі*: у каталікоў — Жыгімонт, у праваслаўных — Швідрыгайла.

У верасні 1435 года на рацэ Святой (прыток Віліі) абодва вялікія князі сышліся на рашучую бітву. Жыгімонту Кейстутавічу палякі прыслалі ў дапамогу восем тысяч ваяроў. Войска Швідрыгайлы складалася з пяці праваслаўных харугваў — полацкай, віцебскай, смаленскай, мсціслаўскай, кіеўскай, чэшскіх атрадаў Жыгімонта-Карыбута, некалькіх лівонскіх і аднаго шведскага палкоў. Бітву выйграў Жыгімонт і стаў поўнаўладным вялікім князем. Швыдрігайла ўцёк на Валынь, дзе жыў да глыбокай старасці.


Пячатка князя Жыгімонта Кейстутавіча

## Забойства Жыгімонта

Жыгімонт Кейстутавіч падпарадкаваўся польскаму ўплыву, а супраць незадаволеных гэтым паноў і шляхты развязаў тэрор.

Князі і паны вырашылі звергнуць душыцеля з трона. Адзіным сродкам для гэтага мелася стаць забойства. Выканаць яго ўзяўся князь **Аляксандр Чартарыйскі**. У Трокі, дзе замкнёна, з вялікай засцярогай жыў Жыгімонт, накіравалі абоз у трыста вазоў з сенам: на кожным хаваліся пяць ваяроў. Князь Аляксандр і блізкі да яго шляхціч Скабейка знайшлі Жыгімонта ў замкавай капліцы. Князь слухаў імшу (абедню), дзверы былі зачыненыя. На стук ён мог не адчыніць. Чартарыйскі ўбачыў, што па двары ходзіць любімы Жыгімонтаў мядзведзь, і задрапаў пазногцямі па дзвярах. Жыгімонт падмануўся і загадаў адчыніць. Чартарыйскі і Скабейка ўвайшлі ў малельню, і апошні, схапіўшы каля печы качаргу, нанёс Жыгімонту смяротны ўдар.

Замак у Троках

## Вялікі князь Казімір

Пасля Жыгімонта на вялікакняжацкі пасад быў абраны 13-гадовы Казімір Ягайлавіч. Юнак прыбыў у Вільню з вялікім атрадам палякаў. Польскія паны-рада хацелі, каб Казімір быў толькі намеснікам іхняга караля Уладзіслава Ягайлавіча ў Вялікім княстве. Па легендзе, літоўскія баяры падпаілі палякаў, а ноччу прывялі Казіміра ў кафедральны касцёл і тут усклалі на яго шапку Гедыміна, падалі Гедымінаў меч і абвясцілі яго вялікім князем. У Польшчы і Вялікага княства аказаліся розныя гаспадары. Правіць Казіміру дапамагала тайная рада. У 1444 годзе кароль Уладзіслаў загінуў у бітве з туркамі пад Варнай, і палякі аддалі каралеўскую карону Казіміру.

Казімір трымаў польскі трон амаль паўстагоддзя, а вялікім князем літоўскім прабыў пяцьдзесят два гады. Як кароль ён большы час мусіў жыць у Кракаве, і віленскі вялікакняжацкі пасад заставаўся, па сутнасці, пусты. Справы вырашала Рада Вялікага княства. Пры Казіміру пачалася паланізацыя Літвы і Беларусі.



Юны князь Казімір

## Няўдалая змова

Вынікам незадаволенасці Казімірам стала змова, якая мела мэтай яго забойства. Князі Міхаіл Алелькавіч Слуцкі, Фёдар Іванавіч Бельскі і Іван Юр'евіч Гальшанскі распрацавалі план замаху на жыццё караля і вялікага князя. Адпаведна плану замах намячаўся адбыцца ў красавіку 1481 года на вяселлі Фёдара Бельскага з князёўнай Ганнай Кобрынскай у Кобрынскім замку. Князі ўлічылі звычкі Казіміра і прадумалі два варыянты забойства — адзін на паляванні, другі ў замку. Перасцярог Казіміра нейкі шпалернік, які абіваў шпалерамі замкавыя пакоі і знайшоў схаваную ў фрамугах зброю. Падслухаўшы гутарку змоўнікаў, ён пераказаў усё пачутае князю Казіміру. Міхаіл Слуцкі з Іванам Гальшанскім былі схоплены. Ім адсеклі галовы. Фёдару Бельскаму пашанцавала ўцячы ў Маскву. Але ў Вялікім княстве засталася яго жонка, з якой ён прабыў пасля вянчання адну ноч. Болей князь яе не бачыў.




Адсячэнне галавы князю Міхайлу Слуцкаму

## Наезды крымчакоў

Напрыканцы XV стагоддзя пашырыліся наезды на Вялікае княства крымскіх татараў. Крымскае ханства, якое ўзнікла ў 1443 годзе пасля распаду Залатой Арды, практыкавала наезды як сродак узбагачэння. У 1497 годзе татары абрабавалі Мазыршчыну, праз два гады спалілі Брэст, годам пазней спустошылі Тураўскую зямлю. Летам 1502 года яны рабавалі прыпяцкія землі; войска, якое ўзначаліў князь Сямён Слуцкі, і гусары Вялікага княства разбілі татараў на Ушы. У жніўні таго ж года царэвіч Баты-Гірэй захапіў пасады Слуцка, але замак узяць не здолеў. Былі абрабаваны таксама Капыль, Койданава, Нясвіж, Клецк. Наступным летам татарскія загоны зноў палілі Нясвіж, Клецк, Слуцк, Навагрудак. Асобныя атрады крымчакоў хадзілі на Менск, Лагойск, дасягалі Віцебска, Полацка, Вільні. Толькі ў палон яны ўзялі больш за 100 тысяч беларусаў.



Крымчук, узброены лукам і дзідай

## Клецкая бітва

Калі татары з'явіліся на Беларусі ў 1506 годзе, ім не пашанцавала. Больш за 30 тысяч татараў прывялі Махмат-Гірэй, Біціс-Гірэй і Бурнаш-Салтан. 5 жніўня 1506 года на рацэ Лані каля Клецка адбылася бітва. Перамога над войскам крымскіх царэвічаў была поўная: 27 тысяч татараў загінулі і патанулі ў Цэпры, 3 тысячы трапілі ў палон. З татарскай няволі было вызвалена 40 тысяч чалавек. Але і тых татараў, якім удалося ўцячы, перагмалі пад Капылём і Пятровічамі слуцкія атрады. Перамога пад Клецкам паклала канец буйным паходам татараў на Беларусь.

## Бітва пад Оршай

Аршанская бітва – адна з буйнейшых у XVI стагоддзі. Яна адбылася 8 верасня 1514 года, калі Маскоўская дзяржава вяла вайну з Вялікім княствам. Рускі бок прывёў на бітву 80-тысячнае войска. Вялікі князь Жыгімонт Стары здолеў выставіць 35 тысячаў. У гэтым ліку было 16 тысяч беларуска-літоўскага коннага апалчэння, 14 тысяч польскай конніцы, 3 тысячы наёмнай пяхоты і 2 тысячы добраахвотнікаў. Але 4 тысячы ваяроў засталіся пры вялікім князю, які стаяў у Барысаве. Пад Оршу насустрач рускім рушыла 30 тысячаў на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім. Гетман арганізаваў бітву так, што трайная колькасная перавага маскоўскіх палкоў не пайшла ім на карысць. Бітва праходзіла на палях паблізу Аршанскага замка, дзе рэчка Крапіўна ўпадае ў Днепр. У выніку сечы маскоўцы страцілі палову забітымі, шмат воінаў трапіла ў палон. Бітва прыпыніла шырокі маскоўскі наступ на Беларусь.



Вайскаводзец Канстанцін Астрожкі
(булава – знак гетманскай улады)

Камянецкая вежа, XIII стагоддзе

У архітэктуры сярэдневяковай Еўропы пераважаў так званы **раманскі стыль**.

Яго вызначалі суровая, крапаснога выгляду збудаванні — замкі, манастырскія комплексы, цэрквы. Для раманскага стылю ўласціва сукупнасць набліжаных адзін да аднаго аб'ёмаў рознай вышыні, ураўнаважаных вежай. Характэрнай асаблівасцю стылю былі *крыжовыя перакрыцці*. У беларускай архітэктуры элементы раманскага стылю маюць Камянецкая вежа, Наваградскі, Лідскі, Крэўскі замкі.

На змену раманскаму стылю прыйшла **готыка**. Касцёлы гатычнага стылю вылучаліся вышынёй, былі добра асветленыя вокнамі з каляровымі вітражамі. Фасады ўпрыгожваліся ажурнымі вежамі, карункамі, у цэнтры часта рабілася вялікае круглае акно — «ружа». Унутраныя слупы гатычных збудаванняў нібыта пучок тонкіх калон пераходзілі ўверсе ў стральчатыя аркі вытанчанага крыжовага скляпення. У гатычным стылі пабудаваныя касцёл св. Ганны ў Вільні, Ішкальдзькі касцёл, Мураванкаўская царква-крэпасць, Мірскі замак.


Касцёл святой Ганны ў Вільні, XV стагоддзе


Сынкавіцкая царква, XVI стагоддзе


Мірскі замак, XVI стагоддзе

У XVI–XVIII стагоддзях у архітэктуры Еўропы панаваў стыль **барока**. Для яго характэрныя дынаміка кампазіцыі, кантрасты святла і ценю, спалучэнне розных відаў мастацтва. Усе сродкі архітэктуры, скульптуры і жывапісу скіроўваліся на стварэнне тэатралізаванага эфекту, на эмацыянальнае ўспрыманне вобраза будынка ці ансамбля будынкаў. На Беларусі барока з'явілася ў часы Контррэфармацыі. Тады, напрыканцы XVI стагоддзя, быў пабудаваны *першы* на Беларусі, у Літве і ў Польшчы *твор барочнай архітэктуры* – касцёл езуітаў у Нясвіжы. Наша архітэктурная скарбніца мае шмат помнікаў барока – касцёлы бернардзінак і езуітаў у Мінску, езуіцкі касцёл у Гародні, кляштар картэзіянцаў у Бярозе, палац у Нясвіжы, Віцебская ратуша, Мікалаеўская царква ў Магілёве і шмат іншых.


Заслаўскі фарны касцёл, XVIII стагоддзе


Слуцкая брама ў Нясвіжы, XVII стагоддзе


Замак у Гайцюнішках, пачатак XVI стагоддзя


Івянецкі касцёл і кляштар францысканаў, пачатак XVIII стагоддзя


Мікалай Гусоўскі

## Адраджэнне

Адраджэнне (Рэнесанс) — эпоха станаўлення раннебуржуазнай культуры ў Заходняй Еўропе ў XIV—XVI стагоддзях, калі ўзнікла новая свецкая культура, гуманістычны светапогляд. Еўрапейскае Адраджэнне паўплывала на культурнае жыццё Беларусі. Адкрываліся школы, друкарні, гарады атрымоўвалі самакіраванне, засноўваліся прыватныя, школьныя, манастырскія бібліятэкі. Моладзь з заможных сем'яў навучалася ў еўрапейскіх універсітэтах. Расла колькасць выкладчыкаў, мастакоў, юрыстаў, з'явіліся творы свецкай літаратуры на беларускай, лацінскай, польскай мовах. Выдатнымі дзеячамі Адраджэння былі Францыск Скарына і Мікалай Гусоўскі. Скарына пераклаў на тагачасную беларускую мову і выдаў кнігі Бібліі. Гусоўскаму належыць паэтычны зборнік «Паэма пра зубра» — выдатны твор літаратуры XVI стагоддзя. Вось маленькі ўрывак з паэмы ў перакладзе Ул. Шатона.

Мог пажадаць валадар, каб у лагер даставілі зубра,
Ды каб і ран не было, проста, каб звязаны быў.
Людзям цяжкім — дакор,
а кемным — адменная дзяка,
Лоўчых збіралася шмат, спорна работа ішла.
Страх не затрымліваў іх, загад яны дзейснілі хутка,
Звера лавілі жыўцом, ставілі князю ля ног...
Зубра, як сведчылі мне, лоўчыя бралі вось так:
Клалі шырокі двухсцен, які паступова звужаўся,
Быццам агромісты клін, зяпу раскрыўшы сваю.
Клін у сярэдзіне меў яшчэ некалькі моцных завалаў,
Іх закрывалі лаўцы вецццем зялёных ялін.
Тын захінуты наўкол галлём і ламаччам усякім,
Каб не заўважыў падман чуйны, апаслівы звер.
Потым юнак у чырвоным плашчы
і з бліскучаю шабляй
Зубру на вочы здалёк, нібы на шпацыр, ідзе.
Згледзеў нахабніка звер і раз'юшаны
рынуў насустрач,
Хлопец імчыцца назад шляхам, абраным раней.
Як даімчаўся бягляк да каварна раскрытае пасткі,
Скочыў таропка туды, звер жа па пятах імкне.
Буйны агонь не патушыш зараз, утрапёны таксама
Ярасць не можа стрымаць, з'юшаны ў пастку ляціць.
Клін тае пасткі з вугла хлапчыну дазволіў праскочыць,
Бык жа захрас, і цяпер не развярнуцца яму.
Тут выбягаюць лаўцы, грамідла рагатае вяжуць,
Дужыя ногі яго путам сплятаюць уміг.
Петлі над ім, рамянём зацiснута пенная храпа,
Ад галавы да хваста дзяг ды вяровак віткі.
Зроблена справа, ды так, што нават і вояў кагорта
Здолела б гэта наўрад, ліха не меўшы ад рог.




Скарына ў мантыі доктара медыцыны. Скіпетр завершаны бюстам Гіпакрата

## Скарына

Францыск Скарына надрукаваў першую кніжку, калі яму было 35 гадоў. Нарадзіўся Скарына каля 1482 года; калі пачаў вучыцца ў Кракаўскай акадэміі — невядома, бо той запіс, на які звыкліся спасылацца («Францыск (сын) Лукі з П(о)лацка»), мае адносіны не да Францыска Скарыны, а да нейкага Францыска з польскага горада Плоцка. Актавы ж запіс ад 1506 года сведчыць, што «Францыск з Полацка, літвін» атрымаў ступень бакалаўра свабодных мастацтваў. Пасля таго яшчэ пяць гадоў ён вучыўся ў Кракаве на факультэце медыцыны, а ступень доктара медыцыны абараняў у Падуанскім універсітэце, які меў дастатковую колькасць спецыялістаў, каб абарону зацвердзіць. Праз пяць гадоў пасля гэтага Скарына асеў у Празе, дзе выдаў 22 кнігі са складу Бібліі.



Ініцыял з кніг Ф.Скарыны

У 1520 годзе Скарына перабраўся ў Вільню і тут таксама выдаў некалькі кніг. У адрозненне ад пражскіх віленскія старадрукі выдадзены на царкоўнаславянскай мове ў беларускай рэдакцыі. Пэўна, пакупнікоў на іх аказалася менш, чым меркавалі Скарына і кола людзей, якія фінансавалі выданні. Кніга наогул каштавала дорага, часам як дваццаць-трыццаць кароў; набыць выданне мог толькі заможны чалавек, таму галоўнымі пакупнікамі выступалі царква, манастыры, багатая шляхта, суполкі гараджанаў.

У 1525 годзе памёр Юры Адвернік, адзін з фундатараў кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны ў Вільні, і Францыск (на той час ён меў сорак тры гады) ажаніўся з яго ўдавой, Маргарытай. Сямейнае жыццё Скарыны — будзем думаць, шчаслівае — цягнулася чатыры гады. Маргарыта сканала ў 1529 годзе, пакінуўшы на руках мужа дзіця. Да тужлівай адзіноты дадалося сумнае ўсведамленне малой зацікаўленасці яго выдавецкай справай з боку адукаваных колаў насельніцтва Вялікага княства. Ды і само гэтае кола было яшчэ занадта вузкім. Не падтрымалі яго ініцыятывы і праваслаўныя святары, што змагаліся супраць рэфармацыйных павеваў, а праца першадрукара, безумоўна, мела на сабе адбітак такіх ідэяў. Друкарні, якая б выдавала кнігі лацінкай, Вялікае княства не мела. Але паслугамі Скарыны віленскі каталіцкі капітул не карыстаўся, хоць Францыск быў каталіком і служыў сакратаром і прыдворным лекарам у біскупа віленскага Яна, пазашлюбнага сына Жыгімонта Старога.

Наступныя гады зноў прынеслі Скарыне няшчасце. Памёр брат Іван, ягоныя даўгі крэдыторы вырашалі спагнаць з Францыска і звярнуліся са скаргай да караля Жыгімонта. Тры месяцы Скарына адседзеў у Познанскай турме, пакуль пляменнік Раман не дамогся сустрэчы з каралём, якому растлумачыў справу. Дзякуючы гэтаму з'явілася на свет прывілейная грамата, дзе віна Скарыны адмаўлялася; яму вярнулі волю. Неўзабаве пасля той «прыгоды» Францыск Скарына выехаў у Прагу. Распаўсюджаная легенда, быццам ён займаў там пасаду каралеўскага садоўніка па запрашэнні караля Фердынанда і заснаваў славуты сад на Градчанах, не мае пад сабой грунтоўных падставаў. Чэшскія даследнікі трымаюцца думкі, што «сад на Градзе» быў закладзены запрошанымі італьянцамі Джавані Спацыа і Франчэскам Банафардэ. Падобнасць імёнаў — Франчэска — Францыск — вось тое адзінае, з чаго нарадзілася версія пра садоўніцкую дзейнасць Скарыны. Хутчэй за ўсё, Скарына ў Празе практыкаваў як лекар. Сканаў беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар у 1551 годзе ў сямідзесяцігадовым узросце на братняй чэшскай зямлі.



Прага. Старамесцкая брама

## Рэфармацыя

На пачатку XVI стагоддзя большасць краінаў Заходняй Еўропы была ахоплена Рэфармацыяй (што па-лацінску азначае *выпраўленне*). Рэфармацыйны рух быў накіраваны на аддзяленне царквы ад папы рымскага, рэлігійныя рэформы, прыстасаванне царквы да патрэбаў узніклага буржуазнага ладу. Агульная назва новых веравучэнняў, накіраваных супроць каталіцкай царквы, — **пратэстантызм**, адпаведна ўдзельнікі Рэфармацыі называліся пратэстантамі (па-лацінску — *нязгоднымі*). У Германіі рух пратэстанцтва ўзначаліў Марцін Лютар, адсюль — *лютэранства*. У Швейцарыі пратэстанцкае вучэнне распаўсюджваў Кальвін, адсюль — *кальвінізм*. Французскія паслядоўнікі Кальвіна вядомыя пад назвай *гугенотаў*. На Беларусі лютэранства не прыжылося, а кальвінізм займеў прыхільнікаў. Кальвіністкае вучэнне накіроўвала на развіццё індывідуальнай свядомасці і рэлігійнасці, адмаўляла культ Багародзіцы і святых, пакланенне рэліквіям, зарок бясшлюбнасці для духавенства, патрабавала роспуску манаскіх ордэнаў, памяншала ролю духоўных асобаў у царкве. Кальвіністы больш сур'ёзна, чым любы іншы напрамак у хрысціянстве, успрынялі словы апостала Пятра: *«Хто не працуе, той не есць!»*


Смаргонскі кальвінскі збор

Рашэнні аб распаўсюджанні і падтрымцы кальвінізму прымалі самыя высокія ўрадоўцы Вялікага княства. **Мікалай Радзівіл Чорны** быў канцлерам, гэта значыць меў вышэйшую пасаду пасля вялікага князя. Па яго смерці канцлерам стаў **Мікалай Радзівіл Руды**.


Мікалай Радзівіл Чорны, апякун кальвінізму на Беларусі

У 1549 годзе Радзівіл адчыніў першы кальвініцкі *збор* (царкву) у Вільні, у 1557 годзе на Віленскім сейме яны дамагліся ад Жыгімонта Аўгуста прывілея, які зраўноўваў у правах з каталікамі ўсіх пратэстантаў. У якасці свецкай і таннай царквы пратэстантызм адпавядаў жаданням гарадскога жыхарства. Каб усвядоміць, чаму яна была танная, варта звярнуцца да апісання віленскага збора: «Уся зала, прызначаная для малення, была зацягнута чорнай тканінай з белым крыжам пасярэдзіне і другім, які вісеў на сцяне. На стале стаялі два падсвечнікі». Ні золата, ні срэбра, ні скульптуры — нічога каштоўнага, раскошнага, што з'яўлялася абавязковым атрыбутам касцёла і царквы.


Заслаўскі кальвінскі збор

## Контррэфармацыя


Нутраны дворык Віленскага ўніверсітэта

Наступ Контррэфармацыі на Беларусі і Літве датуецца 1564 годам, калі ў Вільні з'явілася першая група езуітаў. Праз год яны набылі пляц і будынкі ў цэнтры горада і адчынілі калегіюм. У 1579 годзе па прывілею вялікага князя Стэфана Баторыя ён атрымаў статус еўрапейскага ўніверсітэта. На працягу стагоддзяў універсітэт быў галоўным асяродкам культуры на Беларусі і Літве. Універсітэт меў багатую бібліятэку. Пачатак ёй паклалі 2500 тамоў, якія адпісаў універсітэту Жыгімонт Аўгуст. Тры тысячы тамоў падарыў бібліятэцы канцлер Вялікага княства Леў Сапега.

## Полацкі калегіюм

Полацкі езуіцкі калегіюм быў адкрыты ў 1581 годзе. Першым рэктарам стаў славуты царкоўны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай Пётр Скарга.

Езуіты вучылі задарма, не патрабавалі ад шкаляроў быць каталікамі ад нараджэння або мяняць веру, у калегіюм ахвотна прымалі дзяцей мяшчанаў і сялянаў.

Навучанне ў калегіюме пачыналася з пяцікласнай гімназіі. У праграме існаваў курс беларускай мовы. Пасля гімназіі можна было вучыцца далей на трохгадовым курсе філасофіі.

Полацкі калегіюм належаў да гэтак званых поўных і адрозніваўся ад універсітэта толькі тым, што не меў аўтаноміі ды права прысуджаць навуковыя ступені.

Апроч Полацка калегіюмы дзейнічалі ў Нясвіжы, Пінску, Навагрудку, Оршы, Віцебску, Гародні, Бярэсці, Менску, Слуцку, Слоніме, Магілёве, Жодзішках, Бабруйску.

## Дысцыпліна

Для заахвочвання вучобай у езуіцкіх калегіюмах дзейнічала распрацаваная сістэма ўзнагародаў і пакаранняў. Найбольш здольным шкалярам прысвойваліся званні *«дыктатар»*, *«імператар»*, даручалі правяраць веды іншых вучняў. Лепшым выдаваліся залатыя ці сярэбраныя медалі. Экзамены праводзіліся публічна, у прысутнасці бацькоў і ганаровых гасцей.

Для лянівых вучняў існавала *«аслiная лаўка»*, што ў кожным класе стаяла каля печы. Вінаватыя сядзеў на ганебным месцы, астатнія вучні з яго насміхаліся. Калі хлопец не выпраўляўся, дык на ягоную галаву ўскладалі вянок з жытніх каласоў ці саламяную («аслiную») карону і вадзілі па вуліцах. Ззаду калонай ішлі ўсе навучэнцы калегіюма і хорам крычалі па-лацінску: «Азінус азінорум ін сэкула сэкулорум», — што азначала *«Асёл з аслоў на векі вякоў»*. Калі ж і гэтая акцыя не абуджала жадання вучыцца, тады рэктар калегіюма загадваў прымяніць фізічную кару. У кожным класе мелася лаўка для экзекуцыяў. Нядбайнага гультая прывязвалі да яе тварам уніз, на спіну накладалі лямцавы дыванок, і два шкаляры білі ахвяру *капчугамі* — гэта быў цвёрды рэмень, аплецены тонкімі рамянямі і прычэплены да палкі. Страх перад капчугай дужа павышаў здольнасці.


Пакаранне благога вучня "аслінымі вухамі"

## Арыяне

Разам з кальвіністамі з'явіліся на Беларусі прадстаўнікі яшчэ адной плыні Рэфармацыі — **антытрынітарыі**, ці **арыяне**. Антытрынітарыямі яны называліся, бо не прызнавалі Святую Тройцу, а назва арыяне прышчапілася да іх ад імя біскупа Арыя, які выказваў падобныя думкі яшчэ ў IV стагоддзі і быў абвешчаны ерэтыком. Антытрынітарыі адмаўлялі боскую прыроду Хрыста, не прымалі іншых хрысціянскіх таінстваў, лічылі Біблію літаратурным помнікам, прызнавалі толькі Бога-творцу. Найбольш выдатным дзеячам арыянства на Беларусі быў **Сымон Будны**. Ён служыў міністрам (прапаведнікам) у Клецку, Хоўхлі, Заслаўі, Лоску. У лоскай друкарні ў 1583 годзе выдаў сваю кнігу «Пра свецкую ўладу», дзе выказаў найбольш радыкальныя погляды арыянаў — вызваленне сялянаў, прапаганда пацыфізму, роўнасці і брацтва паміж людзьмі.

Галоўнай апорай арыянаў сталі наваградскія землі і вялікія ўладанні кашталяна Івана Кішкі, якому належала 70 гарадоў і мястэчак і амаль 400 вёсак, у тым ліку Лоск ды Іўе — значныя асяродкі асветы на Беларусі. Пасля смерці Кішкі ў 1592 годзе ягоныя наступнікі пачалі аддаваць арыянскія зборы кальвіністам.



Клецкі кальвінскі збор, дзе ў 1560-62 гадах служыў казанікам Сымон Будны.

Арыянскія абшчыны былі забаронены соймавымі пастановамі ў другой палове XVII стагоддзя. Арыянам прапанавалася змяніць веравызнанне, нязгодныя павінны былі пакінуць краіну. Частка арыянаў перасялілася ў Галандыю.

Гуманіст і асветнік **Васіль Цяпінскі** нарадзіўся на Полаччыне. Ён падзяляў ідэі Сымона Буднага, разам яны ўдзельнічалі ў з'ездах арыянаў, дыспутах з езуітамі і праваслаўнымі. Васіль Цяпінскі пераклаў на беларускую мову Евангеллі ад Мацвея і Марка. На ўласныя грошы ён заснаваў у сваім маёнтку Цяпіна друкарню і надрукаваў свой пераклад. Ягонай адметнасцю быў друк у два слупкі — на царкоўнаславянскай і беларускай мовах. Выдатным літаратурным помнікам сталася прадмова Цяпінскага да Евангелля. Асветнік піша пра неадукаванасць праваслаўнага духавенства, што адмаўлялася ад роднай мовы.



Васіль Цяпінскі



Сымон Будны прамаўляе перад вернікамі

## Барбара і Жыгімонт

Каханне Барбары Радзівілянкі і каралевіча Жыгімонта Аўгуста параўноўвалі з трагічным каханнем Рамео і Джульеты. Пачынаўся раман супраць правілаў. Ён — наступнік трона, яна — маладая ўдава трокскага ваяводы. Для каралеўскай нявесты Барбары не хапала знатнасці. Але віленскія палацы закаханых знаходзіліся адзін насупраць другога на берагах Віліі, і Жыгімонт прыходзіў на спатканні з Барбарай тайна. Браты Радзівілы — Мікалай Чорны і Мікалай Руды — не замарудзілі ўказаць каралевічу, што яго заляцанні кідаюць цень на гонар сям'і і яму не трэба наведваць палац у іх адсутнасць. Каралевіч падпарадкаваўся. Аднойчы, калі браты Радзівілы выправіліся на паляванне, ён парушыў слова. Апоўначы дзверы спальні адчыніліся і ўвайшлі Мікалай Чорны і Мікалай Руды, трымаючы рукі на эфесах шабель. За іх спінамі стаяў ксёндз... Шлюб быў тайным. Для сваёй сям'і і польскай дзяржавы Жыгімонт заставаўся халастым. Але калі пасля смерці бацькі рашэннем сойма ён атрымаў карону і паўстала пытанне аб шлюбе маладога караля, дык аказалася, што Польшча павінна сустрэць каралеву — літвінку з толькі што спечанай княжацкай сям'і (Радзівілы сталі князямі па грамаце папы рымскага). Атрымалася, што Польшча ўвайшла ў саюз не з другой дзяржавай, не з каралеўскай фаміліяй, а параднілася з Радзівіламі. Але маткай Жыгімонту даводзілася **каралева Бона** — рашучая італьянка з сямейства Медычы, якое выкарыстоўвала любыя сродкі для дасягнення сваіх мэтаў. Хутка Барбара захварэла і згарэла як свечка. Жыгімонт лічыў, што жонку атруцілі і што вінаватая ў гэтым яго маці. Ён пасварыўся з ёй на ўсё жыццё.

Каралева Барбара і кароль Жыгімонт Аўгуст пасля вянчання



Каралева Бона, жонка вялікага князя Жыгімонта Старога, у маладосці

## Лівонская вайна

Жадаючы атрымаць выхад да Балтыйскага мора, рускі цар Іван IV у студзені 1558 года наслаў войскі на Лівонію. Лівонскі ордэн, не здолеўшы абараніцца ад маскоўскіх палкоў уласнымі сіламі, пайшоў пад пратэктарат Вялікага Княства Літоўскага. У 1561 годзе Ордэн канчаткова падпаў пад уладу ВКЛ, якое выставіла яму на дапамогу свае войскі. Іван Грозны перанёс ваенныя дзеянні на Беларусь. У 1563 годзе маскоўскія войскі захапілі Полацк. Дзесяць тысяч палачанаў былі выведзены ўглыб Масковіі ці забіты. Зімой наступнага года ў бітвах на рацэ Уле і каля Оршы войска ВКЛ разбіла палкі ворага. Мірныя перамовы скончыліся безвынікова. Аслабелае ў вайне Вялікае княства было вымушана пагадзіцца на цяжкія ўмовы Люблінскай вуніі з Польшчай, якая абяцала ваенную дапамогу. Пасля трохгадовага замірэння вайна распачалася зноў. Нарэшце ў 1579 годзе Стэфан Баторы здолеў вызваліць ад царскіх войскаў Полацк. Вайна закончылася падпісаннем у 1582 годзе міра на дзесяць гадоў. Па умовах замірэння Вялікае княства вяртала сабе ўсе страчаныя за час вайны землі.


Стэфан Баторы – вялікі князь літоўскі, вызваліцель Полацка



## Зброя блізкага бою

Мінімальны камплект узбраення складалі *дзіда* (кап'ё), *меч*, *шчыт*, *нож*. Апроч гэтага ваяр мог мець сякеру, чакан, звяздыш. Пяхота ўжывала таксама доўгія коп'і ці сякеры на даўгіх дрэўках (алебарды). Узнятыя высока яны падалі на першыя шэрагі ворага, як нажы гільяціны.

Кожны ваяр стараўся мець і добрае ахоўнае ўзбраенне. Купіць сабе *кальчугу* мог толькі вельмі багаты чалавек – для яе патрабавалася адкаваць дзесяткі тысяч маленькіх колкаў з загартаванага дроту. Да таго ж кальчуга ахоўвала толькі ад нямоцнага ўдару і нажа. Шырэй быў распаўсюджаны *бахцярэц* – пласцінкі жалеза нашываліся на тоўстае сукно ці скуру, а таксама *панцыр* – жалезныя пласцінкі знітоўваліся колкамі. Бяднейшыя ваяры абыходзіліся панцырамі з дошак з прымацаванымі зверху лускавінкамі жалеза.

Поўныя рыцарскія даспехі, якія на Беларусі называліся *«браня белая»*, з'явіліся пасля сутычак з лівонскімі і тэўтонскімі крыжакамі – напачатку ў якасці трафеяў. На такое ўзбраенне абменьвалі палонных крыжакоў. Гэтыя даспехі каштавалі так дорага, што іх пакідалі ў спадчыну таму з сыноў, хто не атрымоўваў ад бацькоў нерухомасці.



## Гусары

Гусары ў войску Вялікага княства з'явіліся на пачатку XVI стагоддзя. Само слова «гусар» прыйшло з Венгрыі, дзе яно азначала конніка, якога выстаўлялі кожныя дваццаць двароў. На Беларусі і Літве гусарскія харугвы фарміраваліся з шляхты. Гусар меў на ўзбраенні кап'ё, шчыт, меч, панцыр, шлем. Пад канец таго стагоддзя назву гусараў пераняла цяжкая конніца. Заможная шляхта прыпісвалася да харугваў *крылатых гусараў*, што мелі лепшае ўзбраенне і для псіхалагічнага ўздзеяння на ворага прымацоўвалі за спіной крылы з металічных пласцінак. Пры імклівым руху конніцы крылы запужвалі шумам.Гусарскія палкі дзейнічалі ў войску ВКЛ да канца XVIII стагоддзя.

## Уланы

Уланы ў войску Вялікага княства з'яўляюцца ў XV стагоддзі. Слова «ўлан» — цюркскага паходжання, азначае — «хлопец». Уланскую харугву складалі татары, што пакінулі Залатую Арду. Уланаў выстаўлялі татарскія паселішчы на Беларусі, якія мелі сваю адміністрацыйную аўтаномію. Асобны аддзел уланаў колькасцю 120 коннікаў засведчаны ў першым «Попісе» войска ВКЛ у 1528 годзе.

## Перапіс войска

Другі «Попіс» войска Літоўскага праходзіў 10 мая 1567 года паблізу Маладзечна, у Красным Сяле, як занатавана ў дакументах, *«перад его мости паном гетманом, паном Григорьем Александровичем Ходкевичам, паном виленским, гетманом наивышшым Вел. Кн. Лит.»*. Сышліся з усіх паветаў сюды 27780 конных і 7200 пешых ваяроў. Шляхта Лідскага павета выстаўляла 800 вершнікаў, Менскі павет — 220, Наваградскі — 450, Брэсцкі — 420, Пінскі — 234, Гродзенскі — 714. Праходзілі перад гетманам і запісваліся татарскія харугвы: Магмета Юхновіча ў 147 коней, Магмета Якубовіча ў 85, Мартуза Алішкевіча ў 50, Абдарахмана Войніча ў 53 кані і іншыя. Побач з князем Радзівілам, які адзін выстаўляў 540 вершнікаў, стаяла шляхта, што не мела коней; такіх шляхціцаў адзначана ў «попісу» 1518 чалавек.

Крылаты гусар

## Сядзіба

Сялянская сядзіба складалася з мноства неабходных дзеля гаспадарання пабудоў. Галоўнае месца займала *жытло*. Найчасцей сустракалася жытло тыпу: хата + сенцы, якое пазней павялічылася: хата + сенцы + клецъ ці хата + сенцы + хата. Апроч жытла сядзіба мела варыўню, склеп, свіран, хлявы, адрыны для сена, стадолу.

*Клецъ* (інакш – камора) мела функцыі кладоўкі.

*Варыўня* служыла для захавання харчовых прыпасаў.

Тое ж прызначэнне мелі паграбы. *Склеп* часцей рабілі пры хаце, у сенцах. Склеп адрозніваўся ад пограба тым, што меў мураваныя сцены.

*Свіран* служыў для захавання адборнага зерня. Двухпавярховыя свірны называліся *лямусы*.

*Стадола* (гумно, клуня, ток) будавалася для захавання збожжа ў снапах. Часам побач з ёй будавалі *восець* (еўню) для агнявой сушкі збожжа. Выкарыстоўвалі для сушкі хлеба і *азяроды*.

Сялянскі двор меў лазню і студню (калодзеж).






## Хата

Амаль тысячагоддзе сялянства пражыло ў курнай хаце. Яна знікла пад канец XIX стагоддзя. У хаце былі два-тры валаковыя акенцы, што зачыняліся на ноч засаўкай. Хата мела высокі парог і нізкія дзверы (метр на паўтара). Падлога найчасцей была глінабітная. Справа ад дзвярэй стаяла глінабітная печ без коміна. У столі рабілі адтуліну для дыму. Супраць печы ля ўвахода месціўся гаспадарчы кут («бабін кут»). Каля печы стаяў «дзед» («конь») – слуп, што служыў апорай для спальнага пола і палацяў. Уздоўж сцен ставілі лавы. На покуці развешвалі абразы, тут стаяў засланы абрусам стол, на якім трымалі хлеб, пакрыты ручніком. За абедам і на святы тут было месца гаспадара.




Палаці
Печ з комінам
Калыска
Пол
Ясік
Падлога
Хадункі
Дзяжа
Бабін кут
Цабар

Лес на новую хату нарыхтоўвалі, трымаючыся старажытных правілаў. Народны вопыт патрабаваў секчы дрэвы для будоўлі жытла зімой, калі раслінныя сокі не падымаюцца з каранёў. Самым спрыяльным часам для нарыхтоўкі лесу лічылася поўня. На поўню ж імкнуліся справіць наваселле, бо поўны месяц абяцаў поўны дастатак. На ноч перад засяленнем у хату пускалі пеўня ці ката. Кот, як верылі людзі, прымаў на сябе магчымае зло. А певень, згодна са старажытнымі павер'ямі, сваім ранішнім спевам адпужваў ад хаты нячысцікаў. Агонь у новую хату пераносілі са старой. За агнём неслі абразы і дзяжу з цестам, якую ўрачыста ставілі на покуць. Перш чым увайсці ў хату, туды кідалі клубок нітак. Трымаючыся за нітку, гаспадары па старшынству ўваходзілі ў свой новы дом.

Флігель

Ганак

Панскі палац

## Шляхецкая сядзіба

Жыллё дробнай шляхты было падобным на сялянскае. Але шляхецкая хата была «белая», гэта значыць, што печ мела комін. Адметнасць шляхецкага двара падкрэслівала *брама*. Да хаты прыбудоўвалі ганачак на двух слупах. Саламяную ці дранкавую страху рабілі стромкай ці ламанай. Перад хатай быў невялікі пляц з клумбай ці стаяў слуп з сонечным гадзіннікам, з невялікай галубятняй, некаторыя шляхцічы прыбівалі да слупа радавы герб. Сенцы мелі скразны выхад ў сад ці на гаспадарчы двор, дзе было некалькі свірнаў, лямус, сырніца, а далей гумно і хлявы. У садзе стаяла альтанка, часам была невялічкая сажалка.

Больш заможная шляхта мела некалькі спальных пакояў, гасцёўню, пакойчыкі на другім паверсе. Каля дома ставіліся флігелі — для прыслугі і «стаенны» — для коней і павозак. Прысутнасць флігеляў дазваляла называць жылы гмах **палацам**. Порцікі з калонамі ўвайшлі ў моду ў XVIII стагоддзі.

Бедная шляхта асвятляла пакой па-старому — лучынай. Багатыя паны куплялі люстэркавыя люстры пад столь. Сцены абівалі тканінамі, палатнянымі шпалерамі, пазней — папяровымі.



## Вёска

На поўначы краіны — у Падзвінні — бальшыня сельскага жыхарства жыла ў невялікіх вёсачках і на хутарах. Звычайнай тут была вёска да 10 сядзіб. Часцяком яны не мелі акрэсленай вуліцы. Ад двара да двара, у поле, да возера, на луг вялі сцяжынкі.

Вярхоўе прыпяцкіх вытокаў Случы і Лані займала жытніца Беларусі. Тут вёскі ў 20—40 двароў размяшчаліся ўздоўж дарог.

Панямонне да паловы XVI стагоддзя адзначалася невялікімі паселішчамі свабоднай забудовы. Валочная рэформа, праведзеная ў 1557 годзе, змяніла воблік паселішчаў. Яны будаваліся на спецыяльна выдзеленых месцах, пры гандлёвых трактах, былі буйныя і ўпарадкаваныя. Часцяком гаспадарчыя збудаванні аддзяляліся ад жытла вуліцай.

На Палессі найбольш былі заселеныя добрыя землі па Прыпяці (зараз апынуліся ў Чарнобыльскай зоне і выйшлі з гаспадарчага карыстання). Багата было паселішчаў і на Тураўшчыне. На Пцічы і Арэсе вёскі будаваліся паралельна рэкам, сядзібы выходзілі да ракі задворкамі і агародамі.

Па сярэднім цячэнні Прыпяці на працягу 200 кіламетраў паселішчы сустракаліся вельмі рэдка. Яны займалі пясчаныя пагоркі. Непраходныя балоты вымагалі сістэмы штучных збудаванняў — грэбляў, гацяў, мастоў. Свірны, клеці, а часцяком і хаты ўзводзілі на палях. Асаблівай працы патрабавала тут пракладка шляхоў, на працягу






многіх кіламетраў трэба было будаваць гаці, рабіць насцілы з бярвенняў. Старажытны шлях ад Мазыра на Тураў на ўчастку ад Дзякавіч да Азяранаў меў суцэльную гаць даўжынёй у 13 вёрст. Непраходныя балоты гацілі ўзімку, калі браліся моцныя маразы. Вясеннія і восеньскія паводкі разбуралі гэтыя хісткія дарогі. Кожны год, стагоддзе за стагоддзем, іх аднаўлялі.




## Паляванне




У старажытнасці паляванне мела гаспадарчае значэнне, і беларусы выпрацавалі шмат прыёмаў для здабычы дзікіх звяроў і птушак. Найбольш пашыранай была *аблава з нагонкай*, калі гучкі (загоншчыкі) гналі звяроў на лінію стралкоў. Для палявання на ваўкоў прымянялася *аблога з сцяжкамі* (з пучкамі рознакаляровых пёраў), прывязанымі праз метр да шматкіламетровага шнура, якім закрывалі дзялянку лесу. Паляўнічыя станавіліся з усіх бакоў дзялянкі і бралі ваўкоў у «кацёл». Часта звяроў прываблівалі да якога-небудзь месца, напрыклад, ставілі стажок сена для ласёў, а паляўнічыя хаваліся ў спецыяльным будане ці ў палатцы на дрэве. Ваўкоў прываблівалі віскам парасяці, якое паляўнічыя везлі ў санях уздоўж лесу. Ваўкі выскоквалі на віск, гналіся за санямі і траплялі пад стрэлы. Для палявання выкарыстоўвалі лукі, дзіды, сякеры, шаблі, рагаціны, кушы (арбалеты).




Распаўсюджаным было *паляванне з сабакамі*: *харты* даганялі і душылі звера, *выжлы* нюхам адшуквалі птушак і ўзнімалі іх, *ямнікі* (таксы) гналі звяроў з нораў. На гусей і качак часта хадзілі з прыручанымі выдрамі. Шырока выкарыстоўваліся самаловы і пасткі.

Масавае паляванне хутка адгукнулася пачаткам фаўністычнага крызісу (змяншэннем колькасці дзікіх звяроў). Ужо ў XIV стагоддзі на Віцебшчыне і Полаччыне знікаюць зубры і алені. У 1627 годзе быў знішчаны апошні тур, у сярэдзіне XVIII стагоддзя зніклі тарпаны. Звяліся собалі, расамахі, чорныя зайцы, лясныя каты, мядзведзі-мурашкаеды.



Трызуб – прылада для палявання на мядзведзя







## Мястэчкі

Раней на Беларусі гарады мелі агульнаславянскую назву – *места*: напрыклад, места Полацк, места Менск, места Магілёў. Невялікія гарадкі адпаведна называліся *мястэчкамі*. Яны выконвалі важную функцыю ў гаспадарцы – былі рэгіянальнымі гандлёва-рамесніцкімі асяродкамі. Асаблівую ролю адыгрывалі местачковыя *кірмашы*.









Сінагога

Крама

Школка

Характэрнай асаблівасцю мястэчак была гандлёвая плошча. Большыня мястэчак узнікла пасля прыняцця III Статута ВКЛ (1588 год). Мястэчкі ўзнікалі адначасна з будаўніцтвам замкаў, каля манастыроў, на гандлёвых шляхах і як рамесніцкія цэнтры. Найбольш старажытныя мястэчкі — Любча, Гальшаны, Талачын, Іказнь, Дзісна, Смаляны, Станькава, Койданава, Крычаў, Жыровічы, Старобін, Свержань, Бешанковічы, Ракаў, Рубяжэвічы.

Мястэчкі канцэнтравалі яўрэйскае насельніцтва, якое, не маючы па закону правоў набываць зямлю і весці сельскую гаспадарку, спецыялізавалася на гандлі і розных рамёствах. У цэнтры мястэчка, на плошчы, будавалі царкву, касцёл, сінагогу, гандлёвыя рады, крамы, корчмы.

## Адзенне

Мужчынскае адзенне складалі доўгая *кашуля*, *нагавіцы* (штаны) з даматканага палатна белага колеру. Галоўным уборам звычайна была ваўняная ці пашытая з сукна *магерка*, летам – саламяны брыль, у зімовыя месяцы – аблавуха з аўчыны. Абавязковай часткай адзення быў *пояс* – шарсцяны ці скураны. У зімовы час паверх нагавіцаў надзявалі *суконнік* – штаны з даматканага сукна шэрага колеру. Верхнім адзеннем была *світа* (іншыя назвы – сукмана, сярмяга, катанка), а ў сцюжу – кажух. Сукмана, якую надзявалі на святы, мела ўпрыгожанні. У розных рэгіёнах Беларусі адзенне мела асаблівасці па крою і колеру.

Жаночы строй складаўся з доўгай *кашулі*, *спадніцы* і *безрукаўкі*. У халодныя месяцы жанчыны насілі світы і кажухі, якія адрозніваліся ад мужчынскіх узорамі аздобы. Распаўсюджаны галаўным уборам былі *наміткі*, *каптуры*, *хусткі*. З непакрытай галавой хадзілі дзяўчаты, а замужнія жан-



Народнае адзенне



Шляхта

чыны заўжды закрывалі валасы. Жаночы строй аздабляўся вышыўкай, часцей чырвонага колеру. Паясное адзенне вызначалася разнастайнасцю: жанчыны насілі і палатняныя спадніцы, і суконныя шматнітавыя андаракі, і рознакаляровыя «набойкі».

Святочным і выхадным абуткам былі *боты*, у жанчын яшчэ — чаравікі. Лапці насілі ў будзённыя дні, калі працавалі.

Верхнім адзеннем шляхты быў *жупан*. Шылі яго з шоўку, паркалю, аксаміту, адамашку белага, шэрага, блакітнага, зялёнага колеру. Адамашак мог быць затканы залатымі і сярэбранымі ніткамі. Жупан падпяразваўся пасам. Мода на жупаны мянялася. Напачатку іх шылі доўгімі, потым укарочанымі. Жупан меў стаячы каўнер, наперадзе звычайна ніжэйшы і расшпілены, каб бачылі вышываную кашулю. Паверх надзявалі *кунтуш*, які звычайна шылі даўгім. Укарочаны кунтуш называўся *чэхманом*. Кунтушы шыліся з шоўку, аксаміту, сукна, часам падшываліся футрам. Асаблівасцю кунтуша былі разрэзаныя рукавы, якія свабодна звісалі або закідваліся на плечы. Кунтуш звычайна насілі расшпіленым, а зашпілены падпяразвалі шырокім пасам, які атрымаў назву слуцкага.

## Люблінская вунія

Люблінская вунія была прынятая 1 ліпеня 1569 года. Адпаведна ўмовам вуніі Літва і Беларусь злучаліся з Польшчай у адзіны дзяржаўны арганізм. Новая дзяржава называлася **Рэч Паспалітая** (калька з лацінскага слова — Рэспубліка). Злучаныя гаспадарствы мелі аднаго гаспадара з тытулам «кароль польскі і вялікі князь літоўскі і рускі». Кароль атрымліваў пасад не па спадчыне, а па абранню. Абірае караля шляхта абедзвюх дзяржаваў разам, для чаго збіраецца сойм у Варшаве. Каранацыя адбываецца ў Кракаве. Літва і Беларусь не мелі права абраць для сябе асобнага вялікага князя. Сойм складаецца з дэпутатаў, абраных на мясцовых павятовых сойміках. Калі ў ВКЛ ёсць якія-колечы пастановы, нязгодныя з умовамі вуніі, то яны касуюцца. Грашовыя знакі — агульныя. Паміж Польшчай і ВКЛ межы касуюцца.



Канцлер ВКЛ
Леў Сапега



Герб федэратыўнай Рэчы Паспалітай

**Каралі
Рэчы Паспалітай,
вялікія князі літоўскія
пасля Люблінскай вуніі**

1569 — 1572 — Жыгімонт Аўгуст

(з лютага па чэрвень) 1573 — Генрых Валуа (прынц анжуйскі, з 1574 г. кароль Францыі)

1576—1586 — Стэфан Баторы

1587—1632 — Жыгімонт III Ваза

1632—1648 — Уладзіслаў Ваза

1648—1668 — Ян Казімір Ваза

1669—1673 — Міхал Вішнявецкі

1674—1696 — Ян Сабескі

1697—1733 — Аўгуст II (адначасна — саксонскі курфюрст)

1704—1709 — Станіслаў Ляшчынскі

1733—1764 — Аўгуст III (адначасна — саксонскі курфюрст)

1764—1795 — Станіслаў Аўгуст Панятоўскі

## Трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага

Трэці Статут (збор законаў), прыняты ў 1588 годзе, аформіў захаванне Княства насуперак акту Люблінскай вуніі. Польшча і Вялікае княства заставаліся гаспадарствамі з уласнымі тэрыторыямі, заканадаўствам, скарбніцамі і войскам. На рубяжы паміж імі па-ранейшаму бралася мыта (пошліна), толькі за ўраджэнцамі Вялікага княства захоўвалася права займаць дзяржаўныя і судовыя пасады.

Трэці Статут быў напісаны на старабеларускай літаратурнай мове, грунтаваўся на беларускай прававой лексіцы. У Заходняй Еўропе юрысты карысталіся лацінскай мовай, а гэты збор законаў разумела ўсё жыхарства Вялікага княства. Трэці Статут замацаваў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай мовы Вялікага княства.



Тытульная старонка Статута 1588 года (друкарня Мамонічаў)

## Вунія цэркваў

У 1589 годзе канстанцінопальскі патрыярх Ієрамія быў у Маскве і заснаваў маскоўскае патрыяршаства. Вяртаючыся дамоў, Ієрамія прызначыў кіеўскім мітрапалітам менскага святара Міхаіла Рагазу, але адначасна даў *экзаршаства* – старшынства над усімі біскупамі — луцкаму біскупу Кірылу Цярлецкаму. Апошні быў незадаволены, паколькі мусіў дзяліць уладу з мітрапалітам.

Цярлецкі вырашыў прыняць вунію. Аднадумцамі сталі біскупы Кірыла луцкі, Гідэон львоўскі, Лявонці пінскі, Дыянісій холмскі і ўладзімірскі біскуп Іпацій – сапраўднае імя Адам Пацей, які быў да таго кашталянам брэсцкім. Пад канец 1595 года Цярлецкі і Пацей паехалі ў Рым, і тут, у Канстанцінавай зале Ватыканскага палаца, за два дні да Калядаў папа абвясціў аб уз'яднанні ўсходняй царквы з рымскай.

У кастрычніку 1596 года ў Брэсце склікаўся царкоўны сабор, які прыняў вунію. Але частка біскупаў засталася ў праваслаўі.


Брэсцкая Мікалаеўская царква, дзе была абвешчана вунія

Аднак праваслаўныя магнацкія роды вунію не падтрымалі. Уплывовыя праваслаўныя асобы хутка з'арыентаваліся, што больш карысна разарваць з праваслаўем, чым прымаць ролю яго абаронцаў. Пачатак XVII стагоддзя адзначаны пагалоўным пераходам у каталіцтва старадаўніх фамілій Вялікага княства – Астрожскіх, Слуцкіх, Заслаўскіх, Сангушак, Саламярэцкіх, Вішнявецкіх, Масальскіх, Пузынаў, Хадкевічаў, Глябовічаў, Сакалінскіх, Лукомльскіх, Кішкаў, Сапегаў, Дарагастайскіх, Валовічаў, Тышкевічаў, Пацеяў, Корсакаў. За імі пацягнулася менш славутая шляхта, і ў цэлым праваслаўная вуніяцкая царква засталася царквой мяшчанаў і сялянства.

## Ордэн базыльянаў


Іосіф Руцкі

У 1617 годзе вуніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі стварыў у Вялікім княстве **Базыльянскі ордэн**. Да вуніі ўсе праваслаўныя манастыры на Беларусі, Літве і Украіне існавалі згодна са статутам святога Васіля Вялікага (Кесарыйскага), які яшчэ ў IV стагоддзі напісаў «Вялікае і малое правіла» для распарадку жыцця манахаў.

Кожны манастыр быў незалежны і падпарадкоўваўся толькі свайму ігумену і епархіяльнаму ўладыку. У такім выглядзе манастыры пераходзілі да вуніятаў. У Руцкага выспела думка стварыць з іх Таварыства на ўзор Таварыства Ісуса (езуітаў). У Навагродавічах Менскага ваяводства адбыўся з'езд усіх ігуменаў вуніяцкіх манастыроў, і пасля дзесяці пасяджэнняў з'езд вырашыў: вуніяцкае манаства злучаецца ў Ордэн базыльянаў; Ордэнам кіруе генерал (протаархімандрыт) і чатыры асістэнты. Ордэн падначальваецца папу рымскаму, прымае на сябе адказнасць за выхаванне моладзі. Праз кароткі час вуніяцкія манастыры ўзніклі ў Гродне, Мінску, Жыровічах, Кобрыне, Полацку, Магілёве, Наваградку, Пінску, Чарэі, Мсціслаўі.

Манахі базыльянскага ордэна мелі свой узор вопраткі, які адрозніваў іх ад манахаў праваслаўных і каталіцкіх. Ордэн завёў свае школы, друкарні, шпіталі.


Жыровіцкі Успенскі сабор

## Народнае паўстанне

У 1648 - 1651 гадах уся паўднёвая і ўсходняя Беларусь была ахопленая народным паўстаннем супраць феадальнага прыгнёту і нацыянальнага ўціску. Сяляне і гарадское жыхарства арганізоўваліся вакол казацкіх загонаў, што даслаў на Беларусь Багдан Хмяльніцкі. Паўстанцы захапілі Гомель, Бабруйск, Брагін, Чачэрск, Мазыр, Лоеў, Тураў, Пінск. Казацка-сялянскія атрады бязлітасна вынішчалі шляхту, перамаглі харугвы пісара ВКЛ Валовіча над Рэчыцай. Аддзелы рэчыцкіх паўстанцаў складалі 3 тысячы чалавек. Пад Горвалем быў знішчаны вайсковы атрад князя Мірскага, каля Чэрыкава казакі і сяляне разграмілі харугву князя Лукомльскага, а неўзабаве – аддзелы вялікага гетмана Кішкі. Задушэнне паўстання кароль даручыў таленавітаму вайскаводцу, польнаму гетману літоўскаму **Янушу Радзівілу**. Той сабраў 14 тысячаў найманага і шляхецкага войска. Гэтымі вялікімі сіламі Радзівіл пасля аблогі ўзяў горад Тураў, дзе ўсе «беларусцы» былі пасечаны.



Сцяг казакоў на Гомельшчыне



Віленскі ваявода, вялікі гетман Януш Радзівіл



Казацкая пяхота



Сотнік казацкага войска

Казацкі палкоўнік

Далей харугвы Радзівіла рушылі на Мазыр і Чачэрск. Тут 150 мяшчанаў пакаралі адсячэннем правай рукі, а 50 пасадзілі на калы. Пасля захопу Бабруйска шляхта пасадзіла на калы 100 «казакаў», а 800 зноў жа страцілі пад сякерай правую руку. У лістападзе 1649 года войска Вялікага княства атачыла Пінск і пасля працяглага гарматнага абстрэлу захапіла горад. На загад князя Мірскага ваяры бязлітасна забілі 3 тысячы пінчукоў, іхніх жонак і дзяцей.

У бітве пад Лоевам Радзівіл перамог казацка-сялянскае войска, узначаленае палкоўнікам **Міхайлам Крычэўскім**. Паранены палкоўнік трапіў у палон, але сам скончыў жыццё, разбіўшы галаву аб акаванае кола гарматнай фурманкі. Пасля смерці Багдана Хмяльніцкага на Беларусь перасталі прыходзіць казацкія загоны, і шляхта здолела вынішчыць усе разрозненыя аддзелы паўстанцаў. Нарэшце Януш Радзівіл, праследуючы казакоў, увайшоў у Кіеў.




## Маскоўскае нашэсце

У 1654 годзе пасля рашэнняў Пераяслаўскай Рады аб саюзе ўкраінскіх казакоў з Масквой распачалася вайна Расіі супраць Рэчы Паспалітай. Галоўны тэатр ваенных дзеянняў прыпаў на Беларусь. За лета і восень рускія войскі занялі Смаленск, Полацк, Віцебск, Мсціслаўе, Оршу, Магілёў, а ў наступным годзе захапілі Менск, Пінск, Гродна, Коўна і сталіцу Беларусі і Літвы – Вільню.

Горад зведаў жудасныя разбурэнні. Каталіцкія і уніяцкія касцёлы і кляштары былі разрабаваныя, палова насельніцтва пасечана. Горад гарэў 17 дзён. «Пад шаблю», як тады казалі, былі пушчаны амаль усе захопленыя гарады Беларусі. У Маскву вывозілі пазалочаныя купалы з цэркваў, мармуровыя калоны з палацаў, добрую мэблю, абразы, дываны, сярэбраны і залаты посуд. З усіх кузняў вывозілі жалеза і вугаль, нават цвікі. Захопнікі забіралі кароў і коней, палілі вёскі. Баяры і дваране вывелі больш за 300 тысячаў беларусаў для працы ў сваіх гаспадарках і для продажу на рынках нявольнікаў.

## Вызваленне Радзімы

Пасля захопу ўсёй Беларусі і большай часткі Украіны маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч вельмі захацеў, каб яго абралі на трон Рэчы Паспалітай. Але вяртаць хоць якія землі, забраныя падчас вайны ён адмаўляўся. Паслы цара тлумачылі: «Што вялікаму гасудару бог падараваў, таго ён ніколі не саступіць!». Такая трактоўка рабункаў як «божай волі» павялічвала супраціўленне захопнікам. У 1658 годзе быў абвешчаны збор шляхецкага рушання, у войску з'явіліся 20 тысяч наймітаў.

Няўдачы маскоўцаў пачаліся бітвай пад Канатопам, дзе казакі і татары разбілі конніцу князёў Сямёна Пажарскага і Сямёна Львова, у палон трапілі 5 тысяч ратнікаў. У гэты ж час князь Хаванскі, аднак, здолеў захапіць


Від горада Гродна (паводле старадаўняй гравюры)

Брэст, які вынішчыў і зруйнаваў «да найменшага будынка». Ад Брэста маскоўскі князь вырушыў на Наваградак, з якога вывез 15 тысячаў вазоў дабра.

Наступнай ахвярай Хаванскага павінны былі стаць Ляхавічы, але тут маскоўская асада не дала выніку. Пры штурме горада загінула 2 тысячы рускіх ратнікаў. Дывізіі Сапегі і Чарнецкага 28 чэрвеня каля вёскі Палонка паблізу Ляхавічаў разбілі 20-тысячнае войска Хаванскага. Разгром быў такі, што Хаванскі мусіў спешна адступаць да Полацка. У захопленым абозе Хаванскага аказалася сем тысяч кароў, якіх войска вярнула сялянам.

На Украіне пацярпелі паражэнне палкі Васіля Шарамецьева. Ягоны саюзнік гетман Юры Хмяльніцкі адмовіўся ад вернасці


Гетман Павел Сапега

Маскве, прысягнуў на вернасць каралю і пакінуў маскоўскага князя. Шарамецьеў пасля 10 дзён асады здаўся.

У Магілёве ратнікі маскоўскай залогі стаялі па хатах, крыўдзілі людзей. Гараджане дамовіліся аб паўстанні. Дзеля гэтага гаспадары папсавалі маскоўцам крэмені ружжаў. 1 лютага па знаку бургамістра Язэпа Левановіча ў горадзе прагучаў умоўны кліч «Пара! Пара!» За тры гадзіны ўвесь 3-тысячны маскоўскі гарнізон быў вынішчаны. У Маскве патрыярх Нікан пракляў магілёўцаў.


Гарматная батарэя падчас аблогі горада



Войскам цара Аляксея Міхайлавіча давялося пакінуць Менск і Барысаў, увосень 1661 года — Полацк. Здаўся ў палон рускі гарнізон у Гродне. Апошняй бітвай вайны сталася бітва паміж Сапегам і Хаванскім каля вёскі Кушлікавы Горы паблізу Глыбокага, дзе войскі Хаванскага пацярпелі поўны разгром. Былі ўзяты 130 баявых сцягоў, мноства гарматаў, захоплены вялікі палон. Сам Хаванскі ледзь уратаваўся. Хутка пасля гэтага была вызвалена і сталіца Вялікага княства горад Вільня. Царскі камендант Вільні князь Мышэцкі закрыўся ў магутным Ніжнім замку і не хацеў здавацца. Ён патрабаваў 300 вазоў пад сваё нарабаванае дабро і грошы за соль і хлеб, забраныя ад людзей. Князь Мышэцкі быў чалавек надта жорсткі, саджаў людзей на калы, цяжарных жанчын загадваў падвешваць пад рэбры на кручкі. Святара, які раіў яму здацца, заладаваў у гармату і выбухнуў. Ён закаціў у сутарэнні замка 10 бочак пораху і вырашыў узарваць замак, сябе і свой гарнізон. Але самі рускія салдаты звязалі Мышэцкага і адкрылі браму замка. За шматлікія злачынствы супраць насельніцтва Мышэцкаму адсеклі галаву. У якасці ката выступіў яго асабісты кухар.

Жахлівымі вынікамі вайны было абарачэнне багатага, развітага краю ў занядбалую правінцыю. Памяць пра злачынствы захопнікаў узмацніла каталізацыю, абумовіла замену дзяржаўнай беларускай мовы (дакументы пісалі кірыліцай) на польскую мову, непадлічанымі стратамі культуры, заняпадам гаспадаркі, рамёстваў, гарадоў. Краіна ляжала скразным папялішчам.

## Патоп

Вайна скончылася ў 1667 годзе падпісаннем міру. Яна ўвайшла ў гісторыю пад назвай **«патопу»**, бо вынішчыла і людзей, і гарады і гаспадарку падобна біблейскаму патопу.

Найбольш у часы «патопу» пацярпелі людзі. Напрыклад, да вайны ў Брэсце было 1500 двароў, засталося 869, у Кобрыне з 478 ацалела 148, у Полацку мелася 1502, збераглося 102, у Віцебску з 982 захавалася 56, у Тураве было 400, засталося 111, у Пінску з 994 збераглося 299, у Бабруйску з 409 ацалела 170, у Ляхавічах з 215 засталося 17, у Міры з 477 захавалася 295, у Слуцку мелася 1479, засталося 812, у Пружанах з 480 ацалела 92, Магілёў з 2367 двароў страціў 1790.

Тая ж карціна назіралася і на вёсцы. У 1648 годзе Віцебскае ваяводства налічвала 65990 сялянскіх сядзібаў, пасля вайны іх засталося 22920. У Полацкім мелася 19580 гаспадарак, збераглося 5840, у Менскім з 31246 ацалела 12383, у Брэсцкім ваяводстве з 63990 двароў захавалася 32670.

У 1647 годзе на Беларусі і Літве было 4 мільёны 540 тысяч чалавек. У 1667 годзе засталося 2 мільёны 340 тысяч. **Загінуў кожны другі**. Гэта ў сярэднім. А на Віцебшчыне палеглі кожныя 72 з 100, на Мсціслаўшчыне — кожныя 71 з 100, на Полаччыне і Меншчыне — кожныя 63 з 100 жыхароў.





## Геній артылерыі

Галоўнае месца ў войску ў XVII стагоддзі пачынала займаць артылерыя. Намеснікам камандзіра яе ў 1648 годзе прызначаецца наш зямляк **Казімір Семяновіч** з Ашмяншчыны, выдатны інжынер, вядомы ў гісторыі сусветнай навукі як *вынаходнік шматступеньчатай ракеты*. Ён напісаў трактат «Вялікае мастацтва артылерыі», які быў перакладзены на еўрапейскія мовы, і на працягу ста пяцідзесяці гадоў ім карысталіся ўсе стваральнікі агнявой зброі. Гэты твор стаў помнікам ваенна-тэхнічнай літаратуры сусветнага значэння. Семяновіч вырашыў задачу, што да яго здавалася невырашальнай, – вынайшаў спосаб стабілізацыі палёту ракеты, прымацаваўшы да корпуса яе апярэнне; прыкладна такое ж мы бачым і сёння на рэактыўных снарадах. Яму належала ідэя ракетнай батарэі, трохступеньчатай ракеты, якая магла ляцець на вельмі далёкую адлегласць, бо кожная ступень працавала самастойна.



Вынаходніцтва К.Семяновіча –
шматступенчатая ракета і стабілізатары тыпа "дэльта"

Артылерыя на маршы., XVII ст.



## Вальнадумец

**Казімір Лышчынскі** нарадзіўся ў Лышчыцах, за дваццаць вёрст ад Брэста, 4 сакавіка 1634 года. Пасля калегіюма Лышчынскі трапіў у войска — спачатку на «казацкую» вайну, потым змагаўся супраць маскоўцаў. У 26-гадовым узросце вярнуўся да вучобы, потым два гады быў настаўнікам у родным брэсцкім калегіюме езуітаў. Лышчынскі правёў сярод езуітаў восем гадоў. Парваўшы з ордэнам, ён атрымаў пасаду брэсцкага падсудка. Шмат часу Лышчынскі аддаваў працы над трактатам «Аб неіснаванні бога». Ён лічыў, што царква выкарыстоўвае рэлігію для падману і заняволення людзей.

Сябра Лышчынскага, якога звалі Ян Бжоска, неяк пазычыў у яго грошы, а потым, не жадаючы вяртаць пазыку, выкраў трактат і даслаў яго разам з даносам віленскаму біскупу. Казіміра Лышчынскага арыштавалі. Царкоўны суд прыгаварыў атэіста да пакарання смерцю. Аднак Галоўны літоўскі трыбунал вызваліў Лышчынскага на падставе закона, які не дазваляў царкве судзіць шляхту. Потым справа Лышчынскага разглядалася на Гарадзенскім сойме і перайшла на Варшаўскі сойм.

28 лютага 1689 года соймавы суд вынес прыгавор — спаленне на агні.



Брэсцкі езуіцкі калегіюм

Як адбывалася пакаранне, занатаваў біскуп Залускі, галоўны вораг Лышчынскага: «Спачатку наздзекваліся над языком і вуснамі (гэта значыць вырвалі абцугамі), якімі ён абражаў бога, потым спалілі рукі — гэтую найшкаднейшую прыладу, затым блюзнерскія паперы, нарэшце, ён сам, гэты монстр стагоддзя, аказаўся ахоплены ачышчальным полымем». Аднак тут ёсць недакладнасці. Перад тым як пасланы на агонь, Лышчынскаму адсеклі галаву, што было каралеўскай ласкай да яго, якая ўлічвала шляхецкае паходжанне пана Казіміра. Потым цела вывезлі за горад і там спалілі. Попел засыпалі ў пушку і выстралілі.

Пакаранне смерцю мысліцеля Казіміра Лышчынскага

## Паўночная вайна

Пасля смерці караля Яна Сабескага на трон Рэчы Паспалітай быў абраны саксонскі курфюрст Аўгуст. Упершыню польскім каралём і вялікім князем літоўскім стаў немец.



Кароль Рэчы Паспалітай, саксонскі курфюрст Аўгуст



Ордэн Белага арла, устаноўлены ў 1705 годзе




Кароль Аўгуст песціў ідэю дынастычна замацавацца ў Вялікім княстве. Але тут былі мясцовыя прэтэндэнты -- Сапегі, для супрацьдзеяння якім магнаты стварылі канфедэрацыю так званых «рэспубліканцаў».

Заможныя «рэспубліканцы» пайшлі насустрач жаданню Аўгуста і высунулі праект аддзялення Вялікага княства ад Польшчы, каб стварыць тут спадчыннае каралеўства для Аўгуста і ягонага сына. Са згоды магнатаў на Беларусь і Літву ўвайшлі саксонскія войскі. Іх было 15 тысячаў. Саксонцы рабавалі вёскі, гвалцілі, забівалі сялянаў. Яны былі пратэстанты, і з пагардай ставіліся да цэркваў і касцёлаў, напіваліся там, здзекваліся з вернікаў. Аўгуст імкнуўся заваяваць Лівонію, стаў ініцыятарам вайны з шведамі. Войскі Карла XII акупавалі Літву, разрабавалі Гродзеншчыну і пайшлі на Польшчу.



Асада шведамі Ляхавіцкага замка

Канфедэраты-"рэспубліканцы" падпісалі ваенны саюз з Расіяй, Пётр I паабяцаў вайсковую дапамогу. Рускае войска ўвайшло на Беларусь. Гэта былі 60 тысяч салдат, падзеленыя паміж Меншыкавым і Агільві. Апошні заняў Гродна, Меншыкаў стаў пад Менскам.

У студзені 1706 года шведы аблажылі Гродна. Асада цягнулася тры месяцы, але ў сакавіку рускае войска перайшло Нёман і рушыла да Брэста. 40 тысяч шведаў агнём і мечам прайшлі мясцовасці і гарады, якія належалі прыхільнікам Аўгуста.

Карл XII планаваў паход на Маскву і выбраў маршрут праз Магілёў. Тут шведы

затрымаліся, рабуючы горад, цэрквы і касцёлы. З царкоўнага серабра Карл XII біў манету для выплаты задоўжанасці войску. Паражэнне шведаў пры вёсцы Лясной прымусіла Карла XII адмовіцца ад маскоўскага паходу. Шведы павярнулі на Украіну.

## Забойства святароў

Пётр I прыбыў у Полацк 10 ліпеня 1705 года — у дзень сваіх імянін. З гэтае нагоды наладзілі святочны абед на выспе пасярэдзіне Дзвіны. Балявў тут і будучы «рэйхсмаршал» Аляксандр Меншыкаў. А чацвёртай гадзіне Пётр і ягоная світа нечакана накіраваліся ў Сафійскі сабор, якім валодалі вуніяты. Апрача Сафіі ім належалі пры ёй мужчынскі і жаночы манастыры. Нічога добрага для сябе полацкія вуніяцкія святары ад наведання Пятром горада не чакалі. Некалькі раней, даведаўшыся пра маючы быць прыезд рускага цара, вывезлі з Сафійскай царквы ў Жыровічы раку з астанкамі святога Іасафата Кунцэвіча (вуніяцкага біскупа, забітага віцебскімі гараджанамі за жорсткасць). На адным з алтароў стаяў абраз з яго выявай.

Пётр з афіцэрамі ўвайшлі ў сабор падчас імшы. Там былі некалькі святароў і манахаў. Вікары Канстанцін Зайкоўскі па жаданню цара тлумачыў гісторыю царквы св. Сафіі. Каля алтара з абразом Кунцэвіча айцец Канстанцін зрабіў памылку, распачаўшы падрабязны аповед пра жыццё святога, што відавочна прыводзіла цара ў лютасць. Калі ж выпадкам святар прамовіў словы: «Яго забілі схізматыкі» — здарылася нечаканае. Пётр выхапіў шаблю і ўдарыў святара. Паслужлівы Меншыкаў у наступны момант секануў шабляй другога. Астатніх святароў і манахаў забілі афіцэры і пагром перамясціўся ў манастыры, адкуль насельнікі іх ратаваліся, хто як мог. Скарбніца полацкіх вуніятаў была канфіскаваная, а Сафійская царква, разрабаваная і растрыбушаная, ператворана ў вайсковы склад.

1 мая 1710 года, калі рускія пакідалі Полацк, старадаўнюю Сафію ўзарвалі. Трыццаць гадоў яна праляжала ў руінах, у 40-х гадах яе перабудавалі ў стылі барока.



Забойства вуніяцкіх святароў царом Пятром і Меншыкавым у Полацкай Сафійскай царкве

Вонкавы выгляд батлейкі

Лялькі для батлейкі

Анёл

Цар

Мужык з мядзвядзём

Каза

Баба

Ліра

Скрыпка

Басэтля

Дуда

Жаўнер

Дудкі

Вугольнік

Бубен

## Батлейка

Народны лялечны тэатр *батлейка* мае яшчэ іншыя назвы — вяртэп, яселка. Для паказаў батлейкі рабілі скрынку (намерамі 1,5 на 1,5 метра) у выглядзе касцёла ці хаты з гарызантальнымі ярусамі. Лялькі мацаваліся на шпень. Сцэна і лялькі асвятляліся свечкамі. Батлеечнік вадзіў лялькі, вымаўляў за ўсіх персанажаў тэкст, найчасцей быў і аўтарам. Напачатку паказы батлейкі прымяркоўваліся да Калядаў, ды іншых царкоўных святаў, а розныя жартоўныя п'ескі паказвалі на кірмашах. На поўначы Беларусі і на Магілёўшчыне батлейка мела назву *жлоб*. Гэта віцебская назва ясляў для кармлення авечак. Паколькі, паводле легенды, Ісус, калі яму пакланяліся вешчуны, знаходзіўся ў яслях, дык назва жлоб перайшла на лялечны тэатр, які разыгрываў сцэнкі пра Божае нараджэнне.

Часцяком у суполку з батлеечнікам уваходзілі музыкі. Галоўнымі музычнымі інструментамі ў даўнія часы былі дуда, цымбалы, скрыпка, бубен, дудкі. *Дуда*, вельмі падобная на шатландскую валынку, была выціснута на Беларусі з шырокага ўжытку толькі ў мінулым стагоддзі, калі распаўсюдзіўся нямецкі гармонік. З лірай хадзілі старцы.

## Прыватныя тэатры

У XVIII стагоддзі заможныя магнаты пачалі заводзіць пры сваіх дварах тэатральныя трупы, аркестры, капэлы, беручы за ўзор нямецкія і французскія прыдворныя тэатры. Напачатку спектаклі ставіліся ў бальных залах, пастаноўкі былі аматарскімі, а выканаўцамі галоўных роляў часта выступалі гаспадары. З другой паловы стагоддзя ўзводзяцца тэатральныя гмахі, не горшыя за еўрапейскія абразчыкі. Першы такі тэатр быў пабудаваны ў Нясвіжы. Яго партэр і 4-ярусныя ложы змяшчалі да дзвюх тысяч гледачоў.

Слонімскі тэатр Агінскага быў меншы па памерах – ён мог прыняць тысячу гледачоў. Ложы тут былі 2-ярусныя, кожная мела печ. Сцэна дзялілася на дзве часткі: пярэдняя прызначалася для артыстаў, задняя – *для стварэння нечаканых эфектаў*. Тут уздоўж сцэны быў вялізны басейн, да якога праз сістэму труб падавалася вада з сажалак. Калі патрабавала дзеянне, дык на сцэну выплывалі з-за кулісаў сапраўдныя караблі ці, пры неабходнасці каму «ўтапіцца», выканаўца ролі кідаўся ў «мора». Каб паказаць баявыя дзеянні, басейн закладаўся масіўнымі драўлянымі шчытамі, і праз бакавыя вароты на сцэну ўрывалася кавалерыя.

Тэатральныя прылады Слуцкага тэатра Геранімa Радзівіла патрабавалі для перавозкі дзесяць вазоў. Тэатры мелі оперную і балетную трупы, добрыя аркестры. Рэпертуар складаўся з опер і балетаў італьянскіх, нямецкіх і французскіх кампазітараў, ставіліся арыгінальныя і перакладныя драмы. Апроч Нясвіжа, Слуцка і Слоніма, прыватныя тэатры дзейнічалі ў Ружанах, Гародні, Свіслачы, Плешчаніцах, Шклове, Магілёве, Чачэрску.




Дамы рамеснікаў

## Рамёствы

У XVI – XVIII стагоддзях на Беларусі засведчана болей за 200 рамесніцкіх прафесіяў па 50 галінах рамяства. Аб'яднаныя ў сотні, *брацтвы*, а потым на заходнееўрапейскі ўзор у *цэхі* рамеснікі займаліся апрацоўкай металу, дрэва, афарбоўкай скуры і футраў, выраблялі зброю, паперу, транспартныя сродкі, адзенне, суконныя і льняныя тканіны, гліняны і шкляны посуд, абслугоўвалі ваенныя крэпасці, шматлікія рачныя порты. Большая частка рамеснікаў займалася вырабам прадметаў шырокага ўжытку і прыладаў працы. Галоўнымі рамесніцкімі цэнтрамі былі буйныя гарады – Брэст, Менск, Гродна, Быхаў, Віцебск, Орша, Пінск, Магілёў, Слуцк. Шырокую славу здабылі мастацкія рамёствы Беларусі – шкларобства, ткацтва, разьба па дрэву, керамічная вытворчасць.

Беларускія майстры засвоілі і ўдасканалілі тэхналогію вырабу разнастайнай *кафлі для печаў*. У Свержані і Целяханах дзейнічалі *фаянсавыя мануфактуры*, дзе выраблялася садовыя вазы, бюсты, посуд.


Кафля


Аптэкарскі посуд

Беларускія *шкляныя гуты* выпускалі аптэчны посуд, бутэлькі, аконнае шкло, дробныя ўпрыгожанні. Найбольш вядомыя Урэцкая і Налібоцкая гуты, якія працавалі на патрэбы магнацкіх двароў. Тут валодалі таямніцай варкі крышталю і бясколернага шкла, што і сёння застаецца складанай справай.

Шкло урэцкай гуты


Люстра


Штоф


Келіхі

Гутнікі выраблялі кубкі, штофы, жырандолі, люстэркі, шкляныя рамы. Майстэрства тагачасных *гравёраў* назаўжды забяспечыла іхнім творам мастацкую каштоўнасць.

Мастацкім рамяством было і *пісанне абразоў*. Яно сфармавалася як спецыялізаваны занятак у XVI ст. Абразы малявалі на дошках па клеякрэйдавым грунце (левкасу) тэмпернымі і алейнымі фарбамі. Маляванне іконаў на палатне распаўсюдзілася з XVIII ст.

Значнае распаўсюджанне мелі *кушнерства* (апрацоўка аўчыны і шкуркі пушных звяроў) і *гарбарства* (выраб скуры для абутку). Прыкладам, насельніцтва штогод ужывала на кажухі болей за 300 тысячаў аўчын. Футры выраблялiся на вываз у краіны Заходняй Еўропы.

*Вырабам транспартных сродкаў* займаліся стальмахі. Замовы на карэты выконвалі асобныя цэхі, бо гэта была надта складаная вытворчасць. Кузавы рабілі *сталяры*, колы — *стальмахі*, рысоры — *слесары*, акоўку — *кавалі*, абіўку карэт тканінамі — *абіўшчыкі*. Аб'яднанні карэтнікаў праіснавалі да першай чвэрці нашага стагоддзя.


Карэтная майстэрня

З даўніх часоў кожная дзяўчына на Беларусі мелася навучыцца *ткаць на кроснах*. Ейныя густ і здольнасці правяраліся на вяселлі, калі яна адорвала сваякоў мужа ручнікамі, што сама саткала і аздобіла вышыўкай. *Ручніку* надавалася ў народзе сакральнае, святое, значэнне. На ручнік прымалі народжанага, ручнікамі прыбіралі абразы ў хаце і ў цэрквах, прыдарожныя і могілкавыя крыжы, на ручніках падносілі шаноўным гасцям хлеб ды соль. Ткалі ручнікі даўжынёй за 3 метры з рознай пражы, аздаблялі карункамі, махрамі, вышыўкамі чырвонага ці чырвона-чорнага колеру. У кожнай мясцовасці ручнікі мелі свае традыцыйныя адметнасці ў рысунку тканіны, каларыце, арнаменце.

Творамі мастацкага ткацтва былі *посцілкі*. У залежнасці ад прызначэння іх ткалі рознай даўжыні і шырыні. Посцілкамі ўпрыгожвалі сцены ў хаце, засцілалі ложак, выязныя вазкі і сані, на посцілку станавіліся маладыя ў час блаславення. Традыцыйныя колеры посцілак усталяваліся ў тыя часы, калі фарбы рабілі саматужна з кары дрэваў, раслін, з кветак. Найбольш характэрныя для посцілак геаметрычныя формы арнаменту.



Дзяўчына за кроснамі

Узоры ручнікоў


Узоры старажытных беларускіх посцілак

Асаблівай галіной мастацкага ткацтва была вытворчасць *слуцкіх паясоў*. Шляхецкая мода на іх прыйшла з Турцыі і Персіі. Вялікі попыт на «персідскія» паясы падказаў Радзівілам думку стварыць у 1740 годзе ўласную мануфактуру — «персіярню». На звычайных кроснах ткаць такія паясы немагчыма. З Стамбула быў таемна вывезены спецыяльны станок і запрошаны майстры. «Персіярня» дзейнічала на працягу ста гадоў. Ткалі паясы даўжынёй 2—4,5 метра з шаўковых нітак. Паясы былі аднабаковыя, двухбаковыя і нават чатырохбаковыя, што дазваляла гаспадару мяняць колер пояса ў залежнасці ад адзення і абставінаў.

Выраблялі тут і *«літыя» паясы*, гэта значыць паясы, дзе залатая нітка пакрывала шаўковую аснову, а потым расплюшчвалася спецыяльным валікам.


Шляхціц апярэзаны "літым" слуцкім пасам


Слуцкія паясы



Мікалай Радзівіл Сіротка, заснавальнік мальтыйскага камандорства на Беларусі

## Беларускія мальтыйцы

Мы прызвычаіліся думаць, што рыцары-крыжакі былі толькі ў Заходняй Еўропе. Але камандорства ордэна гаспітальераў (інакш ордэна св. Іаана Іерусалімскага, ці ордэна іанітаў) больш за два з паловай стагоддзі існавала на Беларусі. Здарылася гэта наступным чынам. Ордэн, утвораны ў 1048 годзе ў Іерусаліме, на пачатку XVI стагоддзя займеў галоўным асяродкам востраў Мальту (таму гаспітальеры называюцца яшчэ мальтыйскім ордэнам) і адсюль вёў барацьбу супроць турак. Князь Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка, пасля падарожжа ў Італію і з павагі да мальтыйскіх рыцараў, заснаваў у сваім мястэчку Сталовічы над Шчарай камандорства ордэна, зацверджанае вялікім магістрам гаспітальераў. Сіротка ў 1616 годзе запісаў умову, каб у наваствораным камандорстве першынства мелі Радзівілы, потым шляхта беларуска-літоўскіх зямель, а ўжо напаследак — польская шляхта. Першым камандорам Сталовіцкага камандорства мальтыйцаў быў князь Жыгімонт Караль Радзівіл, сын Сіроткі.



Харугва з мальтыйскім крыжам

У 1639 годзе для рыцараў камандорства былі пабудаваны касцёл, а потым кляштар. Дзейнічаў тут шпіталь, бо па статуту гаспітальераў яны павінны аказваць дапамогу хворым і бедным. Сталовіцкія рыцары-мальтыйцы бралі ўдзел у паходах на бітвы з туркамі ды ў іншых шматлікіх войнах. На сваіх апанчах яны мелі ордэнскую адзнаку — белы крыж.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і прылучэнння Беларусі да Расіі сталовіцкае камандорства нейкі час не існавала, але ў 1797 годзе Павал І яго аднавіў. У наступным годзе Напалеон захапіў Мальту, і мальтыйскія рыцары знайшлі прытулак у Расіі. У 1799 годзе Павал быў абраны вялікім магістрам ордэна іанітаў. Ён зацвердзіў ордэн св. Іаана, а на расійскім гербе на грудзях арла з'явіўся мальтыйскі крыж. За 25 гадоў службы ў войску ўзнагароджвалі медным мальтыйскім крыжам. Імператар Павал зрабіў неверагоднае: злучыў праваслаўе з каталіцкім старадаўнім рыцарскім ордэнам. Сталовіцкае камандорства



Сталовіцкі касцёл мальтыйцаў



Ордэн Мальтыйскага крыжа 3-й ступені

праіснавала да 1868 года. Апошнім камандорам быў Людвік Радзівіл. У тым годзе касцёл мальтыйцаў у Сталовічах быў пераўроблены ў царкву, а камандорства было скасаванае.

## Паглынанне імперыяй

У 1764 годзе пры падтрымцы расійскай імператрыцы Кацярыны II каралём быў абраны стольнік літоўскі **Станіслаў Панятоўскі**. У маладыя гады яны былі каханкамі, але потым імператрыца стала злым рокам Панятоўскага. Кацярына здзейсніла тры падзелы Рэчы Паспалітай, пазбавіла Панятоўскага каралеўскай кароны, трымала яго вязнем у Пецярбургу.


Станіслаў Панятоўскі, апошні вялікі князь ВКЛ

**Першы падзел** Расія і Прусія тлумачылі нібыта клопатам пра правы пратэстантаў і праваслаўных у Рэчы Паспалітай. Намаганнямі расійскіх дыпламатаў былі ўтвораныя Слуцкая праваслаўная і Торуньская пратэстацкая канфедэрацыі. Кацярына ўзмацніла канфедэратаў 40-тысячным войскам, якое прымусіла сойм у Варшаве прыняць прыдатныя для Кацярыны II рашэнні. Праз тры месяцы на Падоллі ўзнікла Барская канфедэрацыя за незалежнасць краіны. На Беларусі да Барскай канфедэрацыі далучылася шляхта Брэсцкага, Ваўкавыскага, Ашмянскага, Аршанскага, Мсціслаўскага, Браслаўскага паветаў.

У 1772 годзе ў Пецярбургу была падпісана канвенцыя пра Першы падзел Польшчы і Вялікага княства. Прусія атрымала Памеранію, Аўстрыя – Галіцыю і паўднёвую частку Польшчы, Расія прылучыла да сябе Інфлянцкае ваяводства, Полаччыну, Віцебшчыну, усё Мсціслаўскае і частку Мінскага ваяводстваў.

Праз 20 гадоў адбыўся **Другі падзел**. Прычынай яго стала Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, прынятая 3 мая 1791 года. Новая канстытуцыя абвяшчала спадчыннасць праўлення, знішчала «ліберум вета» і такім чынам дазваляла дзяржаве ўмацавацца. Здрадніцкая групоўка магнатаў утварыла ў мястэчку Таргавіца на Кіеўшчыне ўзброеную канфедэрацыю супроць Канстытуцыі і звярнулася за дапамогай да Кацярыны II. У маі 1794 года рускае войска ў 32 тысячы салдат уступіла на Беларусь.





Ордэн св.Станіслава, устаноўлены ў 1765 годзе



Рускія салдаты ставяць пагранічныя слупы на прылучаных землях

Другая руская армія рухалася з Украіны. Адпор рускім войскам узначалілі кароль і генерал Тадэвуш Касцюшка. Пасля няўдалых бітваў пад Мірам і Брэстам войскі Вялікага княства адступілі за Буг.

Вынікам паражэння стаў другі падзел. Расія далучыла да імперыі Валынь, Падолле і Мінскае ваяводства агульнай плошчай 4550 кв. міляў і з насельніцтвам у тры мільёны чалавек.

## Паўстанне 1794 года

Другі падзел выклікаў паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і Літве. Начальнікам яго стаў **Тадэвуш Касцюшка**. На Літве і Беларусі выступленне ўзначаліў **Якуб Ясінскі**, інжынерны палкоўнік. Апоўначы 22 красавіка 1794 года загучалі касцельныя і царкоўныя званы ў Вільні. Гэта быў сігнал падрыхтаваным аддзелам і насельніцтву: «Да зброі!». А трэцяй гадзіне паўстанцы перамаглі супраціўленне царскага гарнізона. Намеснік, генерал Арсеньеў, быў арыштаваны. Гетмана Шымана Касакоўскага, стаўленіка Кацярыны II, схапілі ў ягоным палацы і па прыгавору рэвалюцыйнага суда адправілі на шыбеніцу.

Якубу Ясінскаму было трыццаць тры гады. Ён узначальваў тайную арганізацыю віленскіх якабінцаў і быў прыхільнікам рашучых рэвалюцыйных дзеянняў, адмены прыгоннага права, звяржэння тыраніі па прыкладу Французскай рэвалюцыі. Добра ведаючы беларускую мову, пісаў вершаваныя пракламацыі для сялянаў па-беларуску. Дзеля кіраўніцтва выступленнем і грамадскім жыццём Ясінскі стварыў Найвышэйшую Літоўскую Раду. 24 красавіка ён падпісаў Акт аб закліку народаў Беларусі і Літвы да паспалітага рушэння. Праз чатыры дні паўстанцы перамаглі ў Гродне, потым — у Брэсце, Слоніме, Ваўкавыску, Пінску, Наваградку, Кобрыне, Ашмянах, Лідзе, Браславе. На прапаганду віленскіх якабінцаў аб скасаванні прыгнёту адгукнулася вёска. Да Ясінскага падчас бою з рускімі войскамі каля Палянаў далучыліся 700 сялян-касінераў. Ясінскі з 4-тысячным атрадам выступіў да Смаргоні насустрач атрадам генерала Зубава і брыгадзіра Бенігсена. Атакай ён выбіў рускі гарнізон з мястэчка Солы.


Тадэвуш Касцюшка

Супраць паўстанцаў Кацярына II паслала вялікія сілы, якімі камандавалі Ферзен і Сувораў. У чэрвені быў разбіты аддзел Міхала Агінскага. У жніўні рускія войскі ўзялі Вільню — трохмесячнае рэспубліканскае праўленне на Беларусі і Літве скончылася.

**Трэці падзел** Польшчы, Беларусі і Літвы адбыўся ў кастрычніку 1795 года. Беларусь была прылучана да Расійскай імперыі на правах правінцыі.

У 1840 годзе цар Мікалай I афіцыйным указам вывеў з ужытку назву Беларусь. Замест яе беларускія землі атрымалі геаграфічную назву *«Паўночна-Заходні край»*, якая праіснавала да 1918 года.


Якуб Ясінскі

## Ачольнік паўстання

Тадэвуш Касцюшка паходзіў з беларускага роду. Яго прапрадзед Фёдар атрымаў Сяхновічы на Брэстчыне, ад князя Казіміра ў 1458 годзе. Сын Фёдара Канстанцін служыў пісарам у княжацкай канцылярыі, яго шанаваў вялікі князь Жыгімонт і пяшчотна называў Кастусь, Касцюша — адгэтуль і прозвішча сям'і. Гербам Касцюшкі мелі «Рох III».

Жонкай Кастуся стала Ганна Гальшанская з княжацкага роду, параднёнага з польскімі каралямі і вялікімі князямі літоўскімі праз шлюб сёстраў Гальшанскіх з Ягайлам і Вітаўтам. Да сярэдзіны XVII стагоддзя Касцюшкі трымаліся праваслаўя, але ў часы «патопу» адышлі ад дзедаўскай веры – адны ў каталіцтва, другія – да вуніятаў. Сяхновіцкія Касцюшкі былі каталікамі.

У 1765 годзе Касцюшка паступіў у кадэцкі корпус. Тут ён атрымаў ад сваіх калегаў мянушку «Швед з-пад Брэста», бо, падобна Карлу XII, падымаўся а чацвёртай гадзіне і, каб прагнаць сон, апускаў ногі ў цабэрак з ледзяной вадой.

У далейшыя гады Касцюшка навучаўся ў Парыжы на ваеннага інжынера, дзевяць гадоў правёў у Амерыцы, дзе змагаўся за незалежнасць Злучаных Штатаў, быў галоўным інжынерам рэспубліканскай арміі. Па вяртанні на радзіму атрымаў патэнт генерал-лейтэнанта. У бітве з маскоўцамі 10 кастрычніка 1794 года быў цяжка паранены, трапіў у палон, стаў вязнем Петрапаўлаўскай цвердзі. Пасля вызвалення жыў у Парыжы, а потым у швейцарскім горадзе Салюр. Перад смерцю напісаў тэстамент, якім вызваляў ад прыгнёту сяхновіцкіх сялянаў. Супрацоўнічаць з Напалеонам Касцюшка адмовіўся, бо лічыў яго душыцелем свабоды.

Форма вайскоўцаў Вялікага княства XVIII стагоддзя:



## Юнак з Завосся

У Калядную ноч 1798 года ў фальварку Завоссе паблізу возера Свіцязь нарадзіўся **Адам Міцкевіч**. Шляхцянка пані Маладзецкая, што прымала роды, верачы ў цудоўнае дзеянне прыкмет, перарэзала пупавіну на кнізе — сілай павер'я гэта абяцала немаўляці вучонасць і вялікі розум. Пажаданне павітухі сталася прароцкім: з чатырох гадоў Адам прызвычаіўся чытаць; ён быў адным з лепшых вучняў Наваградскай гімназіі, сярод самых здольных студэнтаў Віленскага ўніверсітэта, да дваццаціпяцігадовага ўзросту выдаў два зборнікі вершаў, набыў славу вялікага паэта. Са з'яўленнем паэмаў «Дзяды» і «Пан Тадэуш» паэтычны геній Міцкевіча атрымаў еўрапейскае прызнанне.





Сядзіба Завоссе

Свіранак – летняя "рэзідэнцыя" Адама Міцкевіча



Сядзіба Тугановічы

Возера Свіцязь

## Дзяўчына з Тугановічаў

Паблізу возера Свіцязь знаходзяцца Тугановічы, у часы Міцкевіча — радавы маёнтак Верашчакаў. Тут закаханы ў **Марылю Верашчака** паэт часта гасцяваў падчас сваіх летніх вакацыяў. Адвячоркам у сядзібе збіраліся сябры Марылі і Адама, чыталі вершы, спявалі беларускія песні, Марыля іграла на фартэпіяна. Любоў да дзяўчыны натхніла Міцкевіча на вялікі цыкл санетаў і балад. Імя князя Тугая, названага ў баладзе «Свіцязь» валадаром горада, які пайшоў на дно возера, але не скарыўся перад ворагам, утворана паэтам ад назвы маёнтка, дзе жыла каханая. Пайсці замуж за каханага Марылі не дазволіла маці.

## Наезды

Сюжэт эпапеі «Пан Тадэуш» узяты з наваградскага перыяду жыцця паэта. Апошні наезд у Літве — такі падзагаловак мае паэма — разгортваецца ў маёнтку Сапліцы. Рэальныя Сапліцы знаходзіліся недалёка ад фальварка Завоссе, якім у год на-

раджэння Адама Міцкевіча валодаў яго дваюрадны дзед Базыль. Ён і ўладальнік маёнтка — Ян Сапліца — блізка сябравалі і славіліся на ўсю Навагрудчыну як заўзятыя забіякі. З-за чаго пасварыліся прыяцелі — невядома, але ў 1799 годзе Ян так моцна пабіў Базыля, што той праз месяц памёр. Злачынства тое Сапліца ўчыніў разам са сваімі людзьмі; бацька Адама на працягу некалькіх гадоў вёў судовае пераследаванне віноўніка смерці свайго дзядзькі. Такія знявечванні былі зусім не рэдкімі ў шляхецкім асяроддзі. У тым жа 1799 годзе сам Мікалай Міцкевіч, якому надарылася заехаць па службовых справах у маёнтак Базін, ледзь пазбег смерці, збіты Нарбутамі і Рылам. Дарэчы, Завоссе дасталася Міцкевічам пасля саракагадовага суда з Яновічамі. Але выйграўшы справу, Язэп — родны брат Базыля — не мог увайсці ў валадарства фальваркам, бо Яновіч адмаўляўся яго пакінуць. Тады Міцкевічы склікалі сваякоў і прыяцеляў і здабылі Завоссе сілай. Падобны канфлікт звязвае і герояў «Пана Тадэуша».


Міцкевічы адбіваюць Завоссе


Братэрская клятва

## Браты шлюбныя

Сярод беларускай шляхты існаваў добры старадаўні звычай даваць узаемную клятву братэрскай любові і дапамогі да скону. Такую братэрскую клятву давалі не сваякі, а двое сяброў ці прыяцеляў. У касцёле, у капліцы, а ў паходзе ля прыдарожнага крыжа, пры абавязковых сведках, двое шляхцічаў прысягалі перад Богам захоўваць вернасць між сабой да магілы. З гэтага моманту зваліся яны братамі шлюбнымі. Прысяга мела такія ўзнёслыя словы: «А калі б мы абодва толькі адзін грош мелі, тады палова належыць будзе аднаму, а палова — другому. А калі б на нас абодвух толькі адна рука засталася, тады тая рука мае працаваць на хлеб для абодвух. А калі б на абодвух толькі дзве засталіся нагі, тады тыя ногі маюць насіць цэлы абодвух». Падчас шматлікіх войнаў і сутычак шмат бывала скалечаных, і тады той брат шлюбны, што застаўся жывы і здаровы, праз гады клапаціўся пра скалечанага таварыша, трымаючы шлюбную клятву.

## Прысяга на мечы

Існаваў звычай, можна мовіць, супрацьлеглы, калі прысягалі на вечную помсту асабістаму крыўдзіцелю. Давалі такую клятву перад крыжам з распяццем, трымаючы двума рукамі перад сабой меч (шаблю). Пасля гэтага дасылалі ненавіснаму праціўніку ліст з наступнымі словамі: "Ад сёння і на вечны час аб'яўляю цябе смяротным ворагам і буду помсціць табе і ўдзень, і ўначы, і зранку, і ўвечары, і летам, і ўзімку, і ўвосень, і вясной, і ў свята, і на вайне, і на дарозе, і ў полі, і ў лесе, і на лузе, і на двары, і ў карчме, і ў касцёле, і на вадзе, і пад вадой, і на зямлі, і пад зямлёй, і на тым свеце, пакуль не знішчу".

З такой пагрозы вынікала бойка на шаблях ці дуэль на пісталях, калі страляліся праз скуру, гледзячы адзін аднаму ў вочы.


Смяротная дуэль

Напрыканцы XVIII стагоддзя ў архітэктуры Беларусі замацаваўся новы еўрапейскі стыль — **класіцызм**. Для яго характэрныя арыентацыя на антычныя архітэктурныя формы, спалучэнне традыцыяў Рэнесансу і Барока. У нас захавалася шмат помнікаў класіцызму: Гомельскі, Сноўскі, Ружанскі, Жыліцкі палацы, Грудзінаўская і Закозельская сядзібы, Мамайскі і Лідскі касцёлы, Дубайская царква Раства Багародзіцы, палац у Радзівіламонтах.



Скокаўскі палац Нямцэвічаў, ранні класіцызм



Жыліцкі палац. 1830 год



Валожынскі палац Тышкевічаў, 1806 год

Гомельскі палац Румянцавых-Паскевічаў, пабудаваны на месцы старадаўняга Гомельскага замка

У XIX стагоддзі пачынае дамінаваць архітэктурны стыль **ампір** (ад французскага empire – імперыя). Ампір зарадзіўся ў Францыі ў часы Напалеона. Яму ўласцівыя масіўныя аб'ёмы, манументальнасць, барэльефы з ваеннай ці геранчнай эмблематыкай. На Беларусі ў стылі ампір пабудаваны Сноўскі і Жамыслаўскі палацы, касцёл у вёсцы Вішнева, Гомельскі Петрапаўлаўскі сабор ды іншыя.

Удзелаўскі кляштар францысканаў, (Глыбоцкі раён)

Жамыслаўскі палац. Помнік стылю ампір. Пабудаваны на беразе ракі Гаўя. (Іўеўскі раён)

Шэметаўскі касцёл. (Мядзельскі раён)

Свіслацкая гімназія. Пабудавана ў 1820 гадах. Тут вучыўся Кастусь Каліноўскі.

## Напалеонаўскае нашэсце

На пачатку 1812 года Расія трымала пад ружжом 900 тысяч салдат. 200 тысяч з іх складалі беларускія рэкруты, якімі камплектаваліся пяхотныя дывізіі — 3, 4, 5, 6, 7, 11, 12, 14, 15, 16, 17, 18, 21, 23, 27-я.

Усе яны ўваходзілі ў склад армій Барклая дэ Толі і Баграціёна, якія былі размешчаны на Беларусі. Апроч таго беларусамі камплектаваліся Беларускі гусарскі полк, Гродзенскі гусарскі полк, лейб-гвардыі Літоўскі полк, 14-ты драгунскі полк, некаторыя пяхотныя палкі гвардыі.

Сабраўшы на заходніх межах Расійскай імперыі 600-тысячнае войска Напалеон 24 чэрвеня перайшоў Нёман і распачаў вайну.

Хутка ён наблізіўся да Віцебска, дзе меркаваў уцягнуць армію Барклая дэ Толі ў вялікую бітву. Але той сіламі 11-й, 23-й і 3-й дывізій спыніў 25-тысячны французскі авангард каля вёсак Астроўна і Камары. Тут адбыліся трохдзённыя знішчальныя баі. У памянёных дывізіях служылі ў асноўным палачане, віцебцы, віленчукі. Ад Астроўна да ракі Лучосы, што ўпадае ў Дзвіну каля прадмесцяў горада, на дзесяці вёрстах 3-я, 11-я і 23-я дывізіі страцілі 3764 чалавекі — па 376 салдат на вярсту; французаў загінула па 370. Тут на кожным метры дарогі ляжаў забіты ці паранены жаўнер.

Бітвы з французскімі захопнікамі адбыліся і каля шмат якіх іншых беларускіх гарадоў і мястэчак — Вішняве, Валожыне, Іванцы, Бакштах, Ваўкавыску, Карэлічах, Ракаве, Бабруйску, Нясвіжы, Міры, Барысаве, Кобрыне, Свіслачы, Ігумене, Раманаве, Бешанковічах, Рудні, Парэччы, Старым Быхаве.

Ар'ергардныя баі пад Смаленскам вяла ўкамплектаваная рэкрутамі з Віцебшчыны 27-я дывізія, яна страціла пяць



Эскадронны сцяг Беларускага палка

Шэраговы 14-га драгунскага палка

Форма лейб-гвардыі Літоўскага палка

Форма Беларускага гусарскага палка

Форма Гродзенскага гусарскага палка

шостых асабовага складу. Смаленск абаранялі 12-я і 26-я дывізіі, потым іх змянілі 7-я і 24-я, у якіх мелася шмат ураджэнцаў Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай губерняў.

## На баку Напалеона

У Вільні на трэці дзень пасля прыходу ў горад французаў утварылася Камісія часовага ўрада Вялікага княства Літоўскага, якая прысягнула на вернасць Напалеону. За абяцанне імператара адрадзіць Вялікае княства Беларусь і Літва мусілі забяспечыць вялізныя пастаўкі харчавання і даць дзеючай арміі 5 палкоў пяхоты і 4 уланскія. Для пяхоты ўзялі 10 тысяч рэкрутаў: з Мінскай і Віленскай губерняў — па 3 тысячы, з Гродзенскай — 2,5 з Беластоцкай — 1,5 тысячы. У кавалерыю бралі аднаго вершніка з кожных 75 двароў. Тэрмін службы акрэсліваўся ў шэсць гадоў. Пяхотныя палкі атрымалі нумарацыю з 18-га па 22-гі, уланскія — 17-га па 20-ы. З шляхецкай моладзі сфарміраваўся лёгкаконны полк пад камандаваннем ураджэнца Слоніма генерала Канопкі; полк той Напалеон прылічыў да імператарскай гвардыі. Апроч таго быў створаны конна-егерскі полк Ігната Манюшкі (ураджэнец Міншчыны) і артылерыйская батарэя. Да палка Канопкі далучыўся эскадрон беларускіх татараў на чале з Ахматовічам.

Лёс гэтых людзей склаўся наступным чынам. Полк Канопкі ў баі пад Слонімам страціў забітымі 230 чалавек, астатнія пакінулі радзіму разам з французамі. 22-і пяхотны і 18-ы ўланскі палкі былі разбіты пад Мінскам войскамі Тормасава, іншыя адступілі ў Польшчу; 17-ы полк у бітве пад Кракавам перастаў існаваць; 18, 20, 21-ы апынуліся ў крэпасці Модлін і тут вытрымалі асаду расійскіх дывізіяў.



Сцяг 19-га ўланскага палка

Афіцэр егерскага палка Манюшкі

Шэраговы 19-га ўланскага палка

Французскі тамбурмажор

Французскі драгун

## Клясціцы, Барадзіно, Барысаў

У бітве каля вёсак Клясціцы і Якубава (Полаччына), якая адбывалася 30 ліпеня — 1 жніўня, з абодвух бакоў супрацьстаялі 60 тысяч салдат. Французы пацярпелі паражэнне — 10 тысяч забітымі, 3 тысячі трапілі ў палон. Асабліва вызначыліся ў баях пад Клясціцамі гусары Гродзенскага палка. Клясціцкая перамога абараніла ад французскага ўварвання Пскоўшчыну.

Барадзінская бітва — адна з самых буйных ў XIX стагоддзі. На полі бою, якое мела 8 кіламетраў на фронту і 7 углыб, сышліся з абодвух бакоў 255 тысяч чалавек, грукаталі 1200 пушак, што толькі за 12 гадзін баявых дзеянняў 7 верасня выпусцілі 140 тысяч снарадаў, ці па адпаму на кожных двух удзельнікаў бітвы. Было выдаткавана 10 мільёнаў куль (2000 тон свінцу). Гэтая свінцовая хмара звяла на той свет ці адправіла ў лазарэты 100 тысяч жаўнераў. Шчыльнасць агню на Сямёнаўскіх флешах была такая, што французы хадзілі ў атакі калонамі па 50 - 60 чалавек углыбіню на кожны пагонны метр фронту.

Напалеон страціў у бітве 58600 чалавек забітымі і параненымі, з іх пяхоты — 42 тысячы, кавалерыі — 16 тысяч. Тры чвэрці палеглай арміі Банапарта — 44 тысячы чалавек — прыйшліся на баі за батарэю Раеўскага і Сямёнаўскія флешы, якія абаранялі ўкамплектаваныя беларускімі рэкрутамі 3, 4, 11, 12, 17, 23, 27-я дывізіі, а таксама лейб-гвардыі Літоўскі полк. За гераізм полк атрымаў георгіеўскі сцяг.

У Бярэзінскай аперацыі пад Барысавам выдатна паказаў сябе Беларускі гусарскі полк, узнагароджаны пасля вайны 22-мя срэбранымі трубамі.





## Страты Беларусі

Вайна з Напалеонам цягнулася ўсяго 6 месяцаў. Але за паўгады нашэсця Беларусь страціла мільён жыццяў. Былі разбураны і спалены шмат гарадоў і вёсак. Рабункі і рэквізыцыі зруйнавалі гаспадарку. Незлічонымі былі культурныя страты. Напрыклад, бібліятэчныя і архіўныя зборы французы выкарыстоўвалі замест дроў, каб сагрэцца.

## Паўстанне

19 лютага 1861 года цар Аляксандр II выдаў «Палажэнні» пра адмену прыгоннага права. Яны абяцалі сялянам волю і зямлю за выкуп, прычым праз дзесяцігоддзі. Царква заклікала маліцца за цара-«вызваліцеля», але падманутае сялянства адказала хваляваннямі. На Беларусі ў сакавіку-чэрвені засведчаны 373 сялянскія бунты, якія ахапілі звыш 300 тысяч вясковага насельніцтва, дзве з паловай тысячы чалавек пакаралі розгамі, у гарадах, мястэчках, маёнтках расквартаравалі салдат. У сакавіку 1863 года на Беларусі і Літве пачалося ўзброеннае паўстанне супраць царызму. Ачольвалі паўстанне Кастусь Каліноўскі, Зыгмунт Серакоўскі, Валеры Урублеўскі, Рамуальд Траўгут.

Эмблема паўстанцаў 1863 года

Кастусь Каліноўскі

Рамуальд Траўгут

Валеры Урублеўскі

Зыгмунт Серакоўскі

Супрацьстаяць экспедыцыйнаму карнаму корпусу пад 140 тысяч салдат магла толькі народная армія. Але ўсенародным паўстанне не стала. Тым не менш паўстанцкія атрады здолелі правесці на Беларусі і Літве 237 баёў з царскімі карнікамі.



Паўстанцкі лагер у пушчы

11 красавіка каля вёскі Новы Двор Шчучынскага павета атрад **Людвіка Нарбута** вытрымаў бітву з салдатамі палкоўніка Цімафеева.

24 красавіка атрады «Тапара» **(Людвіка Звяждоўскага)** напалі на Горкі. Пры падтрымцы студэнтаў земляробчага інстытута яны выбілі з Горак гарнізон, здабылі зброю і рушылі далей па Магілёўшчыне. Аднак сяляне не прыйшлі на дапамогу, і ў майскіх сутычках з карнікамі атрад быў рассеяны.

3 чэрвеня каля мястэчка Мілавіды Слонімскага павета аддзел паўстанцаў Гродзеншчыны на чале з **А. Лянкевічам**, пружанскі атрад **Ф. Уладака**, наваградскі **В. Мілаўдоўскага**, ваўкавыскі **Г. Стравінскага**, слонімскі **Ф. Юндзіла** выйгралі бой з пяццю ротамі салдат. Карнікі страцілі 240 чалавек.

Сцяг паўстанцаў на Беларусі

13 чэрвеня паўстанцы Ф. Уладака і **Я. Ваньковіча** сышліся ў бітве з салдатамі і казакамі каля вёскі Новыя Пяскі Бярозаўскага павета. Праз два дні атрады **Валеры Урублеўскага** перамаглі падраздзяленні карнікаў на Пружаншчыне.

1 верасня 1863 года каля вёскі Баруны Ашмянскага павета аддзел Мінейкі вёў працяглы бой з царскімі войскамі.

## Задушэнне паўстання

Колькасная перавага давала верх душыцелям паўстання, якімі кіраваў віленскі генерал-губернатар Мураўёў-Вешальнік. 21 красавіка каля вёскі Азярцы на Случчыне быў разбіты атрад паўстанцаў Уладзіміра Машэўскага. 28 красавіка ў баі каля вёскі Пятровічы пацярпелі паражэнне інсургенты Антона Трусава. Некалькі баёў выйграў кобрынскі атрад на чале з **Рамуальдам Траўгутам**. У ліпені ён разам з брэсцкімі паўстанцамі Яна Ваньковіча зрабіў рэйд на Піншчыну, але поспехаў гэтая выправа не дала. 28 мая аддзел **Вінцэнта Козела** быў пераможаны каля вёскі Уладыкі на Вілейшчыне. Тут загінула 100 паўстанцаў.

22 сакавіка 1864 года на Лукішскай плошчы ў Вільні быў выкананы смяротны прысуд Кастусю Каліноўскаму. На гэтай жа плошчы некалькімі месяцамі раней царскія каты надзелі пятлю на Зыгмунта Серакоўскага, блізкага сябра Каліноўскага, выдатнага рэвалюцыянера, ваеннага начальніка на Літве. (Зараз тут знаходзіцца памятная пліта, на якой увекавечаны імёны правадыроў паўстання 1863 года.) Пахавалі Каліноўскага тайна ўначы на Замкавай гары, там, дзе ўзносіцца старадаўняя вежа Гедыміна. Дакладнае месца апошняга прытулку гэтага бездакорнага сына Беларусі застаецца невядомым, бо паліцыя магілы паўстанцаў зроўнівала з зямлёй.



Бітва каля мястэчка Мілавіды

Усяго ў баях загінула 6 тысяч паўстанцаў, на катаргу было саслана амаль тысяча ўдзельнікаў баёў, выслалі ў Сібір і аддаленыя губерні імперыі каля 13 тысяч чалавек. Шмат людзей эмігравала.



Мінскі турэмны замак: тут трымалі паўстанцаў



Капліца ў памяць палеглых паўстанцаў



Замкавая гара ў Вільні – апошні прытулак Каліноўскага



Цягнік выпуску 1869 года



Мінская конка



Мінск. Ракаўскі тракт



Фантан у мінскім гарадскім скверы

## Пачатак тэхнізацыі

Некалькі тысячагоддзяў чын жыцця на вёсцы і ў горадзе амаль не змяняўся. Летам ездзілі на колах, зімой — на вазках, па рэках хадзілі на вёслах, пакоі асвятлялі лучынай ці свечкамі, ваду бралі са студні, для перавозкі цяжкіх грузаў заводзілі дужых коней, грамадскага транспарту не было. І гэтак далей.

У другой палове XIX стагоддзя Беларусь услед за еўрапейскімі краінамі ступіла ў тэхнічную эру. Па Нёмане, Дзвіне, Прыпяці сілавы рухавік павёў параходы. У 1900 годзе іх было 200. Чыгунка, апроч перавозкі грузаў, дазволіла падарожнічаць. Першыя 50 кіламетраў каляі пралеглі цераз Гродзеншчыну ў 1862 годзе. А ў 1871 годзе Беларусь перасякла каляя Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. Напрыканцы века агульная працягласць беларускай чугункі складала 2800 кіламетраў.

Рост гарадскога насельніцтва, жаданне заможных людзей займець выгоды выклікалі будаўніцтва электрастанцый і пракладку водаправодаў. Мінскі водаправод пачаў дзейнічаць у 1873 годзе. На памяць пра гэтую знамянальную падзею ў гарадскім скверы быў пабудаваны фантан у выглядзе хлапчука з лебедзем. На пачатку стагоддзя ў Мінску жыло 90 тысяч чалавек. На іх прыходзілася 1100 электралямпачак: 240 асвятлялі вуліцы, 420 — пакоі, астатнія — зімовы і летні тэатры.

Па прыкладу Пецярбурга ў буйных гарадах Беларусі пачынаецца рух грамадскага транспарту. Летам 1892 года ў Мінску ўрачыста адкрылі конку (даўжыня каляі — 7 кіламетраў). Праз чатыры гады віцебцы дзівіліся на электрычны трамвай, даўжыня маршруту складала 5 кіламетраў.

Аўтамабіляў яшчэ не было, але прышчапілася мода на веласіпеды. Моладзь каталася па вуліцах, выклікаючы злосць у вазакоў, бо веласіпедыстаў пужаліся коні.



Віцебскі трамвай, 1896 год


Тэадор Нарбут


Ян Баршчэўскі


Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч


Яўстафі Тышкевіч


Уладзіслаў Сыракомля


Францішак Багушэвіч


Яўхім Карскі


Іван Луцкевіч


Янка Купала


Якуб Колас


Вацлаў Ластоўскі


Максім Багдановіч

## Руплiўцы духу

Шмат адораных людзей спрыялі захаванню гістарычнай памяці народа, адраджэнню беларускай культуры, мовы, літаратуры. На пачатку XIX стагоддзя Міхал Баброўскі даследаваў кнігадрукаванне, адкрыў наноў для еўрапейскай і беларускай навукі імя Францішка Скарыны, выпрацоўваў беларускую нацыянальную ідэю. Археалагічныя раскопкі на Беларусі пачынае гісторык, выдавец «Хронікі Быхаўца» Тэадор Нарбут. Беларускі фальклор выкарыстоўвае пісьменнік Ян Баршчэўскі. Гісторык Яўстафі Тышкевіч стварае першы музей старажытнасцяў, ахвяруе яму сваю бібліятэку ў 10 тысяч тамоў. Краязнаўчыя нарысы пра Беларусь піша слынны паэт Уладзіслаў Сыракомля. Вершы і драмы ў беларускай мове стварае Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, перакладае на родную мову творы Гётэ, Шылера, Гюго пісьменнік Альгерд Абуховіч. Пачатак сучаснай беларускай паэзіі закладае Францішак Багушэвіч. Працы па этнаграфіі беларусаў друкуюць Павал Шэйн, Яўхім Карскі.

Вялікую ролю ў духоўным абуджэнні грамадства адыграла газета «Наша ніва», заснаваная Іванам Луцкевічам і Аляксандрам Уласавым. Вакол рэдакцыі згрупаваліся найлепшыя тагачасныя беларускія пісьменнікі, публіцысты, палітычныя дзеячы. Яны сумеснымі намаганнямі стварылі праграму будаўніцтва самастойнай вольнай Беларусі. Сярод яскравых асобаў нашаніўскай суполкі былі Якуб Колас, Цётка, Максім Багдановіч, Сяргей Палуян, Цішка Гартны, Алесь Гарун, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйло, Ядвігін Ш., Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі. Газета друкавала матэрыялы пра народнае жыццё, вершы, апавяданні, крытыку, гістарычныя артыкулы, выхоўвала ў сваіх чытачоў павагу да роднай культуры і мовы. «Наша ніва» падрыхтавала тое кола грамадскіх дзеячоў, якія ў 1918—19 гадах дамагліся аднаўлення дзяржаўнасці Беларусі, з'яўлення нашай рэспублікі на палітычнай карце свету.

## Першая сусветная вайна

1 жніўня 1914 года кайзераўская Германія аб'явіла вайну Расійскай імперыі, 3 жніўня – Францыі, 4 жніўня Англія аб'явіла вайну Германіі. Хутка вайсковыя дзеянні ахапілі ўсю Еўропу. Напачатку ўдача спрыяла Расіі, але ў ліпені 1915 года немцы нанеслі моцнае паражэнне расійскім арміям, у выніку чаго Беларусь была падзеленая на дзве часткі лініяй акопаў. Нямецкія войскі акупавалі чвэрць тэрыторыі Беларусі з насельніцтвам больш за 2 мільёны жыхароў яшчэ ў 1915 годзе. Наступленне германцаў выклікала велізарны паток бежанцаў. З заходніх раёнаў Беларусі, а таксама з Польшчы і Літвы на ўсход рушыла каля 1500 тысяч чалавек. На захопленай немцамі беларускай зямлі быў устаноўлены жорсткі ваенны рэжым.

Астатняя частка Беларусі ўяўляла сабой прыфрантавую паласу. Тут знаходзілася каля 2 мільёнаў салдат рускай арміі. Многія прадпрыемствы былі разбураны. У глыб Расіі была вывезена траціна заводаў і фабрык, што дзейнічалі на Беларусі ў 1913 годзе. Больш за палову працаздольных мужчын былі мабілізаваныя на фронт. У выніку шмат сялянскіх гаспадарак засталося без работнікаў. Да капання акопаў, будаўніцтва мастоў, рамонту дарог прыцягвалася ўсё насельніцтва прыфрантавой паласы. Беларусь напрыканцы вайны была ў стане поўнага гаспадарчага разбурэння, голаду і галечы. Страты насельніцтва – 1,3 мільёна чалавек.

Нямецкі баявы самалёт мадэлі 1916 года

Станкавыя кулямёты сістэмы "Максім"

Ордэн св.Георгія 1-й ступені

Бронецягнік

## Беларуская Марсельеза

Ад веку мы спалі і нас разбудзілі,
Мы зналі, што трэба рабіць:
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў пабіць.

Што гэта за марная доля няшчасная,
Бяз хлеба, бяз грошай працуй.
Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца,
Ну проста хоць крыкні: «ратуй»!

Сьмяюцца над намі багатыя людзі,
Здаецца, панамі іх зваць,
Мы доўга цярпелі, цярпець больш не можам,
Пойдзем мы долі шукаць.

Мы дружна устанем з касамі, з сярпамі,
Прагонім зямлі палачоў,
Няхай нас сустрэнуць палямі, лясамі
Грамады працоўных людзёў.

Мінскі гарадскі тэатр



## Усебеларускі з'езд

27 лютага 1917 года ў Расіі перамагла буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, самаўладдзе было звержана. Прыгнечаныя імперыяй народы пачалі дзейнасць па ўтварэнні нацыянальных органаў улады. На Беларусі такая дзейнасць запавольвалася з-за ваеннай сітуацыі.

Тым не менш былі наладжаны выбары, абраны дэлегаты, і 20 снежня 1917 года ў Мінску сабраўся Першы Усебеларускі з'езд. На ім прысутнічала амаль 2000 дэлегатаў, галоўным чынам з вёсак і вайсковых беларускіх арганізацыяў. Сваё першае паседжанне з'езд правёў у гарадскім тэатры (цяпер – тэатр імя Я. Купалы). Пасля спрэчак і дыскусіяў дэлегаты абвясцілі рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускай зямлі ды ў форме Усебеларускай Рады сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. З'езд паспеў абраць Раду ў складзе 43 чалавек, на якую ўсклаў абавязкі праводзіць у жыццё пастановы з'езда. Аднак у ноч на 31 снежня з'езд быў разагнаны ўзброенай сілай па рашэнню бальшавіцкага Савета Народных камісараў Заходняй вобласці і фронту. Прэзідыум з'езда быў арыштаваны. Назаўтра Рада з'езда і Выканаўчы камітэт сабраліся ў дэпо і абвясцілі сябе носьбітамі суверэннай улады беларускага народа.

## Брэсцкі мір

У тыя самыя дні, калі бальшавікі забаранялі Першы Усебеларускі з'езд, у Брэсцкай крэпасці пачаліся перамовы паміж германскім бокам і бальшавіцкай Расіяй аб сепаратным міры. У студзені – лютым савецкую дэлегацыю ўзначальваў народны камісар замежных справаў Леў Троцкі. Ён, выконваючы волю ЦК РКП, наўмысна не падпісваў мір – як потым тлумачыў, "каб рабочыя ўсяго свету ўбачылі, што Расія прымушана да замірэння сілай". Троцкі паехаў з Брэста 10 лютага, а праз тыдзень немцы аднавілі ваенныя дзеянні і за некалькі дзён захапілі 1 мільён квадратных кіламетраў. Пад



Будынак афіцэрскага сходу ў Брэсцкай крэпасці, дзе быў падпісаны Брэсцкі мір

пагрозай апынулася існаванне самой савецкай Расіі. Каб спыніць германскі націск, ленінскі ўрад пагадзіўся на працягу трох дзён падпісаць Брэсцкі мір на ўмовах Германіі. Паводле падпісанага дакумента савецкая Расія выходзіла з сусветнай вайны, аддаючы немцам, апроч кантрыбуцыі, беларускія тэрыторыі. Неакупаванымі засталіся толькі 6 паветаў.



## Пагоня

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах –
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі – гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі ўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх – бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не ўсцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

*Максім Багдановіч*


Мінск, пляц Волі, 1918 год

## Абвяшчэнне БНР

Перад пагрозай нямецкага наступлення бальшавіцкі Савет камісараў Заходняй вобласці ноччу 19 лютага пакінуў Мінск. Рэагуючы на безуладдзе, Рада Усебеларускага з'езда 21 лютага звярнулася да народа Беларусі з 1-й Устаўной граматай, у якой абвясціла сябе ўладай на Беларускіх землях. Выканаўчым органам стаў Народны Сакратарыят на чале з Я. Варонкам (першы ўрад Беларусі).

Немцы, заняўшы Мінск 24 лютага, не прынялі беларускае нацыянальнае ўтварэнне. 9 сакавіка Выканкам Усебеларускага з'езда і Народны Сакратарыят выдалі 2-ю Устаўную грамату, якая абвяшчала **Беларускую Народную Рэспубліку**. Дэкларавaліся вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, роўныя правы ўсіх моваў, скасоўвалася права прыватнай уласнасці на зямлю.

Паколькі беларускія інтарэсы ў Брэсце былі праігнараваныя і Савецкая Расія распарадзілася лёсам Беларусі як сваёй уласнасцю, дык з гэтае прычыны Рада БНР схілілася аб'явіць самастойнасць Беларусі. У ноч на **25 сакавіка** пасля дзесяцігадзінных спрэчак Рада прыняла пастанову аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, што стала зместам 3-й Устаўной Граматы. Грамата дэкляравала аддзяленне ад Савецкай Расіі і з'яўленне на палітычнай карце свету Беларускай дзяржавы. Аднак распачаць дзяржаўнае будаўніцтва ўрад БНР не меў магчымасцяў. У краіне гаспадарылі германскія акупанты, якія разглядалі Беларусь як расійскі заклад землямі пад кантрыбуцыю, што РСФСР абавязвалася выплаціць Германіі.

Пад нагляд Народнага Сакратарыята БНР былі аддадзены прамысловасць, гандаль, асвета і культура. За кароткі час Народны Сакратарыят здолеў арганізаваць школьную справу, працу выдавецтваў, выпуск газет і часопісаў. Летам 1918 года адкрыліся консульствы БНР на Украіне і ў Літве. Адначасна ў Латвію, Эстонію, Чэхаславакію, Балгарыю, Фінляндыю, Турцыю былі накіраваны дыпламатычныя ці ваенна-дыпламатычныя місіі. Быў распрацаваны пашпарт БНР, зацверджаны бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». Рада прыняла часовую Канстытуцыю краіны. Калі ў снежні 1918 года Чырвоная Армія заняла Мінск, урад БНР выехаў у эміграцыю.

Дзевяцімесячнае існаванне БНР, стварэнне нацыянальных інстытутаў паўплывалі на змены ў адносінах ленінскага ўрада да Беларусі: замест адмаўлення беларусаў як самастойнага народа было вырашана ўтварыць буферную марыянеткавую рэспубліку. Што і адбылося 1 студзеня 1919 года.

Пры ўсіх хібах палітыкі ўрада БНР застаецца гістарычна важкай і неаспрэчнай ягоная заслуга ў абвяшчэнні дзяржаўнасці Беларусі. Не было б БНР — не было б ні бальшавіцкай БССР, ні дэмакратычнай Рэспублікі Беларусь. А зрабіліся б мы гістарычным пылам.



Форма Чырвонай Арміі:
пехацінцы кавалерысты артылерысты

### Абвяшчэнне БССР

Утварэнне БНР было актам больш сімвалічным, чым рэальным, аднак для палітычнай ліквідацыі непажаданага для бальшавікоў суб'екта дзяржаўнасці патрабавалася роўнаважкае бальшавіцкае ўтварэнне.

Пасля рэвалюцыі ў Германіі і адыходу нямецкіх войск з Беларусі ў Смаленску сабралася IV Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), якая ў адпаведнасці з выпрацаваным у Маскве планам 31 снежня 1918 года перайменавала абласную арганізацыю ў Камуністычную партыю (бальшавікоў) Беларусі, а сябе аб'явіла першым з'ездам.

1 студзеня 1919 года з'езд прыняў рашэнне стварыць Сацыялістычную Савецкую Беларускую Рэспубліку. Старшынёй часовага рэвалюцыйнага ўрада быў зацверджаны *Зміцер Жылуновіч* (Цішка Гартны).

### Стварэнне Літоўска-Беларускай ССР

Праз два тыдні адроджаныя з дапамогай чырвонаармейцаў Саветы абралі 230 дэпутатаў на Усебеларускі з'езд (213 — члены бальшавіцкай партыі, 17 — спачуваючыя). 1 лютага ў Мінску з'езд зацвердзіў Канстытуцыю ССБР, герб, сцяг, урад. Рэжысёрам работы з'езда выступаў Якаў Свярдлоў. Ён прапанаваў ухваліць аб'яднанне Беларусі і Літвы ў адзіную Літоўска-Беларускую ССР. Без дыскусій з'езд прапанову прыняў, і ўжо 27 лютага Літбел з'явіўся на белы свет. Такім чынам першая БССР праіснавала менш за месяц. У агульнае войска для аховы новага ладу на сумеснай тэрыторыі літоўскі бок вылучыў 5 тысяч салдат, беларускі — 95 тысяч. Літоўска-Беларуская ССР праіснавала да жніўня 1919 года, калі распачалася вайна з Польшчай.

### Аднаўленне БССР

Пасля разгрому савецкіх войскаў пад Варшавай у жніўні 1920 года Чырвоная армія пачала адступаць, аддаючы польскім легіёнам Заходнюю Беларусь. У кастрычніку палякі набліжаліся да Полацка, Мінска, Слуцка. У гэты ж час у Рызе ішлі перамовы паміж дэлегацыямі Савецкай Расіі і Польшчы. Прадстаўніка БССР на перамовы не дапусцілі. Кіраўнік савецкай дэлегацыі А. Іофэ заявіў, што савецкі бок можа перадаць Польшчы ўсю тэрыторыю Беларусі. Палякі адмовіліся, каб не стварыць сабе «беларускую праблему». Таму Польшча ўзяла ўсяго 112 тысяч кв. км беларускіх зямель з насельніцтвам 4,6 мільёна чалавек. Значная частка Усходняй Беларусі была далучана да Расіі, а БССР засталася прастора з шасці паветаў Мінскай губерні. Гэтая мініяцюрная БССР мусіла ў 1922 годзе падпісаць Дагавор аб стварэнні Савецкага Саюза. Віцебская і Гомельская вобласці былі вернутыя Беларусі ў 1924 і 1926 гадах. Заходняя Беларусь уз'ядналася с Усходняй у верасні 1939 года.

Першы беларускі ордэн



Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР, устаноўлены ў 1924 годзе, адменены ў 1938 годзе.



Смутак Беларусі. 1944 год

## «Вогненныя вёскі»

На акупіраваных беларускіх землях нямецкія захопнікі здзейснялі масавы генацыд. У 1942 – 1943 гадах акупанты правялі на Беларусі карныя аперацыі «Хрушч», «Балотная ліхаманка», «Трохкутнік», «Гамбург», «Заяц-бяляк», «Фрыц», «Барбара», «Баклан», «Вяснавое свята» ды іншыя. Вынікам гэтых аперацыяў было разбурэнне і спаленне 9200 беларускіх вёсак, ці 421 тысячы сялянскіх хат. Сімвалам фашысцкага генацыду стала Хатынь.

| Назва вёскі | Колькасць напярэдадні вайны | | Колькасць знішчаных | |
|---|---|---|---|---|
| | Двары | Людзі | Двары | Людзі |
| **Хатынь** (Лагойскі раён) | 26 | 156 | 26 | 149 |
| **Байкі** (Пружанскі раён) | 120 | 1011 | 120 | 987 |
| **Вельле** (Расонскі раён) | 20 | 71 | 20 | 71 |
| **Вядо** (Івацэвічскі раён) | 87 | 217 | 87 | 217 |
| **Дрэмлева** (Жабінскі раён) | 43 | 290 | 43 | 286 |
| **Дубаўручча** (Чэрвеньскі раён) | 80 | 275 | 78 | 240 |
| **Забалочы** (Ельскі раён) | 76 | 289 | 76 | 167 |
| **Зялёны Гай** (Хойніцкі раён) | 25 | 121 | 25 | 102 |
| **Калоніцы** (Мінскі раён) | 47 | 200 | 47 | 181 |
| **Княжаводцы** (Мастоўскі раён) | 260 | 1020 | 260 | 900 |
| **Літавец** (Дзяржынскі раён) | 42 | 208 | 42 | 196 |
| **Лычнева** (Віцебскі раён) | 40 | 185 | 40 | 144 |
| **Любча** (Вілейскі раён) | 21 | 95 | 21 | 93 |
| **Макоўе** (Асіповіцкі раён) | 48 | 248 | 48 | 229 |
| **Пузічы** (Салігорскі раён) | 160 | 915 | 160 | 783 |
| **Рудня** (Кастрычніцкі раён) | 74 | 361 | 74 | 341 |
| **Тупічыцы** (Івацэвіцкі раён) | 43 | 143 | 43 | 143 |
| **Узнаж** (Салігорскі раён) | 68 | 378 | 68 | 371 |
| **Хвойня** (Петрыкаўскі раён) | 284 | 1485 | 284 | 1412 |
| **Хомск** (Драгічынскі раён) | 496 | 2556 | 470 | 1760 |
| **Шоламава** (Гарадоцкі раён) | 49 | 240 | 46 | 230 |
| **Чырвоны Араты** (Кіраўскі раён) | 28 | 230 | 28 | 222 |

Тут пералічаны толькі 22 знішчаныя карнікамі вёскі, а ўсіх «вогненных вёсак» было на Беларусі 5295. З гэтага ліку не адрадзілася 511 вёсак – не засталося тут жывых людзей.

## Развал СССР

У снежні 1922 года з'езд Саветаў прыняў Дагавор аб утварэнні СССР. Урад Беларусі пазбавіўся правоў на самастойную дыпламатычную, ваенную, эканамічную, фінансавую палітыку. Амаль на працягу сямі дзесяцігоддзяў Беларусь ды іншыя савецкія рэспублікі знаходзіліся ў поўным падпарадкаванні Маскве. Імперскае камуністычнае кіраўніцтва не дапускала нават думкі пра самастойнасць рэспублік, уся «рэспубліканскасць» зводзілася да бутафорскіх дэкарацыяў.

Правал путчу ў жніўні 1991 года паклаў канец партакратычнаму ўладаранню КПСС.

19 верасня 1991 года сесія Вярхоўнага Савета БССР змяніла назву дзяржавы з БССР на «Рэспубліка Беларусь» і прыняла «Закон аб дзяржаўных сцягу і гербе».

8 снежня 1991 года ў Віскулях, у Белавежскай пушчы, прадстаўнікі Расіі, Украіны, Беларусі падпісалі Пагадненне аб ўтварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў.

10 снежня Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Пастанову «Аб дэнансацыі дагавора 1922 года аб утварэнні СССР». Савецкі Саюз знік з палітычнай карты свету.

Зараз Беларусь як незалежную дзяржаву прызналі 123 краіны свету.

## Прамяні Чарнобыля




Чарнобыльская атамная электрастанцыя размешчана на мяжы Украіны з Беларуссю. Выбух на чацвёртым блоку, што адбыўся ўначы 26 красавіка 1986 года, выкінуў у наваколле 8 тон радыеактыўнага рэчыва (ёду, цэзію, цэрыю, барыю, стронцыю, плутонію). Лёгкія рэчывы ўзняліся на вышыню да 1 кіламетра. Пад небяспечнае забруджванне трапіла вялізная тэрыторыя – Гомельшчына, Магілёўшчына, некаторыя мясціны Брэстчыны, Міншчыны, Гарадзеншчыны. Усяго 54 раёны рэспублікі. Гэтыя землі складаюць 70 працэнтаў з усіх забруджаных атамным выбухам. На Украіне і ў Расіі разам забруджана радыенуклідамі ў два разы менш зямель, чым на Беларусі. Камуністычнае кіраўніцтва СССР і БССР доўгі час утойвала і замоўчвала памеры радыеактыўнага забруджвання. У небяспечнай зоне нашай краіны апынуліся два мільёны чалавек – пятая частка насельніцтва. Забруджванне цэзіем-137 закранула 3330 населеных пунктаў, дзе пражывае 1890 тысяч чалавек. Са звароту выведзена звыш 20 працэнтаў сельскагаспадарчых угоддзяў, 15 працэнтаў лясоў. Агульныя выдаткі склалі 32 нацыянальных гадавых бюджэтаў Беларусі ў пераліку на бюджэт 1985 года. Пасля 1990 года увесь цяжар фінансавых выдаткаў па пераадоленні наступстваў катастрофы лёг на беларускі народ. Людзі, што жывуць у небяспечнай зоне, церпяць шмат пакутаў. Асабліва гэта тычыцца здароўя дзяцей. Цяжкія захворванні дзяцей узраслі тут у 200 разоў, удвая болей нараджаецца дзяцей з недахопамі развіцця.

## Адлюстраванне дзяржаўнай гісторыі Беларусі ў сцягах



Сцяг полацкага княства, X-XII стст.



Сцяг Наваградскай дзяржавы і ВКЛ. XIII-XVIII стст.



Сцяг Рэчы Паспалітай, 1569-1795 гг.



Страта дзяржаўнасці, 1795-1917 гг.



Сцяг Беларускай Народнай Рэспублікі, 1918 г.



Сцяг БССР, 1919-1951 гг.



Сцяг БССР, ухвалены Сталіным, 1952-1991 гг.



Сцяг Рэспублікі Беларусь, 1991-1995 гг.



Сцяг Рэспублікі Беларусь, 1995 г.

## Скарбы

Падчас войнаў, паўстанняў, міжусобіцаў мноства заможных людзей хавалі свае каштоўнасці ў тайнікі, у дуплы, калодзежы, а часцей закопвалі ў зямлю. Захаваныя так каштоўнасці і грошы становяцца скарбам. Залаты скарб, таямнічы скарб – распаўсюджаны сюжэт фальклору. Знайсці скарб марылі амаль усе, некаторыя людзі іх знаходзілі, таму правы на скарб вельмі даўно рэгулююцца законамі. Паводле Статута ВКЛ скарб, знойдзены на сваёй зямлі, належаў землеўладальніку, на чужой – дзяліўся пароўну паміж уладальнікам зямлі і тым, каму пашанцавала скарб знайсці. У нашай краіне любы скарб лічыцца ўласнасцю дзяржавы.

Першы навукова зарэгістраваны скарб на Беларусі пазначаны 1804 годам. Ён быў знойдзены шляхцічам Рыдзеўскім на сваёй зямлі. 20 залатых манет з гэтага скарбу Рыдзеўскі падараваў імператару Аляксандру І. Гэта былі манеты X – XI стагоддзяў. Захавалі іх, па меркаваннях археолагаў, напрыканцы XI стагоддзя. Летам 1984 года ў Полацку на былым Ніжнім замку знойдзены скарб з шасці залатых рэчаў, выраблены ў IX – X стагоддзях. Агульная вага скарбу – 335 г. Усяго на Беларусі засведчаны знаходкі звыш за 1100 скарбаў, больш за ўсё на Віцебшчыне, Міншчыне, Магілёўшчыне. Відаць, не меншая колькасць знаходак засталася невядомая.

Па сённяшні дзень аточана легендамі таямніца нясвіжскага **«скарбу 12 апосталаў»**. Гэта былі фігуркі апосталаў вышынёй з паўметра, адлітыя з золата (Пятра і Паўла) і срэбра (астатнія дзесяць). Яны ўваходзілі ў калекцыю каштоўнасцяў Радзівілаў. Іх знікненне датуецца 1812 годам, калі на Нясвіж наступалі расійскія войскі. Тады камендант замка перахаваў скарб недзе ў незлічоных падземных сутарэннях. Сам ён загінуў і тайну сховішча знёс з сабой. Спробы адшукаць гэты скарб пакуль што былі безвыніковыя.

Срэбраныя скульптуры апосталаў

Залатыя скульптуры апосталаў

## Любімыя ў народзе песні

### Купалінка

Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?

Мая дочка у садочку
Ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць,
Белы ручкі коліць.

Кветачкі рвець
Кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае.

### Туман ярам, ярам-даліною

Туман ярам, ярам даліною,*
За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зелянога.
Пад тым дубам крыніца стаяла,
З той крыніцы дзеўка воду брала
Ды ўпусціла залато вядзерца,
Засмуціла казакова сэрца.
— Ой, хто ж тае вядзерца дастане,
Той са мною на ручніку стане.
Адазваўся казак маладзенькі:
— Ой, я ж тае вядзерца дастану,
Я ж з табою на ручніку стану.

### Вяне рута

Вяне рута ля прысадаў:
Чарнявая дзяўчыненька —**
Мне дасада!

І не піў бы, і не еў бы, —
Да чарнявае дзяўчыны**
Паляцеў бы!

Паляцеў бы, ды не мушу:
Распаліла чарнявая**
Сэрца, душу.

— Ці ты п'ян быў, ці змыліўся,
Што ў такую некрасівую**
Улюбіўся?

— Я не п'ян быў, не змыліўся:
У дзявочы ясны вочы**
Улюбіўся!

* Кожны радок паўтараецца
** Апошнія два радкі паўтараюцца

### Ой, сівы конь бяжыць

Ой, сівы конь бяжыць,
У яго бела грыва.
Ой, спанаравілась,*
Ой, спанаравілась
Мне тая дзеўчына.

Не так та дзеўчына,
Як яе лічанька.
— Ой, падай, дзеўчына,*
Ой, падай дзеўчына,
Мне белу ручаньку.

Ручаньку падала,
Тры словы казала:
— Няхай бы я жыла,*
Няхай бы я жыла,
Кахання не знала.

Бо тое каханне
З вечора да рання.
Як сонейка ўзыйдзе,*
Як сонейка ўзыйдзе —
Каханне разыйдзе...

### Там каля млына

Там каля млына
Цвіла каліна.
Дзе ж тая дзяўчына,**
Што мяне любіла?

Не так любіла,
Як шанавала,
Купіла коніка,**
Падаравала.

А той конічак,
Быстрыя ногі,
Вёз мяне мой мілай**
Зблудзіў з дарогі.

Ані сцяжынкі,
Ані дарогі.
У хлопца сэрданька**
Млее з трывогі.

— З кім мая мілая
Ручанькі звяжа,
З кім мая мілая**
Спатанькі ляжа?

— Ой, ляжа, ляжа
Сама з табою,
Белыя ручанькі**
Пад галавою.

* Апошнія тры радкі паўтараюцца
** Апошнія два радкі паўтараюцца

## Як сарву я ружы кветку

Як сарву я ружы кветку
Ды пушчу на воду:
— Плыві, плыві ружы кветка,
Да самога броду.

Плыла, плыла ружы-кветка
Ды стала круціцца,
Выйшла маці воду браці
Ды стала дзівіцца.

— Што ж ты, мая ружа-кветка,
На вадзе завяла?
Відаць, доўга ты, дзіцятка,
На вадзе ляжала?

— Ой, пі, маці, ту вадзіцу,
Што я нанасіла,
Любі, маці, таго зяця,
Што я палюбіла.

— Ой, не буду вады піці,
Буду разліваці,
Не буду зяця любіці,
Буду забываці.

## Ці ўсе лугі пакошаны?

Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сенажаці?
Пытаецца сын у мацеры,*
Ды каторую ўзяці?

А ці тую багатую,
Што хараша ходзіць,
А ці тую сіраціначку,*
Што ўсё добра робіць?

А ці тую багатую,
Што валы, каровы,
А ці тую сіраціначку,*
Што чорненькі бровы?

У багатай, нехарошай
Валы паздыхаюць,
А ў беднае сірацінaчкі*
Броўкі не зліняюць.

*Апошнія два радкі паўтараюцца

## Явар і Каліна

*словы Я. Купалы*

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеляняй хваляцца
Небу панятлівай мовай,
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым.

Чуецца музыка дзіўная
Ў повесцях сонных імшараў,
Цешыцца явар з калінаю,
Скінуўшы зімнія чары.

## Зорка Венера

*словы М. Багдановіча*

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прынясла.
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас...
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.

Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе, — у расстанні
З ёю зліем мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прынясла.
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

## Слоўнічак малавядомых слоў

**Вунія** — саюз, аб'яднанне.

**Гуф** — баявы парадак харугвы, атрада.

**Збор** — кальвінісцкі храм.

**Лупы** — ваенная дабыча, трафеі.

**Маёнтак** — шляхецкае зямельнае валоданне разам з сядзібай (дваром).

**Манстранц** — спецыяльны царкоўны сасуд ювелірнай вырабкі для захоўвання святых дароў.

**Парафія** — каталіцкі царкоўны прыход.

**Пацір** — царкоўны кубак для прычасці.

**Посілкі** — дапамога, ваенны атрад, дасланы на дапамогу.

**Рака** — царкоўная скрыня для захоўвання мошчаў святога. Магла быць вельмі каштоўнай.

**Сталец** — прастол, трон.

**Спадчына па мечу** — спадчына па бацькоўскай лініі, **па кудзелі** — па лініі маці.

**Харугва** — полк, таксама сцяг палка.

**Шыхт** — шарэнга.

**Шэраговы** — радавы.




**Тарасаў К.**

Т 19 Беларусь: Гістарычнае падарожжа для дзяцей / Маст: С. Рыжыкава, М.Чаркасаў, В.Бугаенка, Г.Тарасава. Мн.: Лекцыя, 1999. 112 с. - іл. ISBN 985-6305-04-7.

Кніга знаёміць юнага чытача з галоўнымі падзеямі беларускай мінуўшчыны ад узнікнення першых гарадоў да абвяшчэння дзяржаўнасці ў 1918 годзе, з духоўнай і архітэктурнай спадчынай.

**УДК 087.5:947.6+882.6-4**

**ББК 63.3(4Бен)+84(4Бен)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

КАСТУСЬ ТАРАСАЎ

**БЕЛАРУСЬ**

Гістарычнае падарожжа для дзяцей

Для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту

Адказны за выпуск *К.Матусевіч*

Падпісана ў друк з арыгінал-макета 01.09.99. Фармат 60×84 1/8. Папера афсетная. Гарнітура кудрашоўская энцыклапедычная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 13,02. Ул.-выд. арк. 14,00. Наклад 3000 асобн. Замова 3001.

ТАА "Лекцыя". Ліцэнзія ЛВ № 223 ад 25.02.1998 г. 220029, Мінск, вул. Старажоўская, 5.

"Бацькаўшчына". Ліцэнзія № 123 ад 17.12.1997. 220053, Мінск, Даўгінаўскі тракт, 52/9

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка на ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінаце ВПП імя Я. Коласа. 220005, Мінск, вул. Чырвоная, 23.


*Спадчына, страчаная
ў папярэднія стагоддзі,
мае аднавіцца праз наш
клопат пра Радзіму*


РЫНКАВАЯ




КОЙДАНАВА КАЛЬВІНСКІ ЗБОР


СЯДЗІБА ХРАПТОВІЧА
Ў ШЧОРСАХ


МАГІЛЁЎСКАЯ РАТУША





